Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№27 (4622) 8 ліпеня 2011 г.

## У нумары:











# З юбілеем, фестываль!

**Лана ІВАНОВА,**
**фота Віктара Кавалёва**
**і з архіва рэдакцыі,**
**калаж Віктара Калініна**

**Сёння ўвечары адбудзецца ўрачыстае адкрыццё "Славянскага базара ў Віцебску" — міжнароднага фестывалю мастацтваў, які мае і свае непаўторныя традыцыі, і сусветную вядомасць, і ўжо даволі працяглую адметную гісторыю.**
**Так, "Славянскі базар у Віцебску" — свята з гісторыяй: сёлета яно ладзіцца дваццаты раз, таму ў праграме гэтага папулярнага штогадовага праекта з'явіўся заўважны юбілейны акцэнт.**



Гадзіннік на старажытнай Віцебскай ратушы пачаў адлічваць фестывальны час, бо стракатае шумнае свята апанавала берагі Дзвіны яшчэ да яго афіцыйнага адкрыцця. Ужо два вечары і дзве ночы запар на галоўнай пляцоўцы "Славянскага базара" — канцэрты: у сераду сюды прыйшлі фанаты французскіх гасцей Дзідзье Маруані ды групы "Спэйс", учора — прыхільнікі расіянкі Надзеі Кадышавай ды яе "Золотого кольца", і следам — сапраўдныя эстэты, якія не маглі прамінуць канцэрт славутага Хору Турэцкага.

Чым будзе адметны сённяшні віцебскі вечар? Урачыстай цырымоніяй адкрыцця фестывалю. Вялікім канцэртам з удзелам вядомых айчынных і замежных салістаў, творчых асоб, музычных і танцавальных ансамбляў, фальклорных і эстрадных дзіцячых калектываў. Ці варта іх пералічваць? Сёння кожны наш суайчыннік, хто цікавіцца падзеямі на "Славянскім базары", мае магчымасць паглядзець па тэлебачанні або паслухаць у радыёэфіры жывую трансляцыю імпрэзы. А дзякуючы спадарожнікаваму тэлеканалу пабываць у святочным Віцебску змогуць мільёны жыхароў іншых краін! Наогул жа, ва ўсёдыісnасці ды апаратыўнасці асвятлення "Славянскага базара" нават штодзённым газетам не параўнацца з электроннымі СМІ, фестывальнымі відэадзённікамі, рэпартажамі. Адзін з іх, безумоўна, будзе прысвечаны адкрыццю імяннай зоркі народнага артыста СССР Ігара Лучанка на сімвалічнай Алеі зорак, дзе гэтыя адмысловыя знакі ўсталёўваюцца ў гонар уладальнікаў спецыяльнай узнагароды Прэзідэнта Беларусі "Праз мастацтва да міру і ўзаемаразумення". І сёлета гэтая ўзнагарода будзе ўручана нашаму знанаму творцу, старшыні Беларускага саюза кампазітараў Ігару Лучанку.

Нягледзячы на складаныя эканамічныя ўмовы, арганізатарам свята ўдалося захаваць і яго фармат, і традыцыі. Аднак было вырашана адмовіцца ад некаторых нерэнтабельных праграм, на якія масавы глядач неахвотна купляў білеты (праект славутага харэографа Б. Эйфмана, вечар гумару М. Галкіна, сольны канцэрт А. Агурбаш), пра што гаварылася на нядаўняй прэс-канферэнцыі, праведзенай у Мінску. Прытым генеральны дырэктар дырэкцыі фестывалю Радзівон Бас падкрэсліў: калі б у перыяд эканамічнага крызісу фестываль не меў дзяржаўнай падтрымкі, ён не адбыўся б. Дапамагло тое, што дзяржустановы, якія былі фінансавымі партнёрамі, сталі цяпер спонсарамі "Славянскага базара". Істотна падтрымалі фестываль Беларуская чыгунка, Кіраўніцтва справамі Прэзідэнта, Палац Рэспублікі, Міністэрства культуры са свайго бюджэту, запланаванага на іншыя мерапрыемствы, віцебскія аблвыканкам, гарвыканкам і гасцінічная гаспадарка Віцебска. Сёлета, як ніколі раней, дапамаглі фестывалю і самі гледачы: тыдзень таму было раскуплена амаль 92 працэнты білетаў, большая частка якіх набывалася па безнаяўным разліку арганізацыямі, у тым ліку турыстычнымі кампаніямі, прытым упершыню — з дапамогай Інтэрнэта.

Кожны фестывальны дзень — гэта чарада размаітых падзей па-за межамі галоўнай пляцоўкі. Віцебск прыме спектаклі Маскоўскага акадэмічнага тэатра імя У. Маякоўскага, Тэатра Рамана Віктюка, Міжнароднага тэатральнага цэнтра "Шанс" з Расіі. Адбудуцца кінапаказы, у тым ліку беларускія прэм'еры — дакументальнай стужкі "Базарны век" рэжысёра Надзеі Гаркуновай і мастацкага фільма для дзяцей "Рыжык у Залюстрэччы" Алены Туравай. Чакаецца шоу барабанаў "Богі рытму" з удзелам беларускіх, літоўскіх ды польскіх перкусіяністаў, канцэрт Даўгаўпілскага камернага аркестра. Выставачная зала "Духоўскі круглік" прывабіць экспазіцыяй, прысвечанай гісторыі віцебскіх замкаў ды 20-годдзю "Славянскага базара", а Мастацкі музей — прэзентацыяй выставак з Латвіі "Народныя касцюмы Латгаліі"... У Летнім жа амфітэатры, як заўсёды, пройдуць канцэрты, прымеркаваныя адпаведна да фестывальнага Дня Беларусі, Расіі, Украіны і Саюзнай дзяржавы.

Галоўны юбілейны сюрпрыз рыхтуецца на 12 ліпеня. Запланаваны на гэты вечар святочны канцэрт "З юбілеем, фестываль!" збярэ на сцэне Летняга амфітэатра лаўрэатаў і пераможцаў міжнародных конкурсаў, што ладзіліся ў межах "Славянскага базара" з 1992 па 2010 гады. Удзельнікам будзе і чулы партнёр як маладых канкурсантаў, так і сусветна прызнаных зорак эстрады, — Нацыянальны акадэмічны канцэртны аркестр Беларусі пад кіраўніцтвам Міхаіла Фінберга. Пад акампанемент знанага аркестра будуць спяваць і прэтэндэнты на лаўры міжнароднага конкурсу выканаўцаў эстраднай песні "Віцебск-2011". Іх сёлета 20, нашу краіну прадстаўляе салістка прадзюсарскага цэнтра "Спамаш" Алена Ланская. Паводле ўмоў дзіцячага конкурсу на "Славянскім базары" Беларусь будзе прадстаўлена дзвюма юнымі выканаўцамі: мінскімі школьніцамі Ганнай Атрошчанкай ды Аляксандрай Няхай.

Вынікі конкурсу "Віцебск-2011", журы якога ўзначаліць міністр культуры Беларусі Павел Латушка, будуць вядомыя ў сераду.

Урачыстае закрыццё "Славянскага базара" — 14 ліпеня, але свята затрымаецца ў Віцебску яшчэ на пару дзён.

## Пункцірам

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка даў згоду на назначэнне Алега Сільвановіча генеральным дырэктарам рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства "Нацыянальная кінастудыя "Беларусьфільм".

У Славеніі ўпершыню адкрыліся Дні Беларусі. Гэта мерапрыемства, якое распачалося 5 ліпеня, прымеркавана да Дня Незалежнасці Рэспублікі Беларусь. Нашу краіну прадстаўляць беларускі дзяржаўны харэаграфічны ансамбль "Харошкі", а таксама маладыя мастакі Надзея Гадун і Яна Ярэська, выстава якіх прапанавана ўвазе славацкіх гледачоў. Праграмай таксама прадугледжана прэзентацыя беларускіх інвестыцыйных і турысцкіх магчымасцей.

Унесеныя ў генеральны план Полацка карэктывы дазволяць вылучыць больш за 100 гектараў для стварэння турыстычнай інфраструктуры ў цэнтральнай частцы горада. Шматфункцыянальны турыстычны комплекс з'явіцца ў раёне Спаса-Еўфрасіннеўскага манастыра. Будзе пабудаваны пешаходны мост праз Заходнюю Дзвіну, які злучыць раён Задзвіння з цэнтральнай часткай горада. Шэраг вытворчых аб'ектаў будзе вынесены за межы горада.

Экспазіцыі выстаўкі "Беларусь стваральная", падрыхтаваныя фотакарэспандэнтамі БЕЛТА, прадстаўлены ў двух буйнейшых установах культуры Гомеля — Палацы Румянцавых-Паскевічаў і Палацы культуры чыгуначнікаў. Увазе наведвальнікаў прапанавана каля сотні фотаработ з аднайменнага альбома, выдадзенага Беларускім тэлеграфным агенцтвам у канцы мінулага года. Знаёмства з імі дае магчымасць гамяльчанам і гасцям горада атрымаць цікавую інфармацыю пра ўзведзеныя за апошнія гады ў нашай краіне аб'екты і будынкі.

Міністэрствы адукацыі Беларусі і Расіі праводзяць турыстычны злёт навучэнцаў Саюзнай дзяржавы. Цырымонія яго адкрыцця адбылася ў гістарычным месцы — Мірскім замку. Асноўныя ж турыстычныя спаборніцтвы праходзяць у Стаўбцоўскім раёне. На злёт з'ехаліся больш за 600 чалавек — 34 расійскія і 8 беларускіх каманд. Пераможцы атрымаюць кубкі і памятныя прызы.

Скульптура "Дзеці вайны" ўсталявана ў Парку партызанскай славы імя Міная Шмырова ў Віцебску. Кампазіцыя скульптара Валерыя Магучага ўяўляе сабой дзве дзіцячыя постаці — хлопчыка-падлетка і маленькай дзяўчынкі, якія сядзяць на прыступках разбуранага дома. Хлопчык трымае ў руках кавалак хлеба.

Памятныя знакі страчаным храмам усталююць у Гродне. Гродзенскі гарвыканкам абвясціў конкурс на распрацоўку эскізаў знакаў, якія паўстануць на месцы разбураных цэркваў. У конкурсе прымаюць удзел прафесіяналы з мастацкай і архітэктурнай адукацыяй.

Польскія вучні, пераможцы Усяпольскай алімпіяды па беларускай мове пабывалі ў Беларусі. Экскурсія была арганізавана дыпламатычнай місіяй Беларусі ў Варшаве. За тры дні 17 польскіх вучняў з Беластока, Гайнаўкі і Бельска-Падляскага наведалі Гродна, Навагрудак, Ліду і Мір.

**Падрыхтавала Ірына АЛЯКСАНДРАВА**

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

**У мінулым нумары "Літаратура і мастацтва" расказала пра Пленум Саюза пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы, які праходзіў у Брэсце. Няма сумневу, што творчыя людзі, якія прынялі ўдзел у Пленуме, кожны па-свойму бачаць гэту сустрэчу. Сёння мы прапануем вам нататкі аднаго з удзельнікаў — погляд творцы і прафесіянала.**

**Васіль ШЫРКО, галоўны рэдактар часопіса Саюза пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі "Белая вежа"**

# Крэпасці не здаюцца

### Добры дзень, Алесь Іванавіч!

У музеі Брэсцкай крэпасці-героя затрымаліся надоўга. Углядаліся ў твары абаронцаў легендарнай цвярдыні над Бугам, цікавіліся зброяй, задавалі пытанні экскурсаводу. А я чакаў сустрэчы са сваім уздзенскім земляком, светлым, сардэчным чалавекам, добрым, неканфліктным, якога любілі, бадай, усе, хто яго ведаў. Любілі за шчодрасць душы, гасціннасць. У яго мінскай кватэры неаднойчы начаваў Сяргей Смірноў, пабывалі ці не ўсе абаронцы Брэсцкай крэпасці, якія прыязджалі ў Беларусь.

Чакаў гэтай сустрэчы, і яна адбылася. З фатаграфіі, знятай сапраўдным майстрам, на мяне глядзеў, быццам жывы, Алесь Іванавіч Махнач. Сарамліва-журботная ўсмешка, даверлівы пагляд з-пад акуляраў. Здаецца, падымецца, высокі, прыгожы, пераконе кіёк у левую руку, а правую працягне мне: "Дзень добры, Васіль! Як там нашы землякі маюцца? Нябось, сонца дапякло? Дажджу чакаюць…"

— Гэты здымак Алеся Іванавіча Махнача, абаронцы Брэсцкай крэпасці, слыннага драматурга, зроблены ў апошні яго прыезд у Брэст, — пачуў голас экскурсавода. — Ён часта наведваў наш музей, нярэдка з самім Сяргеем Смірновым. Падарыў свае кнігі, у тым ліку "Гаўрошы Брэсцкай крэпасці". Спектаклі паводле гэтай пранізлівай патрыятычнай драмы ішлі ў дзясятках тэатраў краіны, толькі ў Львове "Гаўрошы…" ставілісяна падмостках абласнога тэатра больш як пяцьсот разоў!

Раніца, 22 чэрвеня 1941 года. Цішыня, "як дзюбы птушанят, што вось-вось праклюнуць шкарлупінне". Адцёхкалі, перасталі брацьсвае каленцы салаўі прыгранічча, яшчэ не прачнулася птаства. І раптам выбухі: артабстрэл, бамбёжка. Са ста дваццаці байцоў у роце засталося менш чым дваццаць. Камандзір адзін, ён, Алесь Махнач, дзевятнаццацігадовы юнак, выпускнік ваеннага вучылішча, які толькі суткі як прыбыў служыць па размеркаванні ў крэпасць.

— Ро-ота! Я — лейтэнант Махнач… Слухай маю каманду… — выгукнуў Алесь.

Адбіты фашысцкія атакі, адна, другая, трэцяя… Жменька байцоў стрымлівала шалёны наступ фашыстаў, якія разлічвалі ўзяць крэпасць за дзевяць гадзін. Нашы з хвіліны на хвіліну чакалі дапамогі. Яе не было. На другі дзень абаронцы знайшлі цудам ацалелую рацыю. Радыст загінуў, і Алесь (ён вывучаў рацыю ў вучылішчы) пасылаў у эфір пазыўныя. Адказвалі паўсоль толькі фашысты. Замянілі антэну. Закінулі дрот на абгрызеныя снарадамі сцены, павалічылі радыус работы станцыі, але і за сотню кіламетраў сваіх не было. Стала ясна: радзіме цяжка, няма адкуль чакаць дапамогі, трэба адбівацца самім. Гадзіны здаваліся доўгімі, як дні, а дні, як тыдні. Цяжкае раненне, палон. Пасля вайны Алесь Іванавіч некалькі год ляжаў у ваенным шпіталі, а як стаў на ногі, вярнуўся на родную Уздзеншчыну: загадваў Прысынкаўскай сельскай бібліятэкай, пасля — Забалацкай, пісаў аднаактоўкі, удзельнічаў у мастацкай самадзейнасці, калясіў на веласіпедзе ад вёскі да вёскі.

Аднойчы будучы драматург асмеліўся пасланць сваю аднаактоўку ў штотыднёвік "Літаратура і мастацтва". Надрукавалі. Праз год Васіль Вітка запрасіў драматурга-пачаткоўца на пастаянную працу ў "ЛіМ".

А памяць усё часцей і часцей вяртала Алеся Іванавіча ў Брэсцкую крэпасць, згадвалася апаленая вайной маладосць.

"Напішы пра крэпасць, — сказаў аднойчы Сяргей Смірноў. — Гэта, Алеська, твой абавязак!" І ён напісаў "Дзеці крэпасці". Дакументальная аповесць пра юных герояў Пецю Клыпу, Колю Новікава, Валодзю Казьміна, Пецю Кацельнікава, Валю Зенкіну, Нюру Кіжаватаву разышлася за лічаныя дні. Аўтар атрымаў дзясяткі лістоў ад дзяцей, юнакоў, іх бацькоў. Гэта не магло не радаваць, натхняць на новыя творы. Хутка ўбачыла свет дакументальная кніга пра Героя Савецкага Саюза, легендарнага маёра Гаўрылава, які больш за месяц кіраваў абаронай Усходняга форта. Каб не здацца ў палон, ён кінуўся на штыкі фашыстаў. Здзіўлены яго мужнасцю, адвагай, нямецкі афіцэр загадаў цяжка параненага абаронцу крэпасці вылечыць і быццам сказаў сваім салдатам, што мужнасць савецкага маёра заслугоўвае найвялікшай павагі. Дзякуючы такім людзям, як Пётр Міхайлавіч Гаўрылаў, наш зямляк Алесь Іванавіч Махнач, удалося зламаць хрыбет фашыстам.

Пісьменнікі падарылі бібліятэцы музея кнігі, копію Сцяга Перамогі, які будзе тут захоўвацца вечна.

### Былі зборы нядоўгімі

Празаікі, паэты, публіцысты Беларусі і Расіі заўсёды падтрымлівалі цесныя сувязі. І ніколі гэтыя сувязі не давалі трэшчыны. Літаратары перакладалі лепшыя творы на мовы сваіх народаў. Часта сустракаліся. Любы беларускі школьнік, які вывучае творчасць Купалы і Коласа, ведае, што яшчэ да рэвалюцыі аб нашых слынных паэтах цёпла адгукаўся Максім Горкі. Шчыра сябравалі Твардоўскі і Куляшоў, Быкаў і Астаф'еў, Ісакоўскі і Панчанка… У свой час, калі я працаваў на тэлебачанні загадчыкам аддзела літаратурнай рэдакцыі, мы аб'ехалі паў-Расіі, распавядаючы пра пісьменніцкія стасункі двух брацкіх народаў. Прыемна адзначыць, што гэтыя стасункі падтрымліваюцца і сёння, і больш за тое, мацнеюць. І ў гэтым, канечне, вялікая заслуга старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалая Чаргінца і яго расійскага калегі Валерыя Ганічава. Яны пастаянна тэлефануюць адзін аднаму, абмяркоўваюць прапановы, планы на будучае.

У снежні 2009 года ў Мінску ў вялікай зале Нацыянальнай бібліятэкі адбыўся ўстаноўчы сход Саюза пісьменнікаў Саюзнай Дзяржавы Беларусі і Расіі. Гэта падзея, пра якую марыў старшыня Міжнароднага згуртавання пісьменніцкіх Саюзаў Сяргей Міхалкоў, не засталася незаўважанай у брацкіх краінах. Дэлегатаў з'езда віталі прэзідэнты Аляксандр Лукашэнка і Дзмітрый Мядзведзеў, Старшыня Дзяржаўнай Думы Федэральнага Схода Расійскай Федэрацыі Барыс Грызлоў, Дзяржаўны сакратар Саюзнай дзяржавы Павел Барадзін, Патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі Кірыл, Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі Філарэт. У адрас з'езда прыйшлі віншаванні ад многіх пісьменнікаў краін бліжняга і далёкага замежжа.

Праз паўгода ў Курску адбыўся выязны сумесны Пленум Саюза пісьменнікаў Беларусі і Расіі. І вось аўтобус імчыць дэлегацыю беларускіх літаратараў у Брэст на чарговы Пленум Саюза пісьменнікаў Беларусі і Расіі. Тэма пленума — "Роль літаратуры ў захаванні гістарычнай праўды аб подзвігу савецкіх народаў у гады Вялікай Айчыннай вайны і патрыятычным, грамадзянскім выхаванні суайчыннікаў".

### Музы не павінны маўчаць…

На Пленуме панавала добразычлівая атмасфера. І Мікалай Чаргінец, і Валерый Ганічаў згадвалі паэтаў, празаікаў, муза якіх у гады вайны не маўчала. "Трэба сёння, — адзначалі пісьменнікі, — выхоўваць у маладога пакалення любоў да роднай зямлі, нашых продкаў, людзей, якія сваёй працай памнажаюць багацце радзімы".

— Я першы раз у Брэсце, — гаварыў Станіслаў Куняеў. — Нашы ворагі, фальсіфікатары гісторыі бессаромна хлусяць, сцвярджаючы, што савецкія воіны не любілі савецкую ўладу, не хацелі ваяваць. Сведчанне мужнасці — Брэсцкая крэпасць-герой, якую абаранялі рускія, беларусы, украінцы, азербайджанцы, узбекі…

Такім жа ўсхваляваным было выступленне дзевяностадвухгадовага Міхаіла Гадэнкі, паэта, празаіка, ветэрана Вялікай Айчыннай вайны, кавалера многіх ордэнаў і медалёў.

— Гады калі не ўмораць, то скрывяць. Не думаў, што дажыву да такога немаладога і нават не сталага, а старэчага ўзросту. На вайне гінулі маладыя. Я ніколі не хаваўся за спіны сваіх таварышаў. І не вінаваты, што іх, маіх сяброў, няма цяпер побач. А раз застаўся жывы — хачу расказаць людзям пра перажытае. Выступаю ў школах, перад студэнтамі. Вельмі рады, што літаратурныя сувязі нашых брацкіх славянскіх народаў мацнеюць. Быў я на аб'яднаным з'ездзе ў Мінску, і вось тут, у Брэсце, хачу сказаць: якое шчасце, што мы разам, як кажуць беларусы, у адной сябрыне.

"Наша літаратура ў пасляваенныя гады глыбока і праўдзіва адлюстравала гераічнае мінулае народа, — гаворыцца ў прынятай рэзалюцыі Пленума, — стварыла яркі вобраз абаронцы Айчыны на франтах і ў тыле ворага...

Пленум лічыць неабходным звярнуць увагу ўсіх літаратараў Саюза пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы, а таксама кіраўнікоў і супрацоўнікаў літаратурнай перыёдыкі, заснавальнікамі якіх з'яўляецца наша творчая арганізацыя, на неаслабную актуальнасць тэмы Вялікай Айчыннай вайны, подзвігу народа ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў...

Пленум Саюза пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы мае на мэце супрацьпаставіць сваю творчасць, патрыятычную грамадзянскую пазіцыю любым спробам непрыяцеляў апашліць, сказіць праўду аб вайне, ролю савецкага народа ў вызваленні свету ад фашысцкага ярма. Пісаць пра вайну праўдзіва — грамадзянскі абавязак пісьменніка, бо літаратура застаецца ў стагоддзях, а яна павінна данесці гістарычную праўду будучым пакаленням".

### Сустрэчы, сустрэчы

У знакамітым на ўсю Беларусь СВК "Астрамечава" Брэсцкага раёна пісьменнікаў сустракаў старшыня гаспадаркі Аляксей Скакун. Васьмітысячныя надоі малака, кілаграмовыя прывагі на адкорме буйной рагатай жывёлы, цудоўныя сады — гэта толькі, вобразна кажучы, бачная частка айсберга ад поспехаў слаўтага калектыву, пра нязменнага кіраўніка якога Уладзімір Ліпскі напісаў дакументальную аповесць "Мужык". У Ліпскага сустракалі як свайго. Але большасць з нас трапілі ў "Астрамечава" упершыню. Валерый Ганічаў шчыра дзякаваў удзельнікам мастацкай самадзейнасці, спевакам, танцорам.

…Сустрэчы, сустрэчы. Цікавы, цёплы аповед аб вобласці Леаніда Цупрыка, намесніка старшыні Брэсцкага аблвыканкама. І ўжо зусім нечаканы паварот: удзельнік Пленума з Расіі Юрый Носаў з'ездзіў у Кобрын і адшукаў дом, дзе яго сям'я жыла да вайны… семдзесят чэрвеняў таму.

— Мне было пяць год, але добра памятаю, як бацька, афіцэр Чырвонай Арміі, развітваўся з намі, апошні раз у жыцці пацалаваў мяне. Памятаю, як па дарогах шынельнага колеру выходзілі з мамай з акружэння. Заплюшчу вочы і бачу тату ў афіцэрскай форме, людзей, суседзяў, якія бескарысліва дапамагалі нам. Беларусь цяпер для мяне — другая радзіма.

Слухаць такую споведзь без хвалявання нельга, як і нельга перадаць у невялікім артыкуле ўсе ўражанні ад Пленума.



***На здымку: Мікалай Чаргінец і Валерый Ганічаў.***

Літабсягі

# У прасцяг шырокі

**Аповесць Уладзіміра Караткевіча “Дзікае паляванне караля Стаха” была перакладзена і ўпершыню надрукавана на беларускай, рускай, украінскай і англійскай мовах асобнаю кнігаю ў 2010 годзе. Яна выйшла літаральна за 10 дзён да дня нараджэння пісьменніка і прэзентавалася найперш у Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі, а ў дзень народзінаў Уладзіміра Караткевіча — на яго радзіме ў Оршы. Цяпер пра кнігу, выданне якой ініцыіравала Міністэрства культуры Беларусі і выдаў Беларускі фонд культуры, ведаюць не толькі ў Беларусі. Як паведамляе прэс-служба Міністэрства культуры Беларусі, прэзентацыі кнігі адбыліся ў 10 краінах свету – Азербайджане, Арменіі, Казахстане, Латвіі, Літве, Малдове, Польшчы, Расіі, Украіне, Эстоніі.**



Ярына РЫТАМІНСКАЯ

Пісьменнік застаўся нястомным у сваім жаданні адкрываць чытачу ў мастацкіх творах сваю радзіму, яе гістарычнае мінулае. І чытач выйшаў за межы адной краіны.

Як вядома, нядаўна была адкрыта бібліятэка імя Уладзіміра Караткевіча ў Таліне. Прэзентацыя кнігі беларускага аўтара была з цікавасцю прынятая яе заўсёднікамі. У Латвіі прэзентацыя адбылася ў Акадэмічнай бібліятэцы, бібліятэцы Латвійскага ўніверсітэта і Рыжскай беларускай школе. У рамках XII Міжнароднага кніжнага кірмашу кніга прэзэнтавалася ў Вільнюсе.

У Расіі беларускі фаліянт змаглі пабачыць і пачытаць жыхары Санкт-Пецярбурга, Навасібірска, Іжэўска. Творчыя вечарыны па беларускай спадчыне, яскрава прадстаўленай у творы Уладзіміра Караткевіча, праходзілі ў Рэспубліканскім доме-музеі П. Чайкоўскага ў Воткінску і Удмурцкай Рэспубліканскай нацыянальнай бібліятэцы.

Чатырохмоўны варыянт аповесці беларускага аўтара і асабліва пераклад на ўкраінскую высока ацэнены ў Кіеве — пры ўдзеле прадстаўнікоў беларускай дыяспары, студэнтаў, якія вывучаюць беларускую мову, грамадскасці і прэсы. Прэзентацыя аповесці ў краіне-суседцы была арганізавана Пасольствам Беларусі ва Украіне і Нацыянальнай бібліятэкай. Тры асобнікі кнігі перададзены беларускім пасольствам Нацыянальнай бібліятэцы і Нацыянальнаму музею літаратуры Украіны, Цэнтру беларускай мовы і культуры пры Інстытуце філалогіі Кіеўскага нацыянальнага ўніверсітэта. “Плануецца, — заўважыў карэспандэнту “ЛіМа” старшыня Беларускага фонду культуры Уладзімір Гілеп, — што падчас адкрыцця ў Кіеве помніка Уладзіміру Караткевічу адбудзецца яшчэ адна ўрачыстая прэзентацыя кнігі, а разам з тым — і нашай Беларусі, якая прысутнічае ў кожным творы аўтара”. Ва ўсіх краінах прэзентацыі адбываліся пры ўдзеле беларускіх таварыстваў і суполак.

Зусім нядаўна, у чэрвені, кнігу і творчы калектыў яе выдаўцоў сустракалі на філалагічным факультэце Варшаўскага ўніверсітэта і ў Культурным цэнтры Беларусі ў Польшчы. Арганізатарамі акцыі па прэзентацыі выступілі Міністэрства культуры, Міністэрства замежных спраў, Беларускі фонд культуры, дыпламатычныя і консульскія ўстановы Рэспублікі Беларусь за мяжой.

Артлінія

Віктар КАВАЛЁЎ,
фота аўтара

# Сімвалічны свет творцы

**Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь запрашае наведаць выстаўку “Архетыпальная прастора” малдаўскага мастака, генеральнага дырэктара Нацыянальнага мастацкага музея Малдовы Тудара Збырні. Экспазіцыя прысвечана 20-годдзю Незалежнасці Рэспублікі Малдова і арганізавана НММ нашай краіны і Пасольствам Рэспублікі Малдова ў Беларусі.**



Тудар Збырня скончыў Рэспубліканскае мастацкае вучылішча імя І. Рэпіна і аддзяленне жывапісу Універсітэта мастацтваў імя Дж. Енеска ў горадзе Ясы (Румынія), з'яўляецца членам саюзаў мастакоў Малдовы і Румыніі, узначальвае секцыю жывапісу. Ён удзельнік больш як 200 калектыўных і персанальных выставак у Бельгіі, Германіі, Галандыі, Італіі, Літве, Расіі, Фінляндыі, Францыі…

Падчас прэс-канферэнцыі, прысвечанай выстаўцы, дырэктар НММ Беларусі Уладзімір Пракапцоў і Тудар Збырня падпісалі рамачную дамову аб творчым супрацоўніцтве паміж музеямі.

Выступаючы перад прысутнымі, Тудар Збырня падкрэсліў, што вельмі складана спалучаць дзве прафесіі — мастака і дырэктара музея. Мастак павінен пастаянна працаваць, думаць, шукаць новыя формы выяўлення. У яго творчасці чатыры асноўныя сімвалы: цэнтр, кола, квадрат і крыж. Крыж не заўсёды азначае хрысціянскі пачатак, ён як бы злучае гарызанталі і вертыкалі нашага жыцця. Прадстаўленыя работы напісаны цягам апошніх гадоў. Аўтар аб'яднаў у сваёй экспазіцыі частку сваіх пошукаў у галіне геаметрычных форм і асіметрычных структур, што вельмі складана ў жывапісе. Бо сіметрыя на плоскасці вельмі складаная і рызыкоўная, стварае статычнасць. Творца ўвесь час шукае дынаміку ў сіметрыі. Гэта частка яго самага, яго свету. Тудар Збырня адзначыў, што ў Малдове вялікая ўвага надаецца маладым творцам: іх запрашаюць у журы, ладзяць шматлікія конкурсы ды выстаўкі. Бо без развіцця моладзі не будзе і працягу творчага жыцця.

Румынскі жывапісец Марын Герасім адносіць Тудара Збырню да плеяды тых, хто даследуе пры дапамозе мастацтва вобласць эстэтыкі і этыкі, а дакладней сказаць, эстэтыку, арганічна пераплеценую з этыкай… Па яго азначэнні, Тудар Збырня з'яўляецца маралістам, які медытуе над сэнсам быцця, але робіць гэта строга з дапамогай мастацтва, робіць гэта знутры, не дадаючы малюнку залішні знешні дыскурс.

Экспрэсіўнае напружанне, характэрнае для работ Т. Збырні, ёсць вынік разважанняў пра месца чалавека ў гэтым свеце. Яно цесна пераплецена з разважаннямі пра прыроду жывапісу. Пры гэтым экспрэсіянізм майстра добра дазіраваны. Мастак не скажае формы да непазнавальнасці і нячаста выкарыстоўвае кантраст колеру і тоны. У яго работах няма гратэску, крыку адчаю, жэсту безнадзейнасці.

*На здымку: Тудар Збырня “Пласты памяці II”.*

Повязі

Лізавета БАГАДЗЯЖ,
фота Кастуся Дробава

# Узбекскі сябра Коласа

**Сярод культурных праектаў Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа вылучаецца адзін — “Мы родам з СССР”. У межах яго музейныя супрацоўнікі арганізуюць вечарыны, падчас якіх згадваюцца і ўзнаўляюцца сувязі паміж народамі былога Савецкага Саюза і іх выдатнымі творцамі. Чарговая вечарына “З узбекам песню адной мовай складалі аб вайне” была прысвечана 90-годдзю з дня нараджэння ўзбекскага класіка Мірмухсіна Мірсаідава.**



Безумоўна, усе мерапрыемствы, якія праходзяць у сценах Дома Коласа, маюць пэўнае дачыненне да славутага гаспадара. Вось і згаданая вечарына, прысвечаная Мірмухсіну Мірсаідаву, была запланавана невыпадкова. Празаік і паэт, народны пісьменнік Узбекістана, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Узбекістана, Мірсаідаў з'яўляўся яшчэ і проста сябрам Якуба Коласа. Сябрам, нягледзячы на вялікую розніцу ва ўзросце — амаль сорак гадоў. Адным з тых, хто гасцінна прыняў беларускага паэта ў Ташкенце ў жніўні 1941 года.

Вайной, крывавай і бязлітаснай, былі запоўнены ўсе нашы думкі, усе радыёэфіры, усе старонкі газет і часопісаў. На беларускай зямлі змагаліся з фашыстамі сярод іншых і ўзбекі. А ў Ташкенце плакалі над лёсам беларускіх гарадоў і вёсак. Мірмухсін Мірсаідаў, пазнаёміўшыся з творчасцю Якуба Коласа, палюбіў яе. І — гэта вельмі натуральна — пераклаў яго творы на ўзбекскую, прадставіўшы іх сваім землякам.

На вечарыне ў Доме Коласа шмат казалі пра любоў і павагу ўзбекскага народа да нашага песняра. Прысутныя даведаліся, што ў далёкім 1942 годзе культурны асяродак Ташкента цёпла і шырока адзначыў 60-годдзе Коласа. Некаторыя з падарункаў, прывітальных лістоў, віншавальных тэлеграм, атрыманых пісьменнікам, сталі экспанатамі музея Коласа ў Мінску. Разам з іншымі дакументамі таго часу, рукапісамі вершаў нашага класіка і артыкуламі, напісанымі ім у гады вайны, яны былі прадстаўлены на выстаўцы, спецыяльна падрыхтаванай да вечарыны супрацоўнікамі музея.

Вечарыну вёў знакаміты беларускі паэт і перакладчык, знаўца прыгожай ўзбекскай славеснасці Мікола Мятліцкі. На мерапрыемства быў запрошаны малодшы сын Якуба Коласа Міхаіл Міцкевіч, які падзяліўся сваімі ўспамінамі пра паездку сям'і ва Узбекістан. Супрацоўнік музея, пісьменнік і журналіст Мікола Жыгоцкі расказаў пра тое, як шукаў ва Узбекістане каштоўныя дакументы і ўспаміны людзей, што кантактавалі з Коласам. У мастацкім выкананні гучалі ваенныя вершы Якуба Коласа, напісаныя на ўзбекскай зямлі, некаторыя — у перакладзе на ўзбекскую. Цудоўным музычным аздабленнем вечара стала выступленне паэта-барда Дзмітрыя Пятровіча.

*На здымку: Мікола Мятліцкі распавядае пра Мірмухсіна Мірсаідава.*

З-пад пяра

Пісьменнік Сяргей Трахімёнак быў запрошаны ў якасці кіраўніка аднаго з семінараў Міжнароднай нарады маладых літаратараў, што адбылася ў Каменску-Уральскім Свярдлоўскай вобласці. Сярод тых, хто прыехаў у Каменск-Уральскі, было нямала мэтраў расійскай паэзіі і прозы. Разам са сваімі калегамі, пісьменнікамі з Малдовы, Эстоніі, Украіны і Беларусі, яны выступілі ў якасці настаўнікаў для пісьменнікаў-пачаткоўцаў, якія з'ехаліся, каб паказаць вядомым ужо аўтарам свае творы. На нарадзе маладых літаратараў дзейнічала сем семінараў: тры — паэзіі, два — прозы, адзін — дзіцячай літаратуры і адзін — крытыкі. Вынікам нарады сталі рэкамендацыі сямі маладым аўтарам для ўступлення ў Саюз пісьменнікаў Расіі.

Аляксей ГАРБУНОЎ

Ганаровы знак Беларускага прафсаюза работнікаў культуры ўручаны Паўлу Саковічу, рэдактару аддзела — члену рэдакцыйнай калегіі альманаха “Вожык”. Віктар Маліноўскі, старшыня Мінскай гарадской арганізацыі Беларускага прафсаюза работнікаў культуры, адзначыў, што ведае Паўла Саковіча як чалавека, неабыякавага да культуры, няўрымслівага і творчага. І таму гэты ганаровы знак — яшчэ адно пацверджанне заслуг творцы.

Тацццяна МАСТОЎСКАЯ

У Вялікай зале Беларускай дзяржаўнай філармоніі прайшоў дабрачынны аўтарскі канцэрт кампазітара Леаніда Левашкевіча для ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны і дзяцей вайны “Дарога любові”. Канцэрт быў прымеркаваны да Дня вызвалення Мінска ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў і стаў своеасаблівым падарункам ветэранам ад беларусаў Санкт-Пецярбурга. Сам кампазітар, які плённа працуе ў розных музычных жанрах і з'яўляецца дырэктарам Санкт-Пецярбургскага сімфанічнага аркестра “Маэстра”, — ураджэнец Вілейкі. Этнічнымі беларусамі з'яўляюцца і многія музыканты гэтага калектыву. Ініцыятарамі праекта выступілі Міжнародная асацыяцыя беларусістаў, аб'яднанне беларусаў свету “Бацькаўшчына” і Беларускае грамадска-культурнае таварыства Санкт-Пецярбурга.

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА

На рахунку ў пісьменніцы Эмы Усціновіч — ужо шэсць кніг. А днямі ў Маскве выйшаў яе чарговы паэтычны зборнік “Вячэрнія промні”. Выданне даволі аб'ёмнае, з густам аформленае. Ёсць тут вершы філасофскія, пра каханне, прыроду, родныя мясціны. У кнізе змешчаны некалькі паэм. Для кожнага творцы новыя кнігі нібыта родныя дзеці, доўгачаканыя, цярпліва гадаваныя, любімыя і непаўторныя. Пісьменніца прыдзірліва назірае за “першымі крокамі” свайго “дзіцяці” ў свеце, ловіць кожны чытацкі водгук. Новая кніга Эмы Васільеўны ўжо знайшла водгук у сэрцах яе гомельскіх прыхільнікаў.

Галіна МІКАЛАЕВА

Саюз пісьменнікаў Беларусі смуткуе з прычыны смерці пісьменніцы ЯВАР (САЧАНКА) Святланы Барысаўны і выказвае шчырыя спачуванні родным і блізкім.

Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі глыбока смуткуе ў сувязі з заўчаснай смерцю пісьменніцы ЯВАР (САЧАНКА) Святланы Барысаўны і выказвае спачуванні родным, блізкім і прыхільнікам яе творчасці.

Кастусь ЛАДУЦЬКА

# Зямлі прыцягненне і вольнае неба

**Кобец, М. У.** *Кроплі: вершы / Марыя Кобец. — Мінск: Мінкопринт, 2011. — 96 с.*

Кнігі, якія выходзяць у прыватных і не дужа вядомых увагай да мастацкай літаратуры выдавецтвах, ды яшчэ з пазнакай спонсарскай падтрымкі, па-ранейшаму выклікаюць насцярогу. Прычын на тое некалькі: і адсутнасць пэўнай творчай планкі ў ацэнцы аўтарскіх рукапісаў, і нежаданне выдавецтва выдаткоўваццa на рэдактарскую працу, ды і часам адсутнасць элементарнай выдавецкай культуры, калі і вокладка, і папера кнігі пацвярджаюць хібы, выкладзеныя ў тэксце. Зборнік вершаў Марыі Кобец "Кроплі" (рэдактар — Анатоль Кудласевіч, аўтар прадмовы — Анатоль Шушко) — прыемнае выключэнне.

Марыя Кобец жыве і працуе на Берасцейшчыне. Дырэктар Валішчанскага сельскага Дома культуры Пінскага раёна. Раней, пасля заканчэння Пінскага медыцынскага вучылішча, працавала загадчыцай фельчарска-акушэрскага пункта ў роднай вёсцы. Вершы друкаваліся ў часопісах "Маладосць", "Алеся", газетах "Полесская правда", "Пінскі веснік", "Заря", "Краязнаўчая газета", "Літаратура і мастацтва", "Народная газета". "Кроплі" — першая кніга. Досыць адкрытая і шчырая, напоўненая развагамі пра ўласна перажытае, але прыўзнятае да абагульнення і выкладзенае ў кантэксце прыроды жыцця як дзіўнай і багатай з'явы, падараванай чалавеку. "Між водараў лясных, / Бярозавых, хваёвых, / У подыхах вясны / Мне захапленне — слова", — прызнаецца ледзьве ці не на самым пачатку кнігі Марыя Кобец. Але адкрытасць, здольнасць глядзець чытачу прама ў вочы — гэта не кволай душы распранутасць. Гартаю старонка за старонкай кнігу, складзеную з прызнанняў, сардэчных, эмацыянальных штуршкоў, і ўспамінаю занатаванае Міхаілам Дудзіным выказванне Ганны Ахматавай: "Мы, паэты, — людзі голыя, у нас усё бачна, таму нам трэба паклапаціцца пра тое, каб мы выглядалі прыстойна".

Таленту — сапраўднаму, зразумела, таленту — заўсёды цяжка. І не толькі таму, як мярдуе М. Кобец у адным з вершаў, што важна, каб "Рыфма супала і рытму памеры", і не таму, што "Крыткі ж знойдуць нямала заган". Мне асабіста здаецца, што аўтар кнігі "Кроплі" не дужа баіцца крытыкаў. У паэтэсы ёсць акрэсленыя творчыя перакананні, яна не шукае тэм, не думае пра тое, як будзе выглядаць зробленае ёю ў шэрагу са здабыткамі калег, паплечнікаў па творчай ніве. Бо галоўнае ж — і для сябе, і для людзей, для




чытачоў: "Выклала думкі на аркуш паперы. / Словы — ад сэрца, не хціві падман".

Трывога, непакой за гэтую ўшчырасць і выступаюць рухавіком у мастацкіх пошуках Марыі Кобец. Калі нешта і перашкаджае ёй, то, як мне падаецца, некаторая боязь чыстага мастацтва, мастацкасці. Але ж і мастацтва тады сапраўднае, калі яно шчырае, адкрытае, пазбаўленае цемры і пустаслоўя, няхай сабе і прыгожага пустаслоўя.

*Падстаў свой светлы твар*
*пад гэты цёплы,*
*Лагодны дождж,*
*ласкавы, веснавы!*
*Далоні працяні, у іх не кроплі —*
*Гаючая вільгота для травы!*

*У іх нябеснай*
*шчодрасці свячэнне,*
*У іх жыццё ўсяго,*
*што на зямлі.*
*Яны, як быццам,*
*просяць прабачэння*
*У вас, мае лясы, лугі, палі.*

*Шумі, мой дождж,*
*такі доўгачаканы!*
*Дыхне хай водарам*
*палескі край!*
*Так кроплі і ў мой*
*лёс наканаваны,*
*І я нясу іх праз*
*зямны свой рай…*
("Кроплі").

Ніякаму постмадэрністу такія радкі і не сніліся! Не, я далёкі ад думкі, што постмадэрнізм — гэта ўсё, што пазначана знакам "мінус", што "ПМ уся літаратурная шушара". Справа, відавочна, у светабачанні, у тым, што рэалізм — гэта свежая, незамутнёная вада, незамутнёная свядомасць, у пэўнай ступені першароднасць. Прырода, палескія, у большасці сваёй светлыя, пазбаўленыя цывілізацыйных уплываў, лясныя, рачныя, азёрныя прасторы ствараюць выключна адзіна правільную атмасферу існавання паэзіі Марыі Кобец. Так, ёсць у напісаным элемент "краёвасці". І не толькі ў вершы "Мой край". На сустрэчу з "краёвасцю" ўжо ў прадмове да кнігі настройвае Анатоль Шушко, вылучыўшы кагорту паэтак-землячак: "…Піншчына сваёй адметнай прыроднай прыгажосцю, чалавечых стасункаў ейных тубыльцаў, натхніла і надала сілаў для палёту ў неабсяжныя далягляды паэтычнага свету крылам Валянціны Коўтун, Любові Тарасюк, Ніны Гарагляд, Наталлі Прыступы, Надзеі Парчук і, канечне ж, "ластаўчыным" незабыўнай Яўгеніі Янішчыц. Ды "краёвасць", выпеставаная дома, у роднай вёсцы, яе ваколіцах, у ляску з назвай Хваросна, у грыбных мясцінах ля Залесся, ля пінскіх ручаёў і рачулак, — фундамент, аснова, якія паядноўваюць вёскурадзіміцу з усім Сусветам ("І раптоўна шлях дамоў / Зніннуў у Сусвеце"). Праўда, гэтая еднасць можа поўніцца і журбой, сумам, якія прыходзяць пасля страты "зорачкі маёй", тады становіцца лёс палыном, жыццё — гаркатой-назолай.

Паэту па самой прыродзе яго таленту дадзена шмат болей, чым іншым насельнікам планеты Зямля. Ці болей дадзена паэту ў пінскай старонцы, чым, прыкладам, у горадзе сталічным, закаваным у бетонныя сцены, у горадзе, стомленым ад мітусні штодзённай?.. Пытанне няпростае. Адной вольнай прасторай і свежым паветрам, нават судакрананнем з некранутай прыродай стыхію, усю глыбіню паэтычнага таленту, філасафічнасць яго мыслення наўрад ці можна патлумачыць. І ўсё ж, і ўсё ж…

*Абяссілелі крылы,*
*Няма моцы на ўзлёт!*
*Дасягнуць небасхілу.*
*Мая мара —палёт.*
*Дакрануцца аблокаў*
*У свабоднай цішы,*
*Без аглядкі навокал,*
*Без папрокаў душы.*
*Няма вольнасці ў крылах,*
*Не пад сілу і ўзлёт.*
*Я — не птах шызакрылы.*
*Чаму ж сніцца палёт?*
*("***Абяссілелі крылы…").*

"Жахліва адзінае пачуццё — выканаць немагчымае" (Аляксандр Блок). "Палёт", жаданне адарвацца ад рэчаіснасці змрочнай, перанесціся ў вышыні, няхай сабе і трымаючы за спінай цяжар трывогі, — усё гэта жыве ў большасці вершаў, што склалі зборнік "Кроплі". Жыве і ў вершах, якія складаюць тую частку кнігі, што ўвабрала ў сябе інтымную лірыку паэтэсы. Ад гэтай мастацкай прасторы заўсёды чакаеш яркіх па сэнсе вобразаў, фарбаў адкрытай душы. Здаецца, усё метафарычна праўдзіва якраз і прысутнічае ў вершах Марыі Кобец пра каханне. Але і ў гэтай спакушальнай плыні з пункта гледжання выкладання аўтарскага "Я", атаясамлення паэта са сваім лірычным героем прысутнічае мастакоўскі, мастацкі пошук ("***Аксамітны вечар…", "***Калі пажоўклы ліст асыплецца кляновы…", "***У белым ветразі завей…").

У землячкі Марыі Кобец — Яўгеніі Янішчыц ёсць верш "Паэт". Не буду сцвярджаць, да якой ступені ў ім выкладзена праграма мастакоўскага, паэтычнага веравызнання, а толькі працытую дзве страфы з гэтага наўздзіў дасканалага твора:

*Ты залатую мрою*
*не дагоніш,*
*А толькі словам*
*немату загоіш*
*І выйдзеш зноў —*
*без слова і пяра…*
*І ты душу сасмяглую напоіш*
*Сівой расою з роднага двара.*

*Усё, што знаў,*
*з маленства ты запомніш*
*І калыханкай ўсё,*
*што меў, напоўніш,*
*Нібы Купала,*
*Пушкін ці Саят…*
*Ты ад расколу свет не абароніш,*
*Дык дзякуй хоць за тое,*
*што аброніш*
*Шчымлівы*
*і распытлівы пагляд.*

Марыя Кобец з вышыні сваёй пінскай, палескай прасторы, з вышыні роднай вёскі Валішча бароніць сябе, адстойвае пры гэтым і права чытача на пільны позірк вакол, а галоўнае — развівае жаданне працаваць душы, трывожыцца сэрцу. І ўжо гэтым кніга "Кроплі" выконвае важную паэтычную задачу. Выконвае ярка, вобразна, пераканаўча. Будзем жа чакаць наступных кніг Марыі Кобец!

Школа добрых пачуццяў



# Сакаўная старонка ў кніжчыне быцця

Раіса БАРАВІКОВА

Гэта было ў мінулым стагоддзі, напрыканцы шасцідзясятых… Масква. Прасторнае фае Цэнтральнага Дома літаратараў, дзе, як заўжды, — гаманліва і шматлюдна. І раптам усё заціхае, позіркі скіроўваюцца да бялявай, прыгожай, са статнай паставай жанчыны, якая з'яўляецца ў дзвярах… Ясны твар, на якім чытаецца моцны характар і нават своеасаблівая ганарыстасць, сіняя, ручной ажурнай вязкі сукенка, да якой прышпілены надзвычай вялікі і вельмі блішчасты медаль, на які і ўтаропліваюцца многія… "Хто такая?" — чую за сваёй спінаю шэпт. Азіраюся і не без гонару адказваю дзвюм сталым жанчынам: "Гэта — вядомая беларуская паэтэса Еўдакія Лось!".

З яе паэзіі, з успаміну пра Яе самую я і хачу распачаць новую рубрыку ў "ЛіМе" — "Школу добрых пачуццяў", якой, па сутнасці, і з'яўляецца літаратура. І найперш паэзія. Толькі яна на сваіх лепшых узорах можа выхаваць ва ўсіх адносінах прыгожага сваім унутраным светам Чалавека. Успомнім Аляксандра Пушкіна: "…И долго буду тем любезен я народу, / Что чувства добрые я лирой пробуждал".

Еўдакія Якаўлеўна Лось сваёй паэзіяй, якую цанілі і якой захапляліся, была "любезна" надзвычай шырокаму колу чытачоў. Яе ведалі далёка за межамі Беларусі, нават пра той медаль, прышпілены да ажурнай сукенкі, складзена была цэлая легенда. Казалі, што яго асабіста ўручыў Еўдакіі Якаўлеўне кіраўнік тагачаснай Манголіі Цэдэнбал. Тут я магла б згадаць і глыбокія, надзвычай кранальныя словы пра яе, у тым часе маладога, але такога ўжо вядомага на абсягах Савецкага Саюза, казаха Алжаса Суляйменава, якому і яна сама прысвяціла цудоўны верш "Музычныя елкі". Але ляжаць перада мною на стале два яе разгорнутыя томікі: "Лірыка ліпеня" (з аўтографам і пажаданнем "…хай спраўдзяцца ўсе надзеі") і "Валошка на мяжы" (кніга, выдадзеная праз сем гадоў пасля яе сыходу ў свет іншы). У прадмове Варлена Бечыка ёсць такія словы: "…Было ў яе творах шмат святла і радасці, бо чуйна адгукалася яна на прыгожае, добрае. Была прага тварыць, адкрываць, прылучацца да жыцця і спраў народных, гаварыць пра сваё запаветнае, мацаваць пазіцыі дабра, чалавечнасці".

Перагортваю старонку за старонкай… Кладуцца на сэрца, абуджаюць той ці іншы ўспамін, а то і проста вярэдзяць душу радкі з розных вершаў: "На травіцы пад вясёлкай крошка-кропелька дрыжыць. І спявае перапёлка ў Бараўлянах: "жыць" ды "жыць!", "Паедземце, дружа, ва Ушачы! Там зараз вясна ды вясна…", "Дзень мой, дзень, зялёная старонка у змястоўнай кніжчыне быцця!", "Літаратура любіць прыгажосць", "Жыла я цяжка — тут не адхілю, жыла нязручна — гэта не мана. Любіла толькі тых, каго люблю, сярод любімых — вечная адна…", "Люблю цябе, мой добры край, — я прыняла тваё падданства, а з ім — любоў і пастаянства і ўсе даброты цераз край"…

Яна пражыла кароткае жыццё: нарадзілася ў 1929 на Віцебшчыне, памерла ў 1977 у Мінску. У маёй памяці жыве самай рознай — урачыстай і крылатай падчас чытання вершаў на вялікіх сцэнах, зажуранай ад нейкай кароткай крыўды ці ўласнага жаночага болю, нават самавітай у шыкоўным футры на праспекце, і ў звычайным хатнім халаце, няхай сабе і ў цэнтры Мінска, але ў такой маленькай кватэрцы з малюпасенькімі па сённяшніх мерках пакойчыкамі… І над усім гэтым — галоўнае: Еўдакія Якаўлеўна Лось — Паэт, да вершаў якога трэба дакранацца душою, каб узяць з многіх радкоў прыклад пачуццяў сардэчнасці, цеплыні, чысціні і любові.

Дар'я КАСКО

# Шукайце «сваю» кнігу!

Уважліва прачытала ў "ЛіМе" (№ 23 ад 10.06.2011) матэрыялы "прамой лініі" з міністрам культуры Рэспублікі Беларусь Паўлам Латушкам, у якіх, на мой погляд, дэталёва прааналізаваны культурныя здабыткі сучаснасці, у тым ліку стан роднай мовы і літаратуры.

На жаль, некаторыя мае ўжо былыя аднакласнікі сцвярджаюць, што літаратура — гэта перажытак мінулага. Маўляў, адказы на ўсе пытанні, якія ставіць жыццё, можна знайсці ў Інтэрнэце, а беларуская мова наогул не патрэбная.

Мы часта спрачаемся. Канечне ж, мае суразмоўцы глыбока памыляюцца. І, як мне здаецца, у многім вінаватыя іх бацькі, пазіцыя якіх у адносінах да роднай мовы — калі падрасце, сам вырашыць, патрэбна гэта яму альбо не — выклікае пратэст. Наша мова больш мілагучная і пявучая, чым руская, і таму ўспрымаецца значна прасцей — па сабе ведаю. Якія цудоўныя беларускія народныя казкі! А творы для дзяцей М. Багдановіча, У. Караткевіча, М. Чарняўскага, В. Гардзея, іншых пісьменнікаў прывіваюць любоў да роднай мовы і роднага краю.

Многія мае знаёмыя сыходзяцца ў меркаванні, што кніга — лепшы падарунак. Напрыклад, я ўжо нагледзела кнігу, якой парадую сваю сяброўку ў дзень нараджэння. Гэта зборнік з трох аповесцей Алеся Бадака, Раісы Баравіковай і Алеся Наварыча пад агульнай назвай "Адзінокі васьмікласнік хоча пазнаёміцца".

Мой любімы беларускі пісьменнік — Уладзімір Караткевіч. Ні ў кога са знакамітых аўтараў я не знайшла настолькі блізкага і зразумелага мне стылю. Чаму людзі шукаюць адлюстраванне асабліасцей свайго жыцця, перажыванняў у творах замежных аўтараў і пры гэтым ігнаруюць сваіх суайчыннікаў? Адна з маіх любімых кніг — раман Вітаўта Чаропкі "Храм без бога".

Хачу параіць маладым чытачам паспрабаваць пашукаць "свайго" аўтара, "свае" творы. І вам абавязкова гэта спадабаецца.

# ЛіМ: 1937 год…

Вольга ПАСІЯК

"29 кастрычніка 1937 года, у дзень Ленінскага камсамола і, відаць, у гонар 20-годдзя кастрычніцкага перавароту ў сталіцы Беларусі Мінску адбылася акцыя, аналагаў якой яшчэ не ведала гісторыя чалавецтва. На працягу ночы былі расстраляны 20 (!) беларускіх і яўрэйскіх літаратараў…" — такімі словамі пачынае сваю кнігу "Вынішчэнне" знакаміты даследчык Л. Маракоў. Сярод ахвяраў — празаікі Міхась Зарэцкі (35 г.) і Платон Галавач (34 г.), паэты Алесь Дудар (32 г.) і Міхась Чарот (40 г.), а таксама іншыя таленавітыя аўтары…

30-я гады XX стагоддзя справядліва лічацца адным з самых жорсткіх перыядаў у гісторыі Савецкага Саюза. Камуністычная партыя самым папулярным метадам абароны сваіх інтарэсаў абрала рэпрэсіі. На жаль, актыўным памочнікам у гэтай справе сталі сродкі масавай інфармацыі, якія стваралі адпаведную атмасферу і інфармавалі народ згодна загадам кіраўніцтва. Такія старонкі ёсць у гісторыі большасці выданняў таго часу, і "ЛіМ" не выключэнне. Пагартаем гэта выданне за 1937 год. Кожны нумар стаў своеасаблівым дакументам эпохі і напамінам — такое нельга забыць.

Асаблівая ўвага ў культурным асяродку надавалася выкрыццю ворагаў народа ў тэатральнай і кінатэатральнай сферах, што актыўна асвятлялася на старонках прэсы: *"Упраўленню неабходна зараз-жа стварыць камісію і дасканала праверыць дзейнасць Языкава* (дырэктар і мастацкі кіраўнік Беларускага дзяржаўнага тэатра оперы і балета — **В. П.**) *ў гэтым тэатры і высветліць яго палітычны твар: сувязь з ворагамі народа Мутных, былым дырэктарам Вялікага тэатра, а таксама работу Языкава ў опернай студыі пры Вялікім тэатры, пазней распушчанай як не апраўдаўшай сябе новым кіраўніцтвам тэатра"* (ЛіМ, 1937, 22 ліст.).

Ці варта казаць, што пералічаныя прозвішчы знаходзім у спісе рэпрэсіраваных…

Чарговы нумар — і ўвагу прыцягваюць тэатральныя рэцэнзіі, дзе фармулююцца некаторыя патрабаванні для супрацоўнікаў культурнай сферы. Вось, скажам, рэцэнзія на пастаноўку "Вочная стаўка" ў Віцебскім тэатры. Чаго варты вытрымкі з гэтага тэксту: *"Выкрытых ворагаў не агітуюць, а знішчаюць"; "Толькі на вочнай стаўцы з Вальтэрам-Івановым, пад цяжарам неабвержаных доказаў, Келер (Сяргейчык) здымае маску і мастацка раскрывае звярыную істоту заклятага ворага савецкага народа"* (ЛіМ, 1937, 5 снеж.).

Асобнай старонкай у гісторыі сродкаў масавай інфармацыі 1930-х гадоў стала публікацыя своеасаблівых нарысаў, героямі якіх станавіліся тыя, хто ўсё жыццё аддаў справе барацьбы з ворагамі народа. Яскравы прыклад — надрукаваны ў "ЛіМе" нарыс "Камдыў Гарачоў" за подпісам Глазырына, дзе ўвазе чытача прапануюцца наступныя аспекты біяграфіі "героя": *"Асобнае пасяджэнне Вярхоўнага суда. Перад судом — раскрытая органамі НКВД подлая праджаная зграя фашысцкіх агентаў і шпіёнаў-здраднікаў нашай радзімы, нечуваных злачынцаў. У складзе суда камандзір корпуса камдыў тав. Гарачоў. Усё жыццё ён змагаўся з ворагамі радзімы і рэвалюцыі, змагаўся са зброяй у руках, кроўю і жыццём. Да подлых наймітаў фашызма ён праяўляе бязлітаснасць да канца. Смерць гадам!"* (ЛіМ, 1937, 22 ліст.).


Пралетарыі ўсіх краін, злучайцеся! · Серада, 27 кастрычніка 1937 г. № 55 (326) · Цана 20 кап.

ЛІТАРАТУРА і МАСТАЦТВА

Орган праўлення ССПБ і упраўлення па справах мастацтваў пры СНК БССР

Працоўныя Менска, Гомеля, Віцебска вызначылі кандыдатамі ў дэпутаты Совета Саюза Вярхоўнага Совета СССР вялікага правадыра народаў, друга працоўных БССР Іосіфа Вісарыёнавіча Сталіна, сталінскіх наркомаў таварышоў Варашылава, Кагановіча і Ежова.

Рабочыя Гомеля вызначылі кандыдатам у дэпутаты Совета Саюза выконваючага абавязкі першага сакратара ЦК КП(б)Б тав. Волкава.

ІНФАРМАЦЫЙНАЕ ПАВЕДАМЛЕННЕ

Мастацкія сродкі ў дапамогу выбарам

Народнаму камісару абароны СССР

ТАВАРЫШУ ВАРАШЫЛАВУ

Самая папулярная тэматыка тых часоў — сельскагаспадарчая — таксама нярэдка адлюстроўвалася праз культурную прызму, дзе роля ў "правільнай" падачы інфармацыі адводзілася тэатрам, якія рабілі пастаноўкі пра жыццё сялян: *"Глядач пакідае тэатр з пачуццём глыбокай нянавісці да ворагаў народа і гарачай любові да нашай цудоўнай радзімы"* (ЛіМ, 1937, 5 снеж.).

"Трэцяя і самая "доўгая" хваля арыштаў пачалася (па гэтак званай "разнарядке") увосень 1936 года і працягвалася да пачатку-сярэдзіны 1938 г. За паўтара года рэпрэсіравана больш за 200 чалавек (шмат хто паўторна)", — працягвае Леанід Маракоў, апавядаючы толькі пра літаратурную (!) сферу.

Але трапілі ў лік рэпрэсіраваных і тыя, хто не супраціўляўся дыктатуры Сталіна. Напрыклад, у адным з нумароў "ЛіМа" вылучаецца артыкул Кузьмы Чорнага "Палкаводзец соцыялістычнай арміі": *"На працягу ўсяго часу сваёй слаўнай дзейнасці Клім Ефрэмавіч [Варашылаў] збіраў масы навокал партыі, выкрываў эсэраўска-меншавісцкіх ворагаў партыі, бязлітасна змагаўся са здраднікамі радзімы. Разам з таварышам Сталіным ён да канца і паслядоўна вёў барацьбу з ворагамі народа"* (ЛіМ, 1937, 26 ліст.). Амаль праз год, 14 кастрычніка 1938 года, К. Чорны быў рэпрэсіраваны…

Чытачы "ЛіМа" атрымалі артыкул "Успаміны" за подпісам Янкі Купалы (з паэтам улады вялі спецыфічную гульню, у якой песняр выходзіў далёка не пераможцам): *"Так, я сам лічу сябе беспартыйным большэвіком і гэтым ганаруся. Я з радасцю буду выконваць усе тыя задачы, якія паставіць перада мной партыя бальшавікоў. Я аддам усю сваю творчасць, а калі трэба будзе — і жыццё за вялікую справу нашай совецкай бацькаўшчыны, за справу Леніна-Сталіна"* (ЛіМ, 1937, 6—7 ліст.).

Даследчык Д. Лапо адзначае: сёння ўжо складана высветліць праўду да канца. Па-першае, большасць з тых, хто вяршыў так званае правасуддзе, не дажылі да нашых часоў. Па-другое, поўнае раскрыццё гэтай праўды можа прывесці да "новага кола рэпрэсій, да масавай істэрыі". Тым не менш, дакументальнае сведчанне злачынстваў тых часоў захавалася, хоць і не цалкам (многія кампраметуючыя матэрыялы знішчаны — выразаны з нумароў "Літаратуры і мастацтва", "Чырвонай змены" і іншых выданняў). Вынікі гэтага перыяду ў гісторыі жахлівыя: усяго ахвярамі палітычных рэпрэсій з 1917 да пачатку 1950-х гг. сталі каля 600 тыс. грамадзян Беларусі, толькі ў 1935—1940 гг. былі расстраляны больш за 28 тыс. А родныя загінуўшых атрымалі кароткае, пазбаўленае эмоцый паведамленне: *"Ваш бацька памёр ад інфаркту (інсульту, сухотаў…) у турэмнай бальніцы (па дарозе дамоў…)"*.

# Белыя плямы біяграфіі Лучыны



**Упершыню пра рускую паэтку і перакладчыцу Вольгу Чуміну (1858—1909) на старонках сваіх кніг згадаў беларускі даследчык літаратуры XIX стагоддзя Уладзімір Мархель. Уладзімір Іосіфавіч з'яўляецца выдатным знаўцам жыцця і творчасці пачынальніка новай беларускай літаратуры Янкі Лучыны (Івана Неслухоўскага).**

**Дзякуючы даследчыку ў 1988 годзе пабачыла свет кніга вершаў, нарысаў, перакладаў і лістоў Янкі Лучыны "Творы". У ёй, а таксама ў іншых публікацыях, Уладзімір Мархель і расказвае пра Вольгу Чуміну і Янку Лучыну. Аўтар мяркуе, што паэт, напэўна, перапісваўся з Вольгай Чумінай, каб наладзіць кантакты з часопісам "Вестник Европы". "Невядома таксама, ці быў аўтар "Паляўнічых акварэлек…" асабіста знаёмы з Чумінай? Гэта старонка біяграфіі Лучыны пакуль таксама не адгорнута", — піша Уладзімір Мархель у сваёй кнізе "Крыніцы памяці".**



Сяргей ЧЫГРЫН

Сапраўды, цікавы факт, хаця і асоба Янкі Лучыны ў беларускай літаратуры і гісторыі ў цэлым таксама цікавая і загадкавая. І тут можна пагадзіцца з Людмілай Рублеўскай, якая ў артыкуле "Не ради славы иль расчёта…" (у газеце "СБ. Беларусь сегодня" ў 2006 г.) піша, што ў біяграфіі паэта "шмат белых плямаў". "Белай плямай" застаюцца і адносіны Янкі Лучыны з рускай паэткай Вольгай Чумінай. Але што яны былі добра знаёмыя — гэта дакладны факт.

Руская паэтка і перакладчыца Вольга Чуміна нарадзілася ў Ноўгарадзе. У канцы XIX ст. актыўна друкавалася ў пецярбургскіх часопісах, займалася перакладамі твораў Шэкспіра, Буржэ, Гюго, Пецёфі, Байрана, Мільтана, а таксама Уладзіслава Сыракомлі на рускую мову. Яна пераклала і Сыракомлеву паэму "Нядзеля". Пераклад прачытаў неяк Янка Лучына, але яму ён не спадабаўся. Вядома ж, Іван Неслухоўскі ў сто разоў лепш ведаў польскую мову, чым тая ж Чуміна. Да таго ж, "Нядзелю" на рускую мову Уладзіслава Сыракомлі пераклаў і сам Янка Лучына. Упершыню паэму на рускай мове паэт апублікаваў у "Северо-Западном календаре на 1892 год" (Мн., 1891). Таму Неслухоўскаму прыйшлося дапамагаць Чумінай сваімі парадамі. І ён дапамагаў (гл. "Вестник Европы", 1888, № 6. С. 553).

Янка Лучына быў старэйшы за Вольгу Чуміну на 7 гадоў. У 1870 годзе ён прыехаў у Пецярбург. Вучыўся год у Пецярбургскім універсітэце, потым у тэхналагічным інстытуце. І за гэты час наш зямляк добра вывучыў горад на Няве, пасябраваў з творчай інтэлігенцыяй, быў знаёмы з многімі беларусамі, якія там жылі і вучыліся, наведваў рэдакцыі газет і часопісаў. І толькі ў 1877 годзе беларускі паэт пакінуў Пецярбург, бо быў накіраваны на працу ў Тыфліс.

У гэты час у Пецярбургу часта бывала і Вольга Чуміна, якая актыўна супрацоўнічала з часопісамі "Вестник Европы", "Северный Вестник", "Русское богатство", "Дело" і іншымі. У адным з выданняў — магчыма, гэта быў часопіс "Вестник Европы" — літаратары пазнаёміліся. Як піша Уладзімір Мархель, Янка Лучына выказваў жаданне знаёміць праз пецярбургскія выданні рускую публіку з польскай паэзіяй, у прыватнасці з перакладзенымі ім на рускую мову вершамі польскага паэта Адама Аснык і (1838—1897). Аднак супрацоўніцтва з рускім часопісам не атрымалася. Чаму — невядома. Не склалася яно і з іншымі пецярбургскімі выданнямі. Ва ўсялякім разе пакуль не ўдалося знайсці на іх старонках вершаў ці перакладаў Івана Неслухоўскага. У асноўным ён свае творы друкаваў у "Северо-Западном календаре", газетах "Минский листок", "Życie", "Prawda" ў Мінску і ў Варшаве.

Што да перапіскі Янкі Лучыны з Вольгай Чумінай, дык тут таксама ёсць сумнеў. У Інстытуце рускай літаратуры (Пушкінскі дом) Расійскай Акадэміі Навук захоўваецца шмат дакументаў, звязаных з жыццём і творчасцю Вольгі Чумінай (па мужу Міхайлавай). Там зберагаюцца творы, дзённікавыя запісы, віншавальныя паштоўкі, тэлеграмы і г.д, а таксама лісты. Ёсць лісты да Чумінай ад Неміровіча-Данчанкі, Станіслаўскага, Гіпіус, Бацюшкава, Слонімскага, Чукоўскага, Баратынскага, Чэхава, Меерхольда і іншых вядомых асоб. Але сярод іх няма ніводнага ліста ці паштоўкі ад Неслухоўскага-Лучыны.

Магчыма, Вольга Чуміна і Янка Лучына перапісваліся. Наш паэт і перакладчык не мог без дазволу паэткі, напрыклад, перакладаць і друкаваць яе творы "У сеці" і "Маракі" на польскай мове. А яны былі змешчаны ў ягоным зборніку "Poezje" (Варшава, 1898). І гэты зборнік магла трымаць у руках паэтка, хаця перакладчыка ўжо не было на гэтым свеце. Магчыма, і наш паэт меў два зборнікі Вольгі Чумінай "Стихотворения" (1889, 1897), скуль ён браў для перакладу яе творы. А кнігі Чумінай выйшлі з друку далёка ад Мінска, дзе дажываў апошнія гады і дні Янка Лучына.

І яшчэ. Як сцвярджае Уладзімір Мархель, у "Выбраныя творы" (Мн., 1953) Янкі Лучыны быў уключаны верш "Вось за мной, прада мной…" у беларускім перакладзе Піліпа Пестрака. Аднак гэта не арыгінальны твор паэта, напісаны па-польску, а, як аказалася, яго пераклад на польскую мову верша Вольгі Чумінай "Оглянусь ли кругом", напісанага пад уплывам папулярнага "Лірніка вясковага" Уладзіслава Сыракомлі ("Вестник Европы", 1888, № 1; Ольга Чумина. Стихотворения. СПб., 1889). Дарэчы, некалькі вершаў рускай паэткі ў перакладзе Янкі Лучыны на польскую мову знаходзяцца ў рукапісах і яшчэ не публікаваліся.

***На здымках: Янка Лучына, Вольга Чуміна***

## Праект — лаўрэат VII Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ “Залатая Ліцера”

Слова краязнаўцы



**Мечыслаў Супрон з Бярозаўкі, што ў Лідскім раёне, разважае пра веданне свайго радаводу як часткі спадчыны:**

— Я — гэта тысячы маіх продкаў. Кожны ведае сваіх бацькоў, бабуль і дзядуль, рэдка — прабабуль і прадзедаў. Асноўнай прычынай гэтаму з’яўляецца той факт, што іх ужо няма ў жывых, а нашчадкі не захавалі звестак ад бацькоў. З самага маленства мяне цікавіла, кім былі мае продкі, дзе жылі, чым займаліся. Вельмі любіў слухаць аповеды пра мінулыя часы. Асабліва цікавілі ўспаміны бабуль пра даўніх родзічаў. З часам цікавасць перарасла ў грунтоўныя даследаванні. Паступіўшы ў Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы на гістарычны факультэт, пачаў працаваць у архіве…

Так, дзякуючы матэрыялам метрычных запісаў, удалося скласці ўласнае родавае дрэва, якое верхавінкамі “галін” сягае да дзявятага калена. На дадзены момант у маім “дрэве” 198 асоб — прамых продкаў, а калі ўлічваць іх дзяцей, то лічба складзе 520 чалавек. Усе мае родныя нарадзіліся ў межах былога Лідскага павета. Самыя блізкія продкі паходзяць з вёсак Ерамеевічы, Любары, Хадзюкі і блізкіх да іх хутароў. Але па меры глыбейшага даследавання высветліў, што тэрыторыя рассялення прадстаўнікоў нашага роду даволі шырокая. Яна ўключае ў сябе трохкутнік, па вуглах якога размешчаны горад Ліда, мястэчкі Жалудок і Забалаць — усяго звыш трох дзясяткаў населеных пунктаў, якія адносяцца да парафіяльных касцёлаў у Лідзе, Няцечы, Белагрудзе, Забалаці, Жалудку і Вавёрцы.

Згодна з метрычнымі дакументамі, мае продкі былі сялянамі, мяшчанамі, шляхтай. І, напэўна, самым цікавым момантам у даследаванні з’яўляецца пошук “шляхецкай жылкі”. Найбольш заможнымі шляхціцамі з маіх продкаў былі Забелы (Zabiełło), якія валодалі фальваркам у Ціжоўшчызне. Іх родавы герб — “Тапор”. Але большасць маіх продкаў былі сялянамі. Я высветліў і тое, што яны прымалі непасрэдны ўдзел у паўстанні 1863 — 1864 гг. Шмат хто з іх жыў каля вёскі Мохавічы, той самай, дзе паўстанцы пацярпелі паразу. Ян Часноўскі — мой прапрапрадзед — быў пажыццёва сасланы ў Сібір.

Цяпер, пасля складання часткі родавага дрэва (менавіта часткі, бо яго яшчэ можна працягваць і працягваць — аж да канца Сярэднявечча), цяжка нават уявіць, што за кожным яго імем хаваецца чалавечы лёс, лёс маіх продкаў, які ўвабраў у сябе частку гісторыі народа.

## Беларускі музей у Вільні

**Чэслава ПАЛУЯН**

У Нацыянальным гістарычным музеі Рэспублікі Беларусь прайшоў “круглы стол”, прысвечаны 130-годдзю з дня нараджэння Івана Луцкевіча і 90-годдзю заснавання Віленскага гісторыка-этнаграфічнага музея імя І. Луцкевіча. Падчас “круглага стала”, у рабоце якога прынялі ўдзел гісторыкі, культуролагі, мастацтвазнаўцы, супрацоўнікі музеяў, архіваў і бібліятэк, былі закрануты пытанні першых спроб стварэння Беларускага музея ў Вільні, лёсу яго бібліятэкі, калекцый кніжных выданняў і фотаздымкаў, помнікаў сфрагістыкі і іншыя.

Музейны ўнікат

# Касмічная адысея Сакалова

**Кожны музей захоўвае ў сваіх фондах вялікую колькасць цікавых і рарытэтных прадметаў. Калі не сказаць, што ўсе экспанаты — найвялікшыя рарытэты. А самае цікавае — іх гісторыя. Аднак заўсёды ёсць прадметы, якімі музейшчыкі ганарацца найбольш. Для Вілейскага краязнаўчага музея такой з’яўляецца карціна знакамітага расійскага мастака-Андрэя Сакалова “Над Аралам”.**

**Сяргей ГАНЧАР**

Як магла апынуцца работа вядомага мастака за тысячы кіламетраў ад яго радзімы? Справа ў тым, што Андрэй Канстанцінавіч у сярэдзіне 1970-х гадоў пабудаваў лецішча на беразе Вілейскага вадасховішча, у маляўнічай вёсачцы Сосенка. Спачатку ён праводзіў тут кожнае лета, а потым заставаўся ў вёсцы амаль цэлы год. Менавіта ў Сосенцы А. Сакалоў да сваіх знакамітых касмічных карцін далучыў дзясяткі палотнаў з мясцовымі пейзажамі.

Нарадзіўся народны мастак РСФСР Андрэй Сакалоў у 1931 годзе ў Ленінградзе. Яго бацька, Канстанцін Міхайлавіч, быў адным з кіраўнікоў будаўніцтва касмадрома Байканур, а таксама Астанкінскай тэлевежы і аўтазавода “ВАЗ”. Пасля заканчэння Маскоўскага архітэктурнага інстытута ў 1955 годзе А. Сакалоў працаваў па спецыяльнасці. Аднак творчая натура ўзяла сваё. І ўжо з 1955 года ён — удзельнік мастацкіх выставак. А паколькі Андрэй Канстанцінавіч з дзяцінства любіў фантастыку, свае першыя работы ў жанры навукова-фантастычнага жывапісу прысвяціў раману Рэя Брэдберы “451 градус па Фарэнгейту”.

Пасля запуску першага штучнага спадарожніка Зямлі ў 1957 годзе ўся творчасць А. Сакалова прысвечана тэме асваення космасу. І ён стаў першым у свеце мастаком, які маляваў космас, не выходзячы з майстэрні.

За гады, што Андрэй Канстанцінавіч пражыў на беразе Вілейскага вадасховішча, віляйчане тройчы змаглі атрымаць асалоду ад яго выставак. Кожны наведвальнік адзначаў, што карціны мастака вылучае падрабязная прамалёўка дэталяў, канструкцый касмічных караблёў, касмічных пейзажаў і з’яў, нібы мастак сам неаднойчы бываў ў космасе. Гэта як ілюстрацыі да фантастычнай аповесці, гэта цэлы свет, да якога можна дакрануцца.

З 1965 года суаўтарам А. Сакалова стаў касманаўт Аляксей Лявонаў. А ў 1990 годзе Андрэй Канстанцінавіч удзельнічае ў сумеснай працы з амерыканскім мастаком Робертам Макколам. Віляйчане ганарацца тым, што работы мастака, якія дэманстраваліся ў Смітсанаўскім інстытуце (ЗША), Дрэздэнскай галерэі і музеях Берліна, Токіа, можна было пабачыць і ў мясцовай зале выставак.

Дзясяткі карцін Андрэя Сакалова доўгі час захоўваліся ў Вілейскім музеі і толькі пасля смерці Андрэя Канстанцінавіча ў 2007 годзе былі перададзены яго пляменніку ў Маскву. Засталася на памяць пра вельмі таленавітага і цікавага чалавека яго работа “Над Аралам”.



***На здымку: Андрэй Сакалоў “Над Аралам”.***

Беларускія прыватныя гербы

# Знакі годнасці і гонару



*Герб “Бядута”*



*Герб “Дубіна”*



*Герб “Дэ Вальдэн”*

### Герб «Бядута»

Гербакарыстальнік: Дага

### Герб «Дубіна»

Гербакарыстальнік: Фабрыцыуш

### Герб «Дэ Вальдэн»

Уласны герб роду Дэ Вальдэнаў

### Герб «Мянціцкі»

Уласны герб роду Мянціцкіх

### Герб «Рука»

Гербакарыстальнікі: Чурскі, Шчурскі

### Герб «Шырма»

Уласны герб роду Шырмаў

**Вядучы рубрыкі — Уладзімір Крукоўскі**



*Герб “Мянціцкі”*



*Герб “Рука”*



*Герб “Шырма”*

Віктар ХУРСІК

# Княгіня Лебедзь

**Яна магла б быць першай лэдзі, пані, фраў, а абрала жыццё ў глушы, шлях незразумелага па тых часах садзеяння халопам. Двойчы выходзіла замуж. За першага мужа яна была маладзейшай амаль на трыццаць год, за другога — старэйшай на дзевятнаццаць. Магдаліна Завішына — эксцэнтрычная, загадкавая асоба, якая шмат рабіла для беларускага адраджэння — бясследна знікла ў гісторыі. Што засталося пасля яе, дык гэта рэшткі палаца і кальвінскага збора ў былым маёнтку Кухцічы на Уздзеншчыне, а таксама забруджаныя смеццем ліпавыя прысады на месцы маёнтка ў асіповіцкай Жорнаўцы. Ды яшчэ чыгунка Верайцы — Градзянка, якой у гэтым годзе споўніцца 100 год.**



А былі ж часы... У афіцыйным выданні Народнага сакратарыята міжнародных спраў Беларускай Народнай Рэспублікі ў 1918 годзе сярод асоб, якія з кола "чынных інтэлігенцкіх сіл" вызначыліся нацыянальнай работай, імя княгіні Магдаліны Радзівіл (Завішынай) згадана ў адным шэрагу з Янкам Купалам, Якубам Коласам, Яўхімам Карскім, Браніславам Эпімах-Шыпілам, Раманам Скірмунтам, Браніславам Тарашкевічам. Значыць, і справы яе сапраўды вартыя ўвагі.

Ян (Іван) Завіша напрыканцы XIX стагоддзя быў буйнейшым землеўладальнікам Мінскай губерні. У гісторыю ён увайшоў як выдатны этнограф і археолаг, вядомы не толькі ў Санкт-Пецярбургу і Варшаве, але і ў Вільні і Мінску (дарэчы, пры саісканні вучонай ступені кандыдата навук ад сучасных археолагаў патрабуюць веданя яго працы). Гэты чалавек меў у распараджэнні выдатны сямейны архіў і дасканала ведаў свой радавод. На высокай ноце нацыянальнай годнасці выхоўваліся і яго дзеці, у прыватнасці старэйшая дачка Магдаліна, якая вельмі ганарылася сваім гербам "Лебедзь". Бліскучае хатняе велікасвецкае выхаванне ў Варшаве не здолела заглушыць у ёй цікаўнасці да прадкаў, якія займалі дзяржаўныя пасады ў ВКЛ. Пасля смерці першага мужа, польскага магната Красінскага, Магдаліна пераязджае з Польшчы на пастаяннае жыхарства ў Мінскую губерню, часта наведвае Мінск. Тут разам з сястрой Марыяй яна выступае фундатаркай бясплатных ложкаў для хворых у шпіталі Мінскага дабрачыннага таварыства, а ў 1906 годзе выходзіць другі раз замуж — за маладога афіцэра Мікалая Радзівіла, як можна меркаваць, сапраўднага сябра, таксама шчырага прыхільніка беларускасці.

Пасля лютаўскага паўстання 1905 года ўсе народы імперыі ўбачылі нетрываласць самадзяржаўя, пачаўся пошук шляхоў да нацыянальнага вызвалення, які перамяжоўваўся з ростам агульнарасійскіх палітычных партый розных кірункаў. У гэтай сітуацыі і беларусы рызыкнулі распачаць нацыянальную работу. Ніякага арганізуючага цэнтра ў іх не было, усё трымалася на прыватнай ініцыятыве. Тон задавалі дасведчаныя ў гісторыі навукоўцы, з'явіліся пакуль нікому не вядомыя маладыя пісьменнікі, паэты, нават палітыкі, якія спрабавалі зладзіць беларускую сацыял-дэмакратыю. У расійскай сталіцы і дома беларусы інтэнсіўна абменьваліся думкамі. Легальным быў шлях асветніцтва. Ён пралягаў праз адраджэнне мовы як асновы абуджэння нацыянальнай свядомасці.

Княгіня Магдаліна Радзівіл, якая вызначалася адукаванасцю, веданнем гісторыі і, што надзвычай важна, трывалым фінансавым становішчам, пачала таксама шукаць сваё месца ў руху за нацыянальнае адраджэнне. Разам з мужам Мікалаем яна пастаянна знаходзілася ў віры падзей. Нягледзячы на тое, што княгіня шмат ездзіла, яе сядзіба ў Жорнаўцы паступова ператварылася ў сапраўдны "штаб фінансавай дапамогі". Сучаснікі сведчаць, што дзверы ў яе так званы "белы дом" не зачыняліся. Дапамагала Магдаліна ў асноўным выдаўцам, але не шкадавала сродкаў і для творцаў, якія яе час ад часу ашуквалі і спажывалі грошы на іншыя мэты. Пры фінансавай падтрымцы Магдаліны Радзівіл была створана беларуская бібліятэка пры Санкт-Пецярбургскай рымска-каталіцкай духоўнай акадэміі, дзе Браніслаў Эпімах-Шыпіла працаваў выкладчыкам. Пачынаючы з 1906 года і да моманту закрыцця ў 1915 г. яна фінансавала і аплочвала даўгі часопіса "Belarus", выступіла фундатарам дзейнасці першай беларускай выдавецкай суполкі "Загляне сонца і ў наша аконца" і самых розных прыватных ініцыятыў. Значныя сродкі накіроўваліся ёю на выданне першай беларускай газеты "Наша ніва". Звычайна яны перадаваліся ў Вільню кур'ерамі, але і сам рэдактар газеты Аляксандр Уласаў любіў наведаць Жорнаўку, дзе нават у адсутнасць княгіні патрабаваў, каб яго накармілі. Высокі, ладны, ён казаў гэта зычным голасам, з жартам. Але пажаданне імгненна выконвалася. Потым ён, прычакаўшы гаспадыню, вёў з ёй гутарку пра выдавецкія справы, ды і не толькі. Атмасфера была сяброўскай.

Колькасць грошай, накіраваных ёю на выдавецкія праекты, падлічыць цяжка. Але гаворка можа ісці пра сотні тысяч царскіх рублёў. Як успамінаў юрыст княгіні Гаўрыла Царык, ён асабіста на пачатку 1913 года перадаў у Вільні братам Луцкевічам і Уласаву 20 тысяч рублёў. Але гэта ўсяго частка таго фінансавання, што ўжо ішло сем гадоў.

Да гонару Магдаліны належыць грашовая падтрымка кніжкі вершаў Максіма Багдановіча "Вянок". Выданне пабачыла свет з яе фамільным гербам "Лебедзь" на тытульнай старонцы і паклала пачатак фінансаванню серыі кніг, у якую ўвайшлі творы Канстанцыі Буйло, Ядвігіна Ш., Якуба Коласа.

Зразумела, што мецэнацтва было нелегальным. Побач ішла публічная гаспадарчая і грамадская дзейнасць княгіні. Кожны яе праект выклікаў шмат водгукаў. У 1906 годзе Магдаліна Радзівіл пабудавала ў Лондане касцёл, ды забараніла палякам карыстацца ім, правяла ў Жорнаўцы тэлефон, у 1912 г. прапанавала ў Мінскую гарадскую Думу праект пабудовы велічнага касцёла са шпіталем для хворых і дзіцячым прытулкам (Дума ўжо і пагадзілася была, але Пецярбург не дазволіў). З пачаткам Першай сусветнай вайны мінскія ўлады ўключылі Магдаліну ў склад кіраўніцтва "Таварыства дапамогі ніжнім чынам", але яна адмовілася ад пасады і ўзяла на ўтрыманне на лета ў Жорнаўку дзяцей, чые бацькі загінулі. У 1918 г., пры немцах, яна перавяла справаводства ў сваіх маёнтках на беларускую мову, паспела адкрыць тры беларускамоўныя школкі і заснавала рамесную вучэльню ва Уздзе. Гэта была яе апошняя справа на карысць Беларусі.

З прыходам бальшавікоў да ўлады княгіня Магдаліна з'ехала ў Швейцарыю, дзе і памерла рахманай манашкай у манастыры ў 1945 годзе.

У беларускай савецкай гістарыяграфіі імя Магдаліны Радзівіл ніколі не згадвалася. Хаця яе міралюбівыя дзеі і шчодрае мецэнацтва заслугоўваюць самай высокай пашаны. У вянок гонару слаўнай беларускай княгіні — сённяшняя публікацыя.

***На здымку: княгіня Магдаліна Радзівіл з дачкой Людвікай, 1880—1890 гг.***



## Вандроўнік у нябёсах

Першы летні месяц выкраў з беларускай літаратуры адразу некалькі чалавек, якія шмат у чым вызначалі яе твар. Адным з гэтых неардынарных творцаў быў Юрась Малаш, зусім не стары яшчэ мастак, краязнаўца, філосаф, адметны кніжнік. Яго не стала 13 чэрвеня.

Нячастым, але жаданым госцем быў ён і ў "лімаўскіх" калідорах. У выдавецтве ў 2002 годзе пабачыла свет яго па-свойму ўнікальная кніга "Патаемнае наіўных мастакоў Беларусі". Былі ў Юрася і іншыя сур'ёзныя задумы... Добрыя вочы, вялізная барада рабілі яго мудрым старцам, а быў ён вельмі сціплы, гаварыў ціха і мала, нібы саромеючыся суразмоўцы. І толькі пасля смерці даведаліся, што было Ю. Малашу ўсяго крыху больш за 50 гадоў (нарадзіўся 16 студзеня 1957 года).

Галоўным ягоным захапленнем быў Язэп Драздовіч. Ён так палюбіўся мастаку, што, здавалася, увасобіўся пэўным чынам у ім самім. Вольны дух глыбокага астрафізіка і касмолага стаў родным Юрасю Малашу: доўгія гады ён збіраў яго літаратурную спадчыну, каб выдаць нарэшце асобнай кнігай. На жаль, гэтага так і не адбылося. Вельмі шкада. Бо якраз тыя кнігі атрымліваюцца, якія робяцца апантанымі людзьмі, што цалкам аддаюцца любімай справе і што сталі спецыялістамі не па змусу, але згодна з уласным пакліканнем.

Наследуючы традыцыі Драздовіча, Малаш і сам стаў мастаком-самавукам, вандроўнікам, краязнаўцам, літаратарам. Ён выдаваў рукапісныя кнігі ў некалькіх экземплярах, якія ўласнаручна ілюстраваў. Гэткая праява мадэрнасці ў нашы інфармацыйныя часы выглядала амаль што архаікай, але тым не менш выклікала захапленне і павагу да самотніка-творцы, што спрабуе прабіць сцяну шаблоннасці голымі рукамі. Тым больш, многае Юрасю Малашу сапраўды ўдавалася зрабіць для ўшанавання памяці былых мастакоў-наватараў — Я. Драздовіча, А. Кіш, К. Малевіча. Нямала мастак папрацаваў для гісторыка-культурнага музея-запаведніка "Заслаўе".

Будзем спадзявацца, што нехта ўсё ж прадоўжыць справу Малаша — выдасць спадчыну Драздовіча, будзе стварыць творы інсітнага (прымітыўнага) мастацтва, — але, мабыць, падобных людзей вакол нас няшмат. Фактычна — адзінкі. І вельмі адчувальна, калі замест гэтых адзінак пачынае зеўраць пустэча.

Мір табе, вольны мастак.

**Рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

Дзяніс МАРЦІНОВІЧ, фота аўтара

# На гарадоцкім Парнасе

**Апошнія гады Гарадок абавязкова сустракае надыход лета ўрачыстасцямі. У горадзе ўжо трэці раз прайшло свята народнай творчасці, беларускай паэзіі і фальклору "Гарадоцкі Парнас".**

Ля яго вытокаў стаяла Вольга Каўрыга, начальнік аддзела культуры Гарадоцкага раёна. У 2009 годзе свята яшчэ мела вузкі, раённы маштаб. Але ўжо праз год выйшла на ўзровень вобласці: у Гарадок з'ехаліся майстры з Полацка і Віцебска. Першыя два гады фэст меў назву "Вераніцкі Парнас", што лёгка вытлумачыць. Як устанавілі навукоўцы, менавіта Канстанцін Вераніцын, які нарадзіўся ў вёсцы Астраўляны на Гарадоччыне, з'яўляецца аўтарам легендарнай паэмы "Тарас на Парнасе", што доўгі час лічылася ананімнай. Сёлета мерапрыемства атрымала назву "Гарадоцкі Парнас".

Урачыстасці распачаліся на цэнтральнай плошчы горада, дзе адбылося святочнае адкрыццё фэста з удзелам аркестра народных інструментаў Беларускай дзяржаўнай сельскагаспадарчай акадэміі (г. Горкі) і ансамбляў з самога Гарадка "Яблынька" і "Гарадоцкія музыкі". А потым жыхары і госці горада сталі гледачамі канцэрта "Вечарынка на Парнасе". Далей мерапрыемствы плаўна перамясціліся ў сквер, дзе адбыўся "Кірмаш ля Парнаса". Там у гледачоў літаральна разбягаліся вочы. Арганізатары падзялілі прастору на шэраг падворкаў, гаспадарамі якіх з'яўляліся прадстаўнікі вёскі ці прадпрыемства. На тэрыторыі кожнага з іх ладзіліся гульні і забавы, гучалі песні і дэгуставаліся стравы нацыянальнай кухні. Побач госці свята змаглі ўбачыць выстаўку работ, якую падрыхтавалі майстры народных рамёстваў з Гарадка і Віцебска, завітаць на кірмаш сувенірнай прадукцыі і майстар-класы па ўнікальных рамёствах (лозапляценні, ткацтве і іншых). Там жа дэманстраваліся кросны, якія зусім нядаўна прэзентавалі беларускую культуру ў далёкай Венесуэле.

Тым часам у Доме рамёстваў адбылося адкрыццё выстаўкі работ, падрыхтаваных майстрамі клуба "Роўша" (кіраўнік Ніна Ярмук), створанага пры Полацкім цэнтры традыцыйных культур і рамёстваў. Яго сябры, што працуюць у тэхніцы лапікавага шыцця, паказвалі свае працы ў Полацку, Віцебску, Санкт-Пецярбургу. У рамках выстаўкі быў прэзентаваны міжнародны праект "Раўнд Робін", ажыццёўлены майстрыхамі Беларусі і Даніі. Яго сэнс заключаецца ў тым, што працу пачынае адна майстрыха, працягвае іншая і г.д. А заканчвае ў рэшце рэшт першая. Прызнаюся, выстава пакінула наймацнейшае ўражанне. Упэўнены: лепшыя творы, у прыватнасці трыпціх на тэму Вялікадня, меў бы несумненны поспех сярод сталічнай публікі.

Мерапрыемствы працягнула свята паэзіі і песні "Гарадоцкая ліра", якое стала сімвалічным увасабленнем сувязей паміж мінулым, сучасным і будучым. Традыцыю сімвалізавала тэатралізаваная пастаноўка, падчас якой калектыў Народнага тэатра з мясцовага Дома творчасці прадставіў сваю версію паэмы "Тарас на Парнасе". Сучасніць выдатна ўвасобілі госці ўрачыстасцей. Не будзе перабольшваннем сказаць, што самым яркім атрымалася выступленне ўраджэнца Гарадоччыны, паэта і перакладчыка Уладзіміра Скарынкіна. А вось літаратурную будучыню сімвалізавалі ўдзельнікі і пераможцы конкурсу "Гарадоцкая ліра", арганізаванага літаратурным клубам "Гарадок". Падчас падвядзення вынікаў былі вызначаны лепшыя гумарыстычныя творы ў жанрах прозы, паэзіі, аўтарскай песні і сцэнічнага жарту.

Напрыканцы свята адбылася выязная экскурсія па маршруце "Гарадок — Астраўляны — возера Лосвіда — Гарадок", падчас якой госці наведалі радзіму К. Вераніцына і адчулі ўсю прыгажосць краявідаў беларускага Падзвіння.



***На здымку: памятны знак, устаноўлены ў Гарадку ў гонар паэмы "Тарас на Парнасе".***



Анатоль Аўруцін

* * *

*Мне ўсё бліжэй галінак перастук,*
*Нябесны хор, што змрочнасцю здзіўляе,*
*І сполах крылаў, і зламаны сук,*
*І ясень, што завулак зацямняе.*

*Як блізка ўсё, нібыта за сцяной.*
*"Кукушка"-паравоз гулліва-юркі...*
*А побач маставая!.. А па ёй*
*Якісьці цуд-абруч ганяе Юрка.*

*А вось фурманшчык свішча пугаўём,*
*Нас, хлапчукоў, сцябаючы па лытках.*
*Якісьці дом. Такі шыкоўны дом,*
*Дзе ўсё другое: посуд і пажыткі.*

*Там тэлефон трызвоніць, чараўнік,*
*Так, тэ-ле-фон —*
*як многа ў гэтым гуку!*
*Карціны паўтараюць чыйсьці лік,*
*І патэфон спявае пра разлуку.*

*Яго за ручку можна пакруціць.*
*Табе дадуць. У сад не лазіў ноччу.*
*Жанчына, бы кручком, зачэпіць ніць:*
*"Што не расцеш?!*
*Ці, можа, хто сурочыў?.."*

*Мне тыя мроі хочацца вярнуць,*
*Наладзіць зноўку прымус цётцы Клаве*
*І градуснік разбіць,*
*каб бачыць: ртуць —*
*Срабрысты пыл у залатой аправе.*

*Каб не было нічога даражэй*
*За ціхі шэпт каля бацькоўскіх вясніц*
*І каб з гадамі сталіся бліжэй*
*Галінак перастук і хор нябесны.*

* * *

*Тры ноты толькі, чуеш? До, рэ, мі...*
*І белы снег — як ранішняя пошта.*
*Ды зразумей: як час ты ні глумі,*
*А цішыня і ёсць твой верш апошні.*

*І не ўдавей вачыма зноў і зноў —*
*Мне цяжка ў іх так*
*бляклa люстравацца.*
*Навошта хустку цягнеш да брывоў?*
*Трымаешся?.. Было б хоць чым трымацца?!*

*Навошта, пульс схаваўшы пад жакет,*
*Яго маной патройваеш бязмоўнай?..*
*За ўсё, за ўсё адкажа белы свет,*
*Дзе кожны дзень — умоўна-безумоўны.*

*Ну, закрычы, наводмаш адсябруй,*
*Пакінь хоць цень*
*на гурбе светларуннай,*
*Якая ўся — з бадай нябачных бруй,*
*Ды бачу дзве і чую: змоўклі бруі.*

*Бясконцы свет пусці ў гемаглабін*
*Святла асколкам, жылкай, мармытаннем,*
*Каб вышыня фантаніла з глыбінь*
*І цішыня здымала ўсе пытанні.*

* * *

*Слязінаю падвойваўся пагляд,*
*Які ўбіраў завулак зааконны,*
*І зноў яго разгублена дваяць*
*У слёз біноклік сціснутыя клёны.*

*Да клёна ад слязінкі — паўрукі,*
*Паўжэста, паў-дрыготкага крананне.*
*Сляза збяжыць па зарыве шчакі,*
*Адпрэчыўшы грахі і пакаянні.*

*Заўсёды так...*
*Дзе выспа — там і він,*
*Бо гэты свет, па сутнасці, дваякі.*
*Прыгледзішся —*
*вось ідал... вось кумір...*
*Абернешся — ні памяці... ні знаку...*

* * *

*Дажджы... Ды такая патрэба*
*Глядзець у вышынную ноч.*
*Хай плача дзіравае неба*
*Ў дзіравыя тазікі воч.*

*Няхай падаецца наіўнай*
*Спякота на схіле вясны,*
*Калі красавіцкія лііўні*
*Гудзяць пад карой у сасны.*

*Дажджы... Мітуслівае лета*
*Брыдзе пад плашчом наўздагад,*
*Ды песня зялёная спета,*
*І новая будзе наўрад.*

*У ліпені восень ці трэба?*
*Ды толькі прыгледзься наўзбоч:*
*Сачыцца дзіравае неба*
*Ў дзіравыя тазікі воч...*

* * *

*Круг разарваны... Хто павінны?*
*Вадзіцы ў студні — ні глытка,*
*Адно гнілое рабаціннe*
*На хвалях мутнага стаўка.*

*Шчэ гарачынь, яшчэ груваста*
*Пагрэцца выпаўзуць вужы.*
*Сабраны хлеб. Цяпер нечаста*
*Людзей спаткаеш ля мяжы.*

*І ты прасветла застываеш,*
*Калі між скошаных палёў*
*Глядзіш, як птушка агнявая*
*Ў пятлі знікае стрымгалоў.*

* * *

*Не цемнату глумлю, а цьму,*
*Ды на яе гляджу да змогі,*
*Хоць і не ведаю, каму*
*Хто прыйдзе з нас на дапамогу,*

*Калі з бяздоннай сінявы*
*Ўраз палыхне падземны полым*
*І ўстане водсвет агнявы*
*Над цемрай — ісцінай бясполай.*

*Ды, абагнаўшы стогн зямны,*
*Сваціла бляклае павісне,*
*А, значыць, будучыя сны*
*Мне ўжо прысніліся калісьці,*

*Чаго і ў розум не вазьму,*
*Хоць груз нялёгкі за плячыма...*
*І я на зманлівую цьму*
*Гляджу азяблымі вачыма.*

З рускай пераклаў Мікола Шабовіч



Фота Кастуся Дробава



Пятро Ліпай

**Паэт Пятро Ліпай нарадзіўся ў першы дзень вайны — 22 чэрвеня 1941 года, у вёсцы Вялікае Залужжа Смалявіцкага раёна, а дзяцінства і юнацтва яго прайшлі на Уздзеншчыне, радзіме бацькі, вясковага настаўніка, які загінуў пад Варшавай. Пасля заканчэння Белдзяржуніверсітэта творца працаваў у рэдакцыях літаратурных часопісаў, у Міжнароднай асацыяцыі "Культура — свету", друкаваў свае вершы і пераклады з украінскай і рускай моў у рэспубліканскіх выданнях. На яго словы напісаны вядомыя песні "Лясныя абелiскі", "З вякоў — на векі", "Сэрца Беларусі" і іншыя, якія гучаць на канцэртах і ў радыёэфіры. У мінулым годзе Пятро Ліпай, на жаль, заўчасна пайшоў з жыцця. Прапануем увазе чытачоў некалькі вершаў паэта.**

## *Мой дзень*

Светлай памяці мілай матулі
Надзеі Іванаўны

*Я нарадзіўся ў першы дзень вайны —*
*У чорны дзень, людзьмі навек пракляты,*
*У дзень, калі з крыжамі гругáны*
*З выццём ішлі ў піке над нашай хатай.*

*І побліз, над Маскоўскаю шашой,*
*Па бежанцах страчылі з кулямётаў,*
*Па дзетках іх — з нявіннаю душой!*
*Фашысты ж асы шчэрыліся потым…*

*А паміж бежанцаў — скрозь плач, агмень,*
*Пад кулямі, ад смерці за паўрыскі —*
*Знямоглая матуля цэлы дзень*
*Раджаць мяне брыла у вёску,*
*несла з Мінска…*

## *Сляза Вялікага Адама*

*Між тых палёў сцяжынка ў жыце…*
*Пад старажытнымі дубамі —*
*Расінка долаў нашых, Свіцязь,*
*Сляза Вялікага Адама…*
*Яна, крыштальная, упала,*
*Як травы з небам гаманілі,*
*У летню ноч на Ян-Купалу —*
*А па каханай, па Марылі…*
*І ў люстры возера скрозь ночы*
*Не зоры зіхацяць да ранку,*
*А свецяцца Адама вочы,*
*Яго чароўнай Свіцязянкі.*
*Завоссе, Наваградак, Шчорсы,*
*Варончa, Камень Філарэтаў…*
*Праз два стагоддзі незараслы*
*На сцежках тых сляды Паэта.*
*Блукаю берагам прывольскім,*
*І ў шэпце дрэў пад хваляў плюскат*
*Адамаў чую голас польскі —*
*З тугою шчырай беларускай.*
*Амыў ён тут вадой павекі —*
*Самгне іх доля на чужыне —*
*І песню праспяваў навекі*
*Па Літве роднай, па Айчыне…*

## *А ты каханаю была…*

*У ззянні поўні — даль без краю,*
*І росны луг — як Млечны Шлях…*
*Куды брыду? Чаго шукаю*
*Адзін пад зорамі ў палях?*
*Далоні студзіць на узмежку*
*Раса з паніклай лебяды…*
*Шукаю я на даўніх сцежках*
*Твае маленькія сляды.*
*Як часта некалі ля рэчкі*
*Блукалі мы ускрай сяла…*
*Шаптала мне: "Твая навекі…"*
*А ты — каханаю была…*
*Але мая такая доля*
*Кахаць і не каханым быць.*
*Як хутка для чужой спатолі*
*Мяне паспела ты забыць!*
*Цябе ж не забываў нідзе я,*
*І ў недасяжнасці тваёй*
*Маё і гора, і надзея,*
*І, можа, паратунак мой…*



Віктар Бубнаў

## *Блакітны наш пачаўся дзень…*

*Нібыта скарб я адшукаў —*
*Цябе аднойчы стрэціў.*
*І ў ноч вясновую гукаў:*
*— Ты — лепшая на свеце!*

*Мой голас, мабыць, між дарог*
*Азваўся рэхам помным…*
*Ды з галавы да стройных ног*
*Цябе ўжо лашчаць промні.*

*Блакітны наш пачаўся дзень.*
*І воблакаў ёсць трохі.*
*А сцежка нас з табой вядзе*
*У белы свет чаромхаў.*

*Трымціш ты, нібыта пчала,*
*Між кветак гэтых, лісця…*
*З чаромхаў белага святла*
*Няма, здаецца, выйсця.*

* * *

*Гартаю кнігу дзён*
*Кахання залатога.*
*Які пачуццяў плён!*
*І як старонак многа!*

*Хапала дзіўных кроз.*
*Але ў часы спатканняў*
*Вялікі геній-лёс*
*Стварыў шэдэўр кахання.*

* * *

*Дзе каханне было —*
*як патухлы ўжо кратар.*
*Як і некалі, мне не ісці на падман:*
*Ты ў жыцці для мяне —*
*найвялікшая страта,*
*Хоць пачуццяў калісь вывяргаўся вулкан…*

*О, якая была залацістая лава!*
*І, успомніўшы тое, скажу я адно:*
*"Ў нас каханне было найвялікшаю з'явай,*
*І шкада, што так хутка патухла яно".*

* * *

*Абое мы — нібыта здані,*
*І іх як быццам не крані,*
*Калі распалася каханне*
*На ночы сумныя і дні…*

*Не спадзяёмся мы на потым,*
*А што было — не пазаве…*
*Якая ўсё-такі самота*
*У сэрцах выстылых жыве!*

* * *

*Віхурыць восень лістабоем.*
*А просіць неба — стыні знак…*
*А мы, сустрэўшыся з табою,*
*Не нагаворымся ніяк.*

*Успомнім летні дзень лагодны,*
*Дзе ў ціхім пошуме лісця*
*Прыйшла ў сукенцы вельмі моднай*
*Ты, як на свята пачуцця…*

*Нас ад усіх схавалі ліпы,*
*(А свята ёсць — не быць журбе),*
*Я пацалункамі абсыпаў*
*Усю, пяшчотную,*
*цябе…*

**“Маскоўскі Дом Кнігі” — буйнейшая кнігагандлёвая рознічная сетка, дзяржаўнае прадпрыемства, што паспяхова працуе на рынку больш як 40 год. У сістэму крам уваходзіць 41 кнігарня ў Маскве і інтэрнэт-магазін. Акрамя таго, “Маскоўскі Дом Кнігі” — адзін з сузаснавальнікаў часопіса “Читаем вместе: навигатор в мире книг”. Пра адметнасці працы гэтай сеткі кнігарняў, асаблівасці выжывання на рынку перыядычных выданняў і пра многае іншае — наша гутарка з Юліяй Гняздзілавай, галоўным рэдактарам часопіса “Читаем вместе” і супрацоўнікам “Маскоўскага Дома Кнігі”.**



# Ад крамы — да сацыякультурнага цэнтра

**Марына ВЕСЯЛУХА,**
**Мінск — Масква —Мінск**

***— Юлія Барысаўна, каб сёння паспяхова існаваць на рынку, кнігарня павінна быць не проста месцам, дзе можна набыць тое ці іншае выданне, але і своеасаблівым культурным цэнтрам. Ці так гэта ў выпадку з “Маскоўскім Домам Кнігі”?***

— Так, сапраўды, наша крама пазіцыянуе сябе як сацыякультурны цэнтр і акрамя асноўнай дзейнасці — непасрэдна продажу — на базе кнігарні праходзяць некалькі фестываляў. Не так даўно адбыўся дзясяты фестываль “Разам з кнігай мы расцём”. Да пачатку навучальнага года прымеркаваны фестываль “Зноў у школу”, ён дапамагае падрыхтавацца да вучобы, правільна сабраць партфелі, набыць лепшыя выданні. Фестываль “З кнігай у лета” прымеркаваны да пачатку адпускнога сезона. Праводзім мы і тэматычныя тыдні: тыдзень дзелавой літаратуры, кніг па дамаводстве.

***— У сістэме “МДК” працуе і інтэрнэт-кнігарня. Якая форма набыцця кніг больш запатрабаваная ў наведвальнікаў: традыцыйная ці праз Інтэрнэт?***

— Тут усё залежыць ад рэгіёна. У Маскве набыць кнігу не праблема, тут шмат і вялікіх, і малых кніжных сетак. Таму масквічы крыху менш карыстаюцца менавіта інтэрнэт-кнігарняй. Калі казаць пра рэгіёны, то варта ад’ехаць ад сталіцы на 100—150 кіламетраў — адразу заўважаеш: там набыць навінкі вельмі складана. Таму прасцей іх заказаць праз Інтэрнэт. Для нас гэтыя сістэмы існуюць паралельна. Не сакрэт, што больш папулярным становіцца электроннае кнігавыданне. Але і друкаваныя выданні не паміраюць і карыстаюцца попытам. Хоць, з іншага боку, праблема чытання сёння стаіць вельмі востра.

***— А вы ўжо займаецеся продажам электронных кніг?***

— Пакуль не.

***— Плануеце?***

— Думаю, усе кнігагандляры будуць планаваць у будучыні, бо гэтага патрабуе развіццё тэхналогіі. Цяпер важна вызначыцца, якія рыдары набываць, таму ў бліжэйшы час, напэўна, з’явяцца і тэксты. Развіццё тэхналогій прымушае нас глядзець наперад з апаскай. Кнігу чакае той жа лёс, што і тэатр, яна не стане элітарным мастацтвам, але некаторыя тэматычныя сегменты, магчыма, цалкам сыдуць у электронны выгляд.

***— Якія кнігі прадстаўлены ў асартыменце “МДК”?***

— Наш Цэнтральны магазін знаходзіцца на Новым Арбаце, гэта самая вялікая кнігарня ў Расіі. У сетцы ёсць пяць спецыялізаваных крам: “Дом Педагагічнай Кнігі”, “Дом Тэхнічнай Кнігі”, “Дом Кнігі “Студэнт”, “Дом Замежнай Кнігі”, “Дом Медыцынскай Кнігі”. У асартыменце крам можна знайсці абсалютна любое выданне, тут адначасова прадстаўлена больш як 270 тысяч навінак.

***— Вы яшчэ і галоўны рэдактар часопіса “Читаем вместе”…***

— Так, гэты часопіс сёння — практычна адзінае ў Расіі навігацыйнае выданне, накіраванае на самую шырокую аўдыторыю. Ён арыентаваны не на спецыялістаў кніжнай справы, а менавіта на масавага чытача, служыць арыенцірам у бясконцым кніжным патоку, што сёння ёсць на рынку. Часопіс існуе ўжо пяць год. На яго старонках мы стараемся інфармаваць чытачоў пра самыя цікавыя кніжныя навінкі. Можна сказаць, што “адметнасцю” часопіса з’яўляецца пяцізоркавая сістэма рэйтынгу, у адпаведнасці з якой мы ацэньваем кожнае выданне. Ад адной зоркі: “лепш прайсці міма” — да пяці: “прачытаць абавязкова і набыць у асабістую бібліятэку”. Кожная адзнака — уласнае меркаванне нашых аўтараў, а гэта вядучыя маскоўскія журналісты і крытыкі. Але паколькі мы асноўнай сваёй задачай ставім прыцягнуць увагу чытачоў, то вельмі рады, калі яны з намі спрачаюцца. Калі мы ацанілі кнігу на тры зоркі, а чытач не згодзен, — значыць, ён гэтую кнігу ўжо прачытаў. Мы вітаем любыя формы дыскусіі з чытачамі.

Акрамя матэрыялаў пра кніжныя навінкі ў часопісе рэгулярна з’яўляецца шэраг артыкулаў па гісторыі кніг, вялікі раздзел прысвечаны дзіцячай літаратуры. Стараемся прываблiваць да кнігі і дарослых, і дзяцей. А яшчэ падлеткаў — аўдыторыю, на якую вельмі складана паўплываць. Але мы не апускаем рук і стараемся публікаваць як агляды, так і рэцэнзіі на пэўныя навінкі для падлеткаў.

— Ці трапляюць у поле зроку беларускія выданні?

— Прапаноўваем выдаўцам прывозіць нам кнігі, якія яны лічаць неабходнымі. Аўтары прыходзяць у рэдакцыю і самі з прывезеных навінак выбіраюць асобнікі на рэцэнзію. Таму калі кнігі беларускіх, украінскіх пісьменнікаў трапляюць да нас у рэдакцыю, ёсць шанс, што і іх выберуць. Кожны месяц на старонках часопіса мы аглядаем каля ста навінак.

***— У цэлым, ці карыстаецца папулярнасцю ў чытачоў такое кніжна-навігацыйнае выданне?***

— Тыраж у нас — каля 10 тысяч. Але хацелася б больш, як, напэўна, і ўсім выдаўцам. На жаль, узровень нашых чытачоў і ў цэлым чытацкага мастацтва ў краіне не вельмі высокі. Людзі не так многа чытаюць, але тыя, хто чытае, стараюцца звяртаць увагу на нашы рэкамендацыі. Маем шмат пастаянных падпісчыкаў, якія разумеюць, што з нашай дапамогай могуць арыентавацца ў прасторы кніжнага мора.

*Клуб бібліяфілаў*

## Слова пра Яўгена Куліка

**Юзэфа ВОЎК**

**У сталічнай кнігарні “Кніжны салон” прайшло чарговае пасяджэнне клуба бібліяфілаў. На гэты раз увага аматараў кнігі была звернута на творчую спадчыну мастака, кніжнага графіка Яўгена Куліка.**

Асоба мастака Яўгена Куліка досыць добра вядомая аматарам кнігі — не толькі па ілюстрацыях да “Песні пра зубра” Міколы Гусоўскага, але і па многіх іншых работах: гістарычных рэканструкцыях, графічных творах. Пра свайго сябра і калегу прысутным распавёў Уладзімір Крукоўскі: “Яўген скончыў тагачасны Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут, дзе абараніў дыпломную работу па жывапісе, але потым жывапісам не займаўся. Ён прысвяціў сваё жыццё графіцы і вырас у абсалютна бліскучага мастака ў гэтым жанры. Яўген валодаў рознымі тэхнікамі, афармляў кнігі, быў мастацкім рэдактарам часопіса “Бярозка”. Але самай галоўнай тэмай для яго была Беларусь гістарычная, хоць меў і шмат замалёвак з сучаснасці. Так, ён стварыў некалькі выдатных цыклаў: “Шляхамі Язэпа Драздовіча”, “Замкі Беларусі” (у якім прадставіў чатыры выдатныя рэканструкцыі беларускіх замкаў), “Помнікі дойлідства Гарадзеншчыны”, “Паўстанне 1863 года ў Беларусі”.

Але нягледзячы на папулярнасць і надзвычайны талент аўтара, шмат яго работ яшчэ застаюцца невядомымі шырокай грамадскасці. І ў гэтым кірунку ўжо робяцца пэўныя крокі. Так, як распавёў Алесь Карлюкевіч, дырэктар РВУ “Літаратура і Мастацтва”, цяпер ідзе праца над падрыхтоўкай новага выдання кнігі “Слова пра паход Ігаравы”, куды, апроч ілюстрацый Я. Куліка да паэмы, увойдуць яго работы з выявамі знакамітых расійскіх гарадоў.

Наступная сустрэча сяброў клуба бібліяфілаў адбудзецца напрыканцы жніўня і будзе прысвечана мастацтву экслібрыса.

*У падтрымку чытання*

**Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА,**
**фота Віктара Зайкоўскага**

## Рэжысёр Іван Паўлаў: «Раблю выключэнне для Жванецкага»



Свой першы фільм “Свежына з салютам” Іван Паўлаў зняў на беларускай мове, нягледзячы на тое, што ў школе яе не вывучаў. Ён хацеў бы зняць фільм гістарычны, смаргонскую легенду пра Вілію, адкуль пайшла назва ракі, каб людзі ў ім размаўлялі так, як яны размаўлялі тады: шляхта — па-польску, простыя людзі — па-беларуску.

З класічнай літаратуры не супраць экранізаваць штосьці з твораў Чэхава, хаця і заўважае: “Там была іншая атмасфера, іншы тэмп жыцця. Рытм жыцця настолькі памяняўся, што класіку можна толькі асучасніць. Калі ствараць тую атмасферу, гледачу можа быць незразумелы яе кантэкст”. На пытанне, што чытае сёння, адказвае:

— У асноўным — сцэнарыі. Чытаю рэдка і смакую — чытаю марудна. Перачытваю кнігі нячаста, але для Жванецкага раблю выключэнне. Што чытаў апошнім часам? Творы Грышкаўца, “Касандру” Велера.

У юнацтве быў эмацыянальны шок, калі прачытаў “Вайну і мір”. Такі ж шок быў і ад творчасці Дастаеўскага (дарэчы, яго раман “Ідыёт” у арміі ў мяне скралі). Але на маё станаўленне як асобы больш паўплывалі не кнігі, не фільмы, а людзі, з якімі сустракаўся. Люблю працаваць з людзьмі, ствараем фільм камандай, і гэта мне вельмі падабаецца. Калі склаліся нармальныя адносіны, калі ўсе давяраюць адзін аднаму, праблемы лёгка вырашаюцца.

Ужо прызвычаіўся да таго, што знайшоў інфармацыю пра аўтара ў Інтэрнэце, уключыў пошукавік, спампаваў — і чытаеш. Друкаваная кніга каштуе дорага, а тут грошы не патрэбны. Так, гэта ні з чым не параўнальна — шоргат старонак, пах друкарскай фарбы… Але, стоячы ў пробцы, я маю магчымасць чытаць з дапамогай новых тэхналогій. Час паскорыў крок, і з гэтым нічога нельга зрабіць.

Дарэчы, я заўважыў, што густы вяртаюцца. Аднаму сыну 13 год, другому — 16, і абодва ахвотна слухаюць калекцыю маіх запісаў джазавай музыкі. Мяркую, і попыт на друкаваную кнігу не знікне.

# Кроплі і словы



Віктар Шніп

**Крызіс і перабудова**
**8.06.2009.** Сустрэў пісьменніцу Ніну Загорскую. На яе пытанне пра жыццё адказаў: "Усё было б добра, калі б не сусветны фінансавы крызіс". Ніна Сямёнаўна тут жа сказала: "Гэты крызіс прыдумалі тыя ж людзі, якія ў свой час прыдумалі перабудову..."

**У дзяцінстве і цяпер**
**8.06.2009.** З паэтам Глебам Артханавым успамінаем пра дзяцінства. "Яшчэ зусім нядаўна ў Свіслачы можна было купацца..." — кажа мой суразмоўца. А я дабаўляю: "А цяпер там толькі тонуць..."

**Агуркі і яблыкі па пяць капеек**
**9.06.2009.** У выдавецтва тэлефануюць не толькі пішучыя людзі, каб запытацца, калі можна прынесці рукапіс ці "чаму мяне не выдаяце, а друкуеце ўсякіх графаманаў", а часам і чытачы, каб проста пагаварыць. Вось і сёння патэлефанаваў чытач: "Можна з вамі пагаварыць?" "Можна", — адказваю я. І чалавек пачынае свой маналог: "Я палкоўнік у адстаўцы. У Мінску жыву дваццаць два гады. Выбар быў, дзе пасля службы застацца: Адэса ці Мінск. Жонка настаяла, каб паехаць жыць у Беларусь, бо ў вас жывуць спакойныя людзі. І я цяпер не шкадую. Пенсія ў мяне 900 тысяч. Суседзі пытаюцца: "За што табе такая пенсія?" За тое, што на месцы не сядзеў, а да пенсіі жыў, куды пашлюць. У маім пяціпавярховым доме ў пад'ездзе працуе толькі адзін мужчына, а ўсе астатнія п'юць. Бяда! Калі я служыў у Адэсе, у мяне быў "Жыгуль". Я на ім па пляжы ездзіў. Следам дзеўкі бегалі. Красата! Жыць тады можна было. Яблыкі і агуркі былі па пяць капеек! Вы памятаеце?" — "Не памятаю..." — адказваю я і кладу трубку.

**Фотаздымак Яўгена Крупенькі**
**9.06.2009.** Мне з "ЛіМа" вярнулі пазычаны фотаздымак Яўгена Крупенькі. Імя для творчай моладзі зусім невядомае. А прайшло ж пасля смерці паэта толькі гадоў пятнаццаць! І дзе сёння тыя ўдзячныя вучні, якія хадзілі да Яўгена Мікалаевіча як да літкансультанта "Чырвонай змены" ў літаб'яднанне "Крыніцы"? Няўжо таксама памерлі? Не! Жывуць! Працуюць! Друкуюцца! Кожны думае пра сябе! А быў жа пры жыцці Крупенька не самым апошнім у літаратуры! Ды не адзін Яўген Крупенька амаль забыты! Анатоль Вялюгін, Аляксей Русецкі, Пятрусь Макаль... І ці не такі чакае лёс многіх сённяшніх творцаў, што адзін аднаго запісалі ў класікі?.. "Такі…" — кожны, хто паўторыць гэтае слова, падумае пра іншых і ні ў якім разе пра сябе… А можа, і правільна зробіць?

**Ці ёсць справядлівасць?**
**9.06.2009.** Трэба верыць і спадзявацца на справядлівасць! Але яе ад жывых не дачакаешся! А памерлым усё роўна, што тут робіцца пасля іх і ці існуе справядлівасць. Справядлівая толькі адно смерць. Яе спазнаюць усе, хто нарадзіўся!

**Літво і пітво**
**10.06.2009.** Каэльо, Муракамі, Кундэра... Літаратура для масавага чытача. Віно, шампанскае, гарэлка... Пітво для шумнага застолля. І першае, і другое прыносіць задавальненне. Але хто адважыцца паставіць знак роўнасці паміж літаратурнай творчасцю і пітвом? Відаць, толькі масавы чытач і п'яніцы, якія даўно нічога не чыталі...

**Чэрвеньская завея**
**10.06.2009.** Нарэшце цёпла. Навокал — тапалёвы пух, нібыта пачалася чэрвеньская завея. І ў нас на працы на дзявятым паверсе калідор — як дарога, замеценая снегам...

**Як птушкі...**
**10.06.2009.** Значную частку свайго жыцця праводзім на працы і ў дарозе туды і назад. Словам, мы жывём як птушкі, што лётаюць у вырай...

**Двум па тры хвіліны**
**10.06.2009.** Тэлефонны званок. Арганізатары X Нацыянальнага фестывалю беларускай песні і паэзіі "Маладзечна-2009" просяць выступіць на гала-канцэрце "Зямля мая — песня", які будзе здымаць тэлебачанне. Канцэрт разлічаны на тры гадзіны. Не адмаўляюся. І не таму, што вельмі ўжо надта хачу пакрасавацца на сцэне, а таму, што можна будзе выступіць толькі двум паэтам і то па тры хвіліны. І тым больш не адмаўляюся таму, што калі ўжо просяць цябе, то адмоўся адзін раз, другі, а там і запрашаць перастануць, сказаўшы: "А ніхто не хоча выступаць!" І будзе нам Нацыянальны фестываль беларускай песні і паэзіі без паэтаў...

**Затанулы "Тытанік" збірае пасажыраў?**
**10.06.2009.** Жанчына, якая спазнілася на аэробус, што пацярпеў катастрофу над Атлантыкай у дзень, калі памерла апошняя пасажырка "Тытаніка", сёння загінула ў аўтакатастрофе… Выпадкова ці гэта затанулы "Тытанік" збірае пасажыраў?

**Не шукай...**
**11.06.2009.** У мяне на камп'ютары запісана песня "Не шукай..." у выкананні Данчыка. Калі бывае дрэнны настрой або проста сумна, я слухаю гэту цудоўную песню: "Не шукай ты мяне каля жытніх палёў, не шукай, не шукай... Калі к сэрцу майму ты дарог не знайшоў, не шукай, не шукай... Не кажы ты мне слоў, што не грэюць цяплом, не кажы, не кажы... Калі сэрца тваё не палае агнём, не кажы, не кажы..." І я адразу весялею, і мне хочацца жыць, любіць, кахаць, піць віно, спяваць і плакаць...

**У выдавецкіх варунках**
**11.06.2009.** Выраўшыся з працы на паўдня, прыязджаў з Маладзечна краязнаўца, мой даўні шчыры сябра Міхась Казлоўскі. У яго складанні ў нашым выдавецтве выходзіць "Смаргоншчына літаратурная". Міхась хадзіў па кабінетах і здымаў пытанні, якія ўзніклі ў час падрыхтоўкі кнігі. А я з ім паспеў толькі павітацца, і то на калідоры...

**Не вінаваты я!**
**12.06.2009.** Каля піўбара маладая жанчына гучна адчытвае падпітага мужа: "Апошні раз кажу! Каб болей не піў! І нават каб паху не было!" Мужчына не агрызаецца, а, як малое дзіця, якое толькі што было злоўлена за шкодніцтвам, глядзіць, нервова міргаючы, на жонку. І калі я праходзіў міма, мужчына павярнуў галаву да мяне і ў яго вачах я прачытаў: "Не вінаваты я!"

**Нам не дагодзіш...**
**12.06.2009.** Не было дажджу. І было дрэнна, што няма дажджу. Цяпер ідзе дождж. І ўжо дрэнна, што ён ідзе. Нам, людзям, не дагодзіш...

**Успомнілі ці нешта мяняецца**
**15.06.2009.** Патэлефанавалі з музея Янкі Купалы. Да іх прыйшоў афіцэр з пагранвойск з просьбай звесці яго з паэтам, які б мог для іх напісаць некалькі чатырохрадкоўяў на беларускай мове для тэлекліпа пра любоў да Беларусі. Апошні раз з падобнымі просьбамі да мяне і маіх калег па пяры вайскоўцы звярталіся гадоў пятнаццаць назад.

**Не хвалюйцеся!**
**15.06.2009.** На фестываль песні і паэзіі ў Маладзечна было запрошана дзесяць паэтаў. Перад тым як накіравацца выступоўцаў у навучальныя ўстановы горада, Міхась Казлоўскі, які курыраваў нас, патэлефанаваў дырэктару адной з іх, каб даведацца, ці падрыхтаваліся да сустрэчы земляка Кастуся Цыбульскага. Дырэктар бадзёра адказаў: "Вы не хвалюйцеся! Мы ведаем, што ў нас будзе выступаць паэт Цыбулькін!"

**Алесь Жук і "Усё забудзецца..."**
**15.06.2009.** Падпісаўшы дамову на выданне кнігі ў серыі "Школьная бібліятэка", да мяне зайшоў павітацца празаік Алесь Жук. Напачатку мы адзін аднаму паскардзіліся на даждж, а потым я пацікавіўся: "Над чым новым цяпер працуеце?" — "Пішу вольную прозу. Кароткую, бессюжэтную. З сюжэтамі мне стала пісаць нецікава. Пішу пра тое, што мне помніцца. А кніжка будзе называцца "Усё забудзецца..." — адказаў Алесь Аляксандравіч і, сумна ўсміхнуўшыся, дадаў: "Пішу, і мне цікава, але ці будзе каму цікава напісанае мной, не ведаю..."

**Махалёты ў Амерыцы не лётаюць...**
**15.06.2009.** Адчыняюцца дзверы, і ў мой кабінет заходзіць чалавек гадоў шасцідзесяці. Невысокі і вусаты, як я. Нясмела прывітаўшыся, кажа: "Вы, відаць, мяне пазналі". — "Ага..." — адказваю я і спрабую ўспомніць, калі і з якім творам гэты чалавек прыходзіў да мяне. "Я вам прынёс махалёт", — узрадавана тлумачыць мужчына прычыну свайго прыходу. "Прыпамінаю..." — кажу я і працягваю слухаць. "Пасля наведвання вас я стаў папулярным. Мне сталі званіць бізнесмены. Пазванілі двое. Потым усё заглухла, і мной перасталі цікавіцца. У Амерыцы спрабавалі рабіць махалёты па маіх чарцяжах, але яны там чамусьці не лётаюць..." — "У нас грошай няма на ваш махалёт", — перапыняю аповед канструктара, і ён, падзякаваўшы мне за ўвагу, самотна зачыняе дзверы за сабой...

**Калегі Гальперына**
**15.06.2009.** Не паспеў "пераварыць" сустрэчу з канструктарам, як пазваніла з Салігорска паэтка: "Я ўчора вас бачыла па тэлевізары! Вы ў Маладзечне выступалі на песенным фестывалі. Віншую! Мне вельмі не спадабалася, што вы чыталі не па памяці, а з кніжкі. Мы ж з вамі калегі! Я таксама ў Салігорску часам выступаю. Невыразна выступіў і наш калега Навум Гальперын". — "Навум Гальпяровіч", — удакладняю я. "Так, Гальперын, і трэці нейкі паэт таксама невыразна чытаў з кніжкі!" — закончыўшы крытыкаваць, жанчына запыталася: "А можна, я вам свае вершы пачытаю?.."

**Напалеон Орда, Дзіма і дождж**
**16.06.2009.** Хадзіў на радыёстанцыю "Мір", дзе расказваў пра кнігу Леаніда Несцерчука "Напалеон Орда. Шлях да Бацькаўшчыны". Запрасіў малады журналіст Дзіма, якога я адразу папярэдзіў, што буду гаварыць па-беларуску, а інакш зусім не прыйду. Хлопец не разгубіўся, і мы з ім у прамым эфіры амаль сорак хвілін прагаварылі. Дамоў, нягледзячы на нудотны і даўно абрыдлы дождж, вяртаўся з добрым настроем…

**Рыхтуем да друку**
**16.06.2009.** Рыхтуем да друку "Чужую бацькаўшчыну" Вячаслава Адамчыка. Сёння да мяне прыходзіў Адам Глобус — прынёс ранейшае выданне гэтага рамана, якое вычытваў сам Вячаслаў Уладзіміравіч, для зверкі з новым наборам. Кніжка выйдзе ў наступным месяцы ў серыі "Школьная бібліятэка". Спадзяюся, душа Вячаслава Уладзіміравіча, убачыўшы з неба сваю "Чужую бацькаўшчыну" на паліцах кнігарань, усцешыцца тым, што я і пра яго не забыўся…

**Вышыванка і Барадулін**
**17.06.2009.** Да мяне ў рэдакцыю зайшоў Алесь Камоцкі. Пагаварыўшы пра свае бацькоў, прыгадалі Рыгора Барадуліна. Ён цяпер ва Ушачах. Яму там добра. Гады два таму Рыгор Іванавіч часта гаварыў пра сваю смерць, думаў пра тое, як ён і ў чым будзе ляжаць у труне. Хацелася яму быць у вышыванцы, і Алесь расстараўся, каб Рыгору Іванавічу яе пашылі. Пасля таго, як з'явілася ў Паэта вышыванка, ён перастаў гаварыць пра сваю смерць. "А дзе Рыгор Іванавіч хоча, каб яго пахавалі?" — пытаюся ў Алеся. "Ніякіх варыянтаў. Толькі побач з маці", — адказвае суразмоўца, і я пагаджаюся з пажаданнем Паэта, і ўспамінаю яго радкі: "Трэба дома бываць часцей! Трэба дома бываць не госцем!"...

**Пацюпа і Тарас на Парнасе**
**17.06.2009.** Юрась Пацюпа цяпер у сваіх Азёрах. Піша каментарыі да "Тараса на Парнасе". Тэлефаную, каб прыспешыць справу, бо пара ўжо кніжку здаваць у друкарню. Падымае трубку Юрасёва маці, і пакуль яна яго кліча пагаварыць, я ўяўляю Пацюпу ў шортах колеру хакі па-панску седзячым у скураным фатэлі за дыхтоўным пісьмовым сталом, побач кава з каньякам... Крыху ахрыплы голас самога Пацюпы вяртае мяне ў рэальны свет.

**Купала будзе не супраць...**
**17.06.2009.** Музей Янкі Купалы 5 ліпеня будзе праводзіць традыцыйнае свята паэзіі ў Вязынцы. Прапанавалі быць вядучым усёй імпрэзы. Спіс выступоўцаў па маёй просьбе апаэтызавалі і амаладзілі Аксанай Спрынчан і Валерынай Куставай. Думаю, Купала будзе не супраць пачуць іх галасы.

**Дунін-Марцінкевіч, Багушэвіч і Янушкевіч**
**17.06.2009.** Язэп Янушкевіч зноў з'ехаў у Польшчу. І цяпер мы не можам з ім скантактавацца, каб зняць пытанні ў яго прадмове да факсімільнага выдання "Дудкі беларускай" Францішка Багушэвіча. Аднак справа на месцы не стаіць, як і не стаяла, калі рыхтавалі двухтомны Збор твораў Дуніна-Марцінкевіча, да якога пісаў каментарыі Язэп Язэпавіч. Пісаў доўга, таму часам здавалася, што піша сам пра свае творы стары Дунін-Марцінкевіч, а Янушкевіч сядзіць над яго душой і чакае гатовага матэрыялу... А можа, літаратуразнаўца і сядзеў над душой Дуніна-Марцінкевіча?..

**Рехеѕо**
**18.06.2009.** Нядаўна выдалі кнігу "Мінск: падарожжа па горадзе", вокладка якой зроблена ў форме вядомай у Еўропе гульні пад назвай рехеѕо. Квадраты з карцінкамі-выявамі знакамітых мясцін і асоб, кожная з якіх паўтараецца двойчы, выразаюцца і перамешваюцца. Удзельнікі гульні па чарзе разбіраюць карцінкі і параўноўваюць выявы. Выйграе той, у каго па сканчэнні гульні карцінак з аднолькавымі выявамі назбіраецца найбольш. Я амаль два тыдні пераадольваў спакусу паспрабаваць самому згуляць у рехеѕо. І сёння, убачыўшы на стале ў нашага мастака парэзаную на квадраты вокладку кнігі "Мінск: падарожжа па горадзе" прапанаваў яму згуляць. Згуляў і прайграў. Зайшоўшы да сябе ў кабінет, адчуў жаданне вярнуцца да мастака, каб зноў згуляць і на гэты раз выйграць. Праз паўгадзіны палавіна выдавецтва гуляла ў рехеѕо.

**Гітара і оперны голас**
**18.06.2009.** Па далькажыку пазваніў мой даўні сябра — паэт Павел Дзмітрук. Ужо некалькі гадоў я не чуў яго. Пахваліўшыся жонкамі, пачалі расказваць адзін аднаму пра дзяцей. Паўлава дачка займаецца стварэннем лялек, і вельмі паспяхова. А сын наогул вучыцца ў Санкт-Пецярбургу ў кансерваторыі на опернага спевака. Недзе ў дзявятым класе хлопцу захацелася іграць на гітары, і ён папрасіў бацьку купіць яму інструмент за баксаў трыццаць. Павел запытаўся ў сына: "Навошта табе гітара за трыццаць баксаў? Калі купляць, дык хаця б за баксаў трыста. Да ўсяго, калі ў цябе няма слыху, дык наогул ці трэба нешта купляць. Схадзі спачатку на праслухоўванне ў гурток мастацкай самадзейнасці". Хлопец пайшоў і, вярнуўшыся, сказаў, што яго праслухаў выкладчык з нашай кансерваторыі, які кіруе гуртком, і параіў кідаць сваю школу і ехаць у Маладзечна, дзе вучацца таленавітыя дзеці. Аказалася, што ў сына Паўла Дзмітрука голас опернага спевака. І калі б не захацеў хлопец навучыцца іграць на гітары, то ў лепшым выпадку сёння б вучыўся на якім-небудзь філфаку ці журфаку, а то і наогул служыў бы ў войску і, маршыруючы на пляцы, оперным голасам спяваў: "Не плач, дзяўчонка, прайдуць дажджы..."

**Вальтэр і Казлоўскі**
**19.06.2009.** У "Кнігазборы" Міхась Казлоўскі выдае "Выбраныя творы" Віктара Вальтэра, які, нарадзіўшыся ў 1902 годзе, пражыў усяго дваццаць дзевяць гадоў. У кнігу ўвайшлі раман "Роджаныя пад Сатурнам" і аповесць "Аднабочнікі". І гэта не першы літаратар, творы якога Міхась вяртае нам з нябыту. Ён вяртае, а некаторыя таварышы, трымаючы ў руках яго працу, пачынаюць выказваць свае думкі, як гэта можна было б зрабіць лепей, крытыкуюць і амаль ніхто добрага слова не кажа маладзечанскаму краязнаўцу. Ды яму, па вялікім рахунку, нашых удзячных слоў і не трэба, для яго галоўнае — калі не можаце і не хочаце дапамагчы, дык хоць не перашкаджайце рабіць справу...

**Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета Беларусі завяршыў свой чарговы сезон трохдзённай імпрэзай у старажытным Нясвіжы. Прыгожы музычна-тэатральны праект зноў, як і мінулым летам, выклікаў вялікую цікавасць у самай шырокай публікі, улучыўшы ў кола гледачоў не толькі мясцовы люд, але і гасцей з розных гарадоў Беларусі, сталічных аматараў мастацтва, афіцыйных асоб. Заўважце: яго ніхто не называе пачаткам новай культурнай традыцыі. Бо па сутнасці гэта працяг, адраджэнне духу тых еўрапейскіх традыцый, што здавён фарміравалі непараймальным і артыстычным ладам свайго жыцця колішнія ўладары нашай некаранаванай сталіцы. Сучасны фестываль “Вечары Вялікага тэатра ў замку Радзівілаў” — гэта масток між мінулым і заўтрашнім, гэта жывая, абуджаная памяць пра вытокі айчыннага прафесійнага мастацтва, сімвалічнае вяртанне да магутных, але воляю гісторыі занядбаных каранёў старадаўняй, багатай і складанай беларускай нацыянальнай культуры.**




# Музыка як генетычны код

## Адраджаюцца лепшыя традыцыі княжацкага дома

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ, фота Віктара Кавалёва**

Між гістарычных камяніц; у прысадах старога парку; ля замкавых муроў; наўкруг ратушнай вежы з гадзіннікам, меладэкламацыя якога не дае забыцца на вечны і хуткаплынны Час, — ген творчасці, натхнёнага мастацтва лунае ў самім паветры гэтага дзівоснага горада! Нездарма тут які ўжо год утульна пачуваюць сябе “Музы Нясвіжа” — асветніцкі фэст Нацыянальнага акадэмічнага канцэртнага аркестра Беларусі, дый НАВТ оперы і балета напоўніцу адчуў зацікаўленасць і гасціннасць, асаблівую, глыбінную глядацкую культуру нясвіжскай публікі.

Мастацкі кіраўнік “Вечароў...”, мастацкі кіраўнік творчага аб’яднання “Беларуская Капэла” Віктар Скорабагатаў назваў палац у Нясвіжы свяшчэнным месцам для беларускай культуры, значнасць якога для нас можна параўнаць са значэннем Луўра для французаў, Эрмітажа — для расіян, Прада — для іспанцаў. Менавіта ў Нясвіжы ў 1730 г. нарадзіўся першы на тэрыторыі Беларусі адкрыты тэатр. Нашы першыя сімфанічныя партытуры, опера, балет ствараліся таксама тут. Знаныя ў Еўропе мастакі, паэты, музыканты, балетмайстры працавалі пры двары князёў Радзівілаў; гадаваліся тут і свае таленты. А да музычна-тэатральных імпрэз, што ладзіліся ў княжацкім доме, спрычыняліся не толькі яго гаспадары ды госці, але і ўсе насельнікі замка, і навакольны люд. І славутай радзівілаўскай бібліятэкай, між іншым, маглі бясплатна карыстацца звычайныя нясвіжскія месцічы.

Дырэктар Нацыянальнага гісторыка-культурнага музея-запаведніка “Нясвіж” Сяргей Клімаў падчас прэс-брыфінга зазначыў:

*— Вечары獲 опернага тэатра трапляюць ва ўнісон з новай музейнай канцэпцыяй запаведніка. Як вядома, пасля чарады гістарычных падзей статус галоўнага сямейнага будынка Радзівілаў змяніўся. Гэта быў ужо не колішні абарончы замак, а своеасаблівы аванпост еўрапейскай культуры сярод пушчаў ды балот беларускіх. Радзівілы тут, можна сказаць, запалілі агонь еўрапейскай культуры і падтрымлівалі яго досыць доўга, праз многія пакаленні, бо гэты род валодаў замкам 400 гадоў. І цяпер у новай музейнай канцэпцыі мы як бы вяртаем тагачасныя функцыі замка. Бо музей, дзе проста пад шклом дэманструюцца статычныя экспанаты пад наглядам бабулі-назіральніцы, — нецікавы нікому, ён састарэў сто гадоў таму. У адпаведнасці з цяперашняй канцэпцыяй мы надалей будзем развіваць свае стасункі і з оперным тэатрам, і з тэатрамі драматычнымі, з культурна-гістарычнымі суполкамі. Некалькі сцэнічных пляцовак ёсць у замку, апроч унутранага двара. Заканчваецца праца над аднаўленнем цудоўнай тэатральнай залы, якую Радзівіл Пане Каханку спецыяльна надбудаваў для прыёму польскага караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага. Там, паводле архіўных дакументаў, быў тэатр, і тэатр там цяпер аднаўляецца; для яго нават набываем раяль “Stainway”. Хацелі б, каб там ладзіліся не толькі разовыя сцэнічныя імпрэзы, а каб мы з оперным тэатрам склалі пэўны каляндар падзей, які зацікавіў бы турыстычныя кампаніі.*

*Ёсць яшчэ камерная белая, г. зв. бальная, зала, прыдатная для невялікіх мерапрыемстваў — скажам, музычных вечароў. Разам з Віктарам Скорабагатавым абмяркоўваем ідэю “прыцягнуць” у Нясвіж які-небудзь міжнародны выканальніцкі конкурс. Таму прыкладаем вялікія намаганні, каб тут была прафесійная, сучасна абсталяваная сцэна. І, нарэшце, — г. зв. Зялёны тэатр: калісьці на адным з замкавых валоў у Радзівілаў быў летні тэатр. Вось гэтыя ўсе пляцоўкі мы і хочам задзейнічаць у новым жыцці замка.*



*Гаспадары дома былі людзьмі набожнымі, таму ў адноўленым замку будзе прадстаўлена і сфера веры: ёсць дамоўленасць з Мітрапалітам Тадэвушам Кандрусевічам наконт асвячэння капліцы, якая таксама будзе своеасаблівай пляцоўкай для музычных вечароў. Для капліцы, дзе ёсць галерэя прыкладна на 70 пасадачных месцаў, трэба набыць прадметы рэлігійнага культу і арган — і можна ладзіць канцэрты арганнай музыкі, а на вялікія святы там будуць правіцца набажэнствы.*

Асабліва насычаны на падзеі выдаўся першы дзень фэсту. Двойчы, з перапынкам, у Нясвіжскай ратушы была прадстаўлена праграма “Вяртанне рамансa” ў выкананні струннага квартэта “Серэнада” і оперных салістаў Таццяны Трацяк ды Станіслава Трыфанава. Інструментальныя нумары, старадаўнія рамансы, папулярныя лірычныя песні, дуэты публіка прымала на “ўра”. Вольны час мы скарысталі для экскурсій: ратуша, касцёл, замак... Зазірнулі ў маляўнічы, умыты даждом, парк, дзе шчыравалі спеўныя птушкі, гуляла рыба ў прудах, а высока над галавой, у квецені ліп, гудзелі пчолы.

Калі сонейка, якое ўсё ж такі выйшла з-за хмар, пакіравала на спачын, ва ўнутраным двары замка пачаўся паказ легендарнай оперы Уладзіміра Солтана “Дзікае паляванне караля Стаха”. Тыя, хто патрапіў на гэтае відовішча, засталіся ў захапленні ад якасці жывога гучання аркестра, галасоў хору і салістаў, ад светлавых эфектаў, ад выгляду сцэны, элементам афармлення якой стаў сапраўдны ўнутраны фасад самога палаца. Побач са сцэнай, дзе разгортвалася каларытнае, сапраўды містычнае відовішча, пад асобным навесам размяшчаўся аркестр, якім кіраваў маэстра Вячаслаў Воліч. З першымі гукамі аркестра ў вечаровым небе з’явіліся імклівыя лёгкія птушкі. Яны рассякалі паветра над сцэнай сярпамі-крыльцамі, гучна “перамаўляючыся” між сабою. І доўга яшчэ тэму знакамітага вальса — пранізлівага лейтматыва оперы — суправаджалі неверагодна звонкія рулады самотнай ластаўкі, чый спеў дамінаваў нават над аркестравым tutti...

Маэстра Вячаслаў Воліч, удзельнік ужо многіх музычных праектаў на вольным паветры, з прыемнасцю адзначае, што ў такіх умовах узнікае новая якасць гучання, тым болей — у Нясвіжы, дзе эфект “каменнага мяшка” дазваляе абыходзіцца без гукаўзмацняльнай тэхнікі, дзе ўзнікае ўнікальная акустыка, дзякуючы якой інструментальныя галасы і вакал пачынаюць жыць паводле адмысловых законаў і раскрываць свае глыбінныя нюансы. А дадайце да гэтага вечаровыя фарбы, рамантычны настрой у прыродзе падчас летняга змяркання, жывыя гукі прыроднага наваколля — і ўзнікае шчаслівае пачуццё нараджэння новай гармоніі!

Шыкоўна гучаў аркестр, з вялікай самааддачай, натхнёна і артыстычна выступілі і артысты хору, і, вядома ж, салісты Алена Бундзелева, Уладзімір Громаў, Юрый Гарадзецкі, Аляксандр Кеда, Яраслаў Пятроў, Аляксандр Дрынеўскі, Аляксандр Жукаў, Міхаіл Пузанаў, Дзмітрый Трафімук...

У наступныя дні ў Нясвіжы таксама ўладарыла музыка, якая гучала і ў касцёле, і ў замкавым двары. Але пра гэта — іншым разам...



***На здымках: генеральны дырэктар НАВТ оперы і балета Беларусі Уладзімір Грыдзюшка і дырэктар Нацыянальнага гісторыка-культурнага музея-запаведніка “Нясвіж” Сяргей Клімаў падчас прэс-брыфінга; унутраны двор замка Радзівілаў; заслужаны артыст Беларусі Аляксандр Кеда (Дубатоўк) і лаўрэат міжнароднага конкурсу Алена Бундзелева (Яноўская) у оперы “Дзікае паляванне караля Стаха”.***

## ART-пацеркі

**Лана ІВАНОВА**

Дзень Незалежнасці краіны Нацыянальны акадэмічны канцэртны аркестр Беларусі адзначыў прыгожым мастацкім праектам, які прадставіў набыткі айчыннай музычнай спадчыны ў кантэксце сучаснага выканальніцтва. Гэта было пятае па ліку свята “Гасцёўня Напалеона Орды” ў Іванаўскім раёне, на радзіме нашага знанага земляка — мастака, піяніста, кампазітара, даследчыка і педагога. Аркестр пад кіраўніцтвам Міхаіла Фінберга зладкаваў “Гасцёўню...” пры падтрымцы Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь ды Іванаўскага райвыканкама. Імпрэзы мастацка-асветніцкага фэсту адбыліся ў Доме культуры СВК “Крытышын-агра” (канцэрт “Свята струннага аркестра” ў выкананні камернага калектыву пад кіраўніцтвам Валерыя Сарокі), у Доме культуры вёскі Махро (новая праграма “Напалеон Орда — гонар Іванаўскай зямлі” ансамбляў флейтыстаў, кларнетыстаў, трубачоў, салістаў на драўляных духавых інструментах, вакальнага калектыву). Музыканты Нацыянальнага акадэмічнага канцэртнага аркестра Беларусі і яго салісты далі вялікі вечаровы гала-канцэрт пад кіраўніцтвам маэстра М. Фінберга на Цэнтральнай плошчы Іванава.

Канцэртны сезон у Беларускай дзяржаўнай філармоніі завяршыўся, але музыка ў яе сценах гучыць. Напрыклад, у Малой зале імя Р. Шырмы 14 ліпеня мае адбыцца праграма “Каханне і жыццё жанчыны”, у цэнтры якой будзе аднайменны вакальны цыкл Роберта Шумана. Прагучаць таксама інструментальная сюіта Дарыуса Міё “Стварэнне свету” (першае выкананне ў Мінску) ды вакальны цыкл Дзмітрыя Шастаковіча “Сатыры” на вершы Сашы Чорнага. Гэта сумесны праект Ансамбля салістаў Дзяржаўнага акадэмічнага сімфанічнага аркестра Рэспублікі Беларусь і маэстра Аляксандра Анісімава, расійскай спявачкі Ірыны Крыкуновай ды беларускай піяністкі Дашы Мароз.

У Рэспубліканскім тэатры беларускай драматургіі шукаюць (зусім паводле чэхаўскага героя!) “новыя формы”. Вынік пошукаў можна ўбачыць на прэм’еры аўтарскага праекта кіраўніка РТБД Валерыя Анісенкі “Чэхаў на пленэры”. Яго лецішча разам з наваколлем створыць антураж загараднай сядзібы, дзе будзе ўзноўлена атмасфера п’ес рускага класіка: “Чайкі”, вядомай у сцэнічным, а некаторым тэатралам і ў пленэрным варыянтах, ды “Дзядзькі Вані” (нядаўняя пастаноўка). Апроч спектакляў, паказ якіх прызначаны на 16, 22 і 23 ліпеня, гледачам прапануецца традыцыйнае чэхаўскае чаяванне, дэгустацыя беларускіх страў і напояў, фотасесія з артыстамі, гушканне на арэлях, купанне ў “вядзьмарскім” возеры... Тэатр ахвотна інфармуе гледачоў наконт сваёй незвычайнай работы, але папярэджвае: колькасць білетаў на прэм’еру абмежаваная.

Сёння адзначае 60-годдзе Пётр Юрчанкоў — заслужаны артыст Беларусі, вядучы майстар сцэны Тэатра-студыі кінаакцёра Нацыянальнай кінастудыі “Беларусьфільм”. Працуе на кінастудыі ён адразу пасля заканчэння акцёрскага факультэта ВГІКа, у тэатры-студыі — з часу яго заснавання. Амаль 40-гадовы творчы шлях Пятра Юрчанкова — гэта ролі больш як у трох дзясятках фільмаў і запамінальныя сцэнічныя вобразы ўва многіх спектаклях. Летась артыст узнагароджаны медалём Саюзнай дзяржавы за высокія творчыя дасягненні, за гуманізм у мастацтве, вялікі асабісты ўнёсак ва ўмацаванне дружбы між дзяржавамі.

Алесь СУХАДОЛАЎ,
фота Валерыя Патапенкі

**На эксперыментальнай сцэне Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі адбылася спроба ўвасаблення п'есы "Шэры-брэндзі, ангел мой…" Юрыя Станкевіча. Праект яшчэ да пачатку працы над ім выклікаў шэраг спрэчак, што і нядзіўна: творчасць пісьменніка доўгі час выступае каталізатарам вострай палемікі ў культурных колах.**

# Уцёкі — гэта не выйсце…

Сам Станкевіч сябе драматургам не лічыць, хоць і з'яўляецца аўтарам некалькіх адметных п'ес. З іх "Шэры-брэндзі, ангел мой…" найбольш адпавядае патрабаванням сцэнічнасці, мо таму і была адзначана ў свой час грашовай прэміяй на конкурсе, праведзеным пад эгідай Міністэрства культуры і Міністэрства аховы здароўя Беларусі. Мне гэта п'еса трапіла на вочы ў 2003 годзе — як публікацыя часопіса "Маладосць". Тады запомніўся яе галоўны персанаж — Раман, хлопец радыкальных поглядаў, "бадай што скін". Менавіта такіх герояў не хапае беларусам, асабліва нашай сённяшняй моладзі: змагароў, мужных, рашучых, здатных супрацьстаяць навакольнай цемры. І падалося, што нядрэнна глядзеўся б гэты спектакль на падмостках колішняй "Вольнай сцэны", цяпер — РТБД. А нядаўна прыйшоў працаваць у гэты тэатр і быў надзвычай усцешаны, што п'еса "Шэры-брэндзі, ангел мой…" прынята тут да пастаноўкі, няхай на малой сцэне: гэта ж Станкевіч — аўтар, якому ёсць што сказаць.

Гэты твор неаднойчы здымаўся з паліц і разглядаўся рознымі тэатральнымі суполкамі з мэтай яго пастаноўкі. Ды толькі сёння знайшоўся чалавек, які наважыўся прасунуць гэты матэрыял на сцэну: маладая рэжысёр Наталля-Разалія Родзіна. Дык жа творчасць Ю. Станкевіча і адрасаваная найперш моладзі, і толькі маладое пакаленне можа ўспрыняць радыкальны аўтарскі "месэдж". Тэатральны бамонд, самі сцэны Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі даўно, здаецца, адвыклі ад гэткай манеры размовы з гледачом. Злабадзённасць, згушчэнне фарбаў, грамадскае гучанне, вастрыня праблематыкі — чамусьці ад усяго гэтага мы імкнёмся схавацца ў шкарлупіне эстэцтва, сентыменталізму, вонкавай прыгажосці. Але ж Бог не ствараў свет у ідылічных фарбах, і спектакль мае права гаварыць пра цемру, а, галоўнае, як у выпадку з "Шэры-брэндзі…", — пры выйсце з яе. І ён гаворыць!

Дзеянне адбываецца ў хоспісе, дзе знайшлі сабе прытулак хворыя на СНІД маладыя героі п'есы. Сярод іх — ужо згаданы Раман; Васіль, інтэлектуал і ахвяра наркаманіі; былая манекеншчыца Вера ды Эма, дзяўчына лёгкіх паводзін. Маладзёны робяцца ўдзельнікамі жудаснага эксперыменту, калі вокны хоспіса закратоўваюць, а на ўваходзе ставяць ахову: у горадзе дзейнічае маньяк-сіданосец, што коле людзей інфіцыраванай іголкай, і ўсе хворыя трапляюць пад падазрэнне. Людзі, што знаходзіліся ў фатальнай роспачы, раптам усведамляюць каштоўнасць кожнай хвіліны свайго жыцця. Зняволенне падштурхоўвае іх да рашучых дзеянняў, і яны ладзяць уцёкі. Але ці магчыма ўцячы ад самога сябе, сваёй хваробы, лёсу? Уцёкі робяцца паваротным момантам у развіцці кожнага з персанажаў. Усведамленне немінучасці смерці прасвятляе кожнага з іх.

Спектакль не дасягнуў яшчэ стадыі гатоўнасці, але ўжо відавочна, што выканаўцы паразумеліся са створанымі драматургам вобразамі. (Хіба што маньяк-кікбаксёр Ян у выкананні Дзмітрыя Мядзведзева недастаткова ўражвае вонкавай фактурай, затое акцёр удала, пераканаўча перадае ўнутраную сутнасць персанажа — зацкаванага чалавека з прыхаванай паталагічнай агрэсіяй.)

У п'есе найбольш удала выпісаны вобраз Рамана, нядрэнна — Васіля, але іншыя героі абмаляваны досыць агульнымі рысамі. Рэжысёру давялося пераадолець нямала складанасцей, дапрацоўваючы лінію развіцця кожнай дзейнай асобы. У сцэнічнай версіі Н. Родзінай на першым плане апынуўся не барацьбіт Раман, а наркаман Васіль з яго натуральнымі чалавечымі сумневамі і спадзяваннямі. На ўчынках Рамана пабудаванае знешняе дзеянне, але ўнутраная архітэктоніка спектакля звязана з маральнымі пакутамі Васіля. Сенсітыўны персанаж, філосаф, магчыма, што і творчая асоба, праз сваю слабасць ён не здольны кінуць выклік гнятліваму існаванню і таму хаваецца ад яго ў схронах наркатычнага экстазу. Але суровае жыццё прымушае яго — асуджанага праз падчэпленую хваробу гніць на ложку хоспіса, — вярнуцца да аб'ектыўнай рэальнасці. Нягледзячы на, здавалася б, відавочную нерашучасць, слабахарактарнасць



Васіль не мірыцца са сваёй поўнай абязручанасцю і здзяйсняе акт самагубства. Яго ахвяра падштурхоўвае астатніх герояў, у тым ліку і нязломнага Рамана, да пераасэнсавання жыццёвых каштоўнасцей.

Роля Васіля — сіданосца на апошняй стадыі хваробы — у спектаклі, безумоўна, самая складаная. Выконвае яе малады артыст Кірыла Навіцкі. На яго ігры трымаецца драматычны малюнак імпрэзы. Акцёр імкнецца адчуць свой персанаж, і яго шчырыя, поўныя болю рэплікі не давалі спектаклю праваліцца і стрымлівалі паверхоўны смех нядобразычлівых гледачоў. Складаней было працаваць выканаўцам жаночых роляў. У п'есе вобраз Веры раскрываецца збольшага ў рэмарках і значна саступае ў выразнасці каларытнай, прыблатнёнай Эме. Ад выканаўцаў патрабуецца нямала майстэрства, ды і ўласна жыццёвага досведу (паказаць цяжарнасць, роспач смяротна хворага чалавека), каб дастварыць гэтыя вобразы на сцэне. Задача для маладых актрыс Марыі Пятровіч (Вера) і Юліі Шаўчук (Эма) няпростая, але два паказы спектакля ўжо засведчылі пэўную эвалюцыю гэтых роляў.

Раман у выкананні Андрэя Шылько — нястрымная энергія, валявы пасыл, імкненне да лідарства… Выяўленыя артыстам якасці персанажа рухаюць наперад дзеянне імпрэзы, падбадзёрваюць гледача, трымаюць яго ў напружанні. Але ў некаторых момантах Раман падаецца занадта прасталінейным і брутальным, не раскрывае адпаведнай псіхалагічнай глыбіні. Гэта датычыцца, напрыклад, сцэны з'яўлення кікбаксёра Яна. Раман павінен выявіць сваю духоўную перавагу перад грубай фізічнай сілай. Але выглядае гэта хутчэй як жывёльнае падпарадкаванне моцным слабейшага, і не зразумела, дзе тут Давід, а дзе — Галіяф. Магчыма, акцёрам не хапае свядомага паглыблення ў складаную праблематыку п'есы, якая, канечне, можа кагосьці і адштурхоўваць, але, на жаль, датычыцца кожнага з нас. Развіццю спектакля "Шэры-брэндзі…" паспрыяў бы паказ не для сталых тэатралаў, а той аўдыторыі, якой яна ў першую чаргу адрасавана: падлеткам, студэнтам, можа, нават, г. зв. праблемнаму гледачу, з якім магло б адбыцца абмеркаванне пастаноўкі.

Спектакль шматпластавы і шматпланавы, і дарма сёй-той папракае драматурга ў тым, што ён занадта прасталінейны і падае свае думкі "ў лоб". А хіба не ёсць тут прыхаваная алегорыя: мажліва, пад паказаным хоспісам маецца на ўвазе ўсё чалавецтва, цывілізацыя. Яно ад пачатку, на ментальным узроўні, інфіцыраванае вірусам самазнішчэння, і як доўга чалавек пратрывае, — у гэтым заключаецца сутнасць Эксперыменту, пастаўленага над планетай Зямля. Гэта ідэя скразной лініяй праходзіць праз творчасць Ю. Станкевіча. Можна не прымаць яго погляды, можна іх аспрэчваць, але нельга не пагадзіцца з тым, што высновы пісьменніка небеспадстаўныя. Як жыць, як выжыць у асяроддзі, што коціцца ў прорву?.. Спектакль прапануе свой варыянт адказу: ні ў якім разе не прагінацца пад наваколле, што дэградуе, а змагацца, супраціўляцца, радыкальным чынам парываючы са сваімі і чужымі слабасцямі. Такі "месэдж" новага сцэнічнага твора да сучаснай моладзі, і гэтыя думкі, згадзіцеся, павінны гучаць і быць пачутымі.

Мастацкае вырашэнне спектакля, знойдзенае Марынай Шуста, адабрана да ўдзелу ў Пражскай квадрыенале — найбуйнейшай у Еўропе сцэнаграфічнай выстаўцы. У спектаклі гучаць кампазіцыі актуальных айчынных рок-выканаўцаў (Б. Н., Кася Камоцкая, Аляксандр Патліс), што дазваляе наладзіць масток да бальшыні патэнцыйных гледачоў, далёкіх ад тэатра. Акцёрам і рэжысёру давялося працаваць "на супраціўленне", каб адстаяць гэтую пастаноўку. Я схіляю перад імі галаву — за паслядоўнасць, трывушчасць. Першыя крокі ніколі не бываюць лёгкімі…

Смяяцца з праблем СНІДу, наркаманіі, таталітарызму — гэта не толькі праява душэўнай нявыхаванасці, гэта яшчэ і своеасаблівая праява ахоўнага рэфлексу гледача. Аснову дэкарацый спектакля "Шэры-брэндзі, ангел мой…" складаюць 12 люстраных кубоў, у якіх адбіваецца не толькі тое, што дзеецца на сцэне, але і ўся глядзельная зала, адкуль раз-пораз чуецца недарэчны смех. Дык з каго смяёмся, шаноўныя? Ад чыіх праблем імкнёмся ***ўцячы***?



## Годнасць і сумленне чалавека

Ефрасіння Леанідаўна Бондарава (25.11.1922—30.06.2011) прыйшла на факультэт журналістыкі ў далёкім і знакавым 1945 годзе. Да гэтага была праца яшчэ школьніцай на раённым радыё ў Лёзна, вучоба ў Ленінградскім універсітэце (1940—41), якой перашкодзіла вайна. Па ўспамінах Ефрасінні Леанідаўны, на вайне загінуў брат, які вучыўся на кінамеханіка, і яна паклялася звязаць сваё жыццё з кінамастацтвам. Журналісцкую дзейнасць пачынала адказным сакратаром лёзненскай раённай газеты "Ленінскі сцяг".

У Е. Бондаравай спалучыліся высокі прафесіяналізм ды апантанасць справай свайго жыцця. Верагодна, што як сапраўды таленавіты чалавек яна б рэалізавала сябе і ў іншых галінах мастацтва ці грамадскага жыцця, але кінакрытыцы пашанцавала больш за іншых. Спачатку як крытык, а потым як навуковец і педагог Ефрасіння Леанідаўна стварыла школу беларускай кінакрытыкі. Е. Бондарава вядомая як таленавіты журналіст, навуковец, прафесар, доктар філалагічных навук і творца, якога ласкава называюць "матрыярхам" беларускай кінакрытыкі.

На журфаку цэлы шэраг пакаленняў можна лічыць Бондараўскімі. Гэта і тыя, каму цяпер за семдзесят, і тыя, каму за трыццаць, і тыя, хто скончыў факультэт у новым тысячагоддзі.

Ефрасіння Леанідаўна не дажыла да свайго 90-годдзя. Мы загадзя рыхтаваліся да юбілею, планавалі ўрачыстасці, навуковую канферэнцыю. Усё гэта адбудзецца, але ўжо з горыччу страты. Упэўнены, што ў нашай краіне з'явяцца і Бондараўская прэмія ў галіне кінамастацтва, і Бондараўскія чытанні на факультэце журналістыкі.

Ужо цяпер відавочна, што ад нас сышла "чалавек-эпоха". Ефрасіння Леанідаўна была адной з апошніх, хто належыў да пакалення пачынальнікаў, стваральнікаў сучаснай беларускай культуры. Пачынаецца "эпоха вучняў". Хочацца спадзявацца, што яны ўтрымаюць планку чалавечай годнасці, прафесіянальнага майстэрства сваёй настаўніцы.

Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, дзеячы культуры і мастацтва выказваюць спачуванне родным і блізкім Бондаравай Ефрасінні Леанідаўны, якая пайшла з жыцця пасля працяглай хваробы.

Заслужаны дзеяч навукі БССР, доктар філалагічных навук, прафесар, лаўрэат спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь дзеячам культуры і мастацтва ў галіне крытыкі і мастацтвазнаўства, лаўрэат прэміі Беларускага саюза журналістаў, Беларускага саюза літаратурна-мастацкіх крытыкаў, Ефрасіння Бондарава ўсё сваё жыццё прысвяціла служэнню айчыннай кінематаграфіі. На працягу многіх гадоў яна перадавала свой багаты навуковы вопыт маладому пакаленню.

Самаадданая творчая праца, актыўная грамадзянская пазіцыя, высокая прынцыповасць і патрабавальнасць у спалучэнні з чулымі і ўважлівымі адносінамі да людзей здабылі ёй аўтарытэт і павагу работнікаў культуры.

Светлая памяць аб нястомнай у працы, добрай, уважлівай у асабістых адносінах Ефрасінні Бондаравай назаўсёды захаваецца ў нашых сэрцах.

**П. Латушка, У. Карачэўскі, А. Сільвановіч, С. Сухавей, С. Леановіч, П. Крывастаненка, В. Васільеў, Р. Смольскі**

# Багата тэм, багата і праблем

**Раман МАТУЛЬСКІ,
дырэктар Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі,
фота Кастуся Дробава**

Высокае прызначэнне — несці веды людзям — выконваюць самыя розныя сацыяльныя інстытуты: даследчыкі, пісьменнікі, выдавецтвы, рэдакцыі перыядычных выданняў, бібліятэкі… Роля кожнага з іх у выкананні свайго абавязку перад грамадствам вельмі вялікая. Аднак толькі разам яны здольны паспяхова здзейсніць сваю місію. Таму галоўная бібліятэка краіны і газета "Літаратура і мастацтва" аб'ядналі свае намаганні і распачалі праект — "Бібліятэчны сшытак".

Бібліятэкі з'яўляюцца адным з важнейшых інстытутаў грамадства, які забяспечвае перадачу інфармацыі ад аднаго чалавека іншаму, ад аднаго пакалення другому, выконвае выхаваўчыя і асветніцкія функцыі, урэшце, фарміруе грамадскую свядомасць. Адпаведна, значна ўзрастае роля структур, якія падтрымліваюць інфармацыйнае забеспячэнне развіцця эканомікі, навукі, адукацыі. Сярод такіх структур бібліятэкі займаюць адно з першых месцаў.

На нашых вачах мяняюцца сродкі апрацоўкі інфармацыі, адбываецца імклівае развіццё тэхнікі. Гэта вымушае бібліятэкі шукаць новыя формы дзейнасці, знаходзіць новыя сродкі для ажыццяўлення сваіх асноўных функцый: захавання нацыянальнай кніжнай спадчыны, аператыўнага папаўнення сучаснымі інфармацыйнымі рэсурсамі, якаснага абслугоўвання і задавальнення інфармацыйных патрэб грамадства, этычнага, патрыятычнага і экалагічнага выхавання і многіх іншых.

Многія з гэтых пытанняў знойдуць сваё адлюстраванне на старонках "Бібліятэчнага сшытка", які зможа паўнавартасна прадставіць ролю бібліятэкі ў развіцці кніжнай культуры. Шэраг сапраўды актуальных пытанняў і тэм будзе абмеркаваны ў межах гэтага праекта.

Адной з такіх тэм, якія павінны звярнуць на сябе ўвагу чытача, можа стаць праектная дзейнасць бібліятэк. Бясцэнныя кніжныя помнікі, якія рэпрэзентуюць нацыянальную і сусветную спадчыну, далёка не заўсёды могуць трапіць у рукі ўсіх ахвотных. Іх невялікая колькасць, фізічны стан захавання, месцазнаходжанне, абмежаванні ўладальніка і іншыя фактары не дазваляюць забяспечыць шырокі доступ да іх, зрабіць іх паўнавартасным набыткам грамадскасці. У такой сітуацыі многія бібліятэкі праводзяць шматлікія акцыі і мерапрыемствы, рэалізуюць буйныя навукова-выдавецкія праекты, імкнучыся папулярызаваць кніжную спадчыну, забяспечыць як мага больш шырокі доступ да сваіх каштоўных фондаў і помнікаў з замежных збораў.

Форм дзейнасці для дасягнення абазначаных мэт можа быць шмат: ад стварэння электронных копій асобных кніжных помнікаў і ўключэння іх у электронныя бібліятэкі і базы даных да выпуску навуковых і мастацкіх выданняў, прысвечаных кніжнай культуры, да перавыдання асобных помнікаў у выглядзе факсіміле.

Досвед такой працы ўжо маюць асобныя беларускія бібліятэкі, і ён можа быць вельмі цікавым для шырокіх колаў грамадства. У выніку рэалізацыі некаторых з гэтых праектаў ажыццяўляецца поўнатэкставая і бібліяграфічная рэканструкцыя гістарычных беларускіх кнігазбораў, факсімільна перавыдадзены асобныя кніжныя помнікі (Слуцкае Евангелле, "Топографические примечания на знатнейшие места…"), выпушчана з друку рэпрэзентатыўныя выданні (альбомы, календары, паштоўкі), шматлікія электронныя выданні, якія папулярызуюць нацыянальную кніжную спадчыну.



Многія з рэалізаваных праектаў вырaслі з працаглай навукова-даследчай работы, якую праводзяць беларускія бібліятэкі. Безумоўна, вынікі найбольш значных даследаванняў у галіне вывучэння беларускай кнігі таксама павінны стаць вядомымі шырокай грамадскасці праз "Бібліятэчны сшытак".

Сучасныя беларускія бібліятэкі, апроч іншага, — яшчэ і выдавецкія ўстановы. Многія з выданняў бібліятэк, безумоўна, выклікаюць цікавасць у чытача, бо яны прысвечаны актуальным праблемам вывучэння гісторыі, сучаснага становішча і магчымай будучыні беларускай кнігі, праблемам чытання і калекцыянавання кніг у Беларусі.

Асобную ўвагу варта звярнуць на электронныя выданні, у падрыхтоўцы якіх Нацыянальная бібліятэка Беларусі мае ці не найбольшы досвед у краіне: з 2006 года выпушчана шмат надзвычай цікавых электронных выданняў, многія прысвечаны айчыннай і сусветнай літаратуры, выяўленчаму і музычнаму мастацтву, асобным яркім дзеячам беларускай культуры.

Мы спадзяёмся, што на старонках "Бібліятэчнага сшытка" адбудзецца грамадскае абмеркаванне найбольш надзённых пытанняў камплектавання фондаў беларускіх кніжніц, набыцця сацыяльна-значнай літаратуры, стасункаў бібліятэк з выдавецтвамі.

Вялікую ролю ў кожнай справе адыгрывае канкрэтная асоба, якая з'яўляецца аўтарам або ініцыятарам тых ці іншых трансфармацый, што адбываюцца вакол нас і называюцца прагрэсам. Было б цікава пабачыць на старонках "Бібліятэчнага сшытка" аповеды і развагі такіх людзей пра іх першую бібліятэку, пра кнігі ў іх жыцці.

Багата тэм, багата і праблем, якія могуць быць абмеркаваны на старонках "Бібліятэчнага сшытка". Але няма сумневаў, што ўсе яны знойдуць свайго цікаўнага чытача. У добры шлях!

# Выканаць духоўную місію

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ,
галоўны рэдактар газеты "Літаратура і мастацтва"**

Распачынаючы выданне "Бібліятэчнага сшытка" — чатырох суцэльных старонак у газеце, якая здаўна, на працягу многіх дзесяцігоддзяў, была на службе ў мастацкага слова, айчыннай культуры, мы ставім перад сабою даволі простую і разам з тым складаную, дастаткова шырокую мэту. Па-першае, хацелася б аддаць даніну павагі працы бібліятэчных работнікаў. Сёння менавіта ад іх увагі да кнігі найперш залежыць і развіццё ўвогуле айчыннага кнігавыдання. І справа тут не толькі ў тым, што гаспадары бібліятэк уплываюць на камплектаванне фондаў кніжных скарбніц. А яшчэ і, можа быць, нават найперш, у тым, што, як вопытныя настаўнікі, педагогі, здольныя разгледзець асобу чалавека, што завітвае да іх у вялікія ці малыя залы, бібліятэкары выхоўваюць цягу да чытання, узвышаюць чытацкі занятак да адной з форм не пустога баўлення часу, а жыцця на зямлі. Адзінага, між іншым, у межах тае фізічнай прасторы, якая нам вядомая. Па-другое, вельмі важным падаецца сёння пошук новага фармату зносін бібліятэкі з чытачом і наадварот — чытача з бібліятэкай. Пра гэта мы і будзем расказваць на старонках "Бібліятэчнага сшытка".

Незаўважна, зусім неўпрыкмет аказаўшыся на вастрыні сутыкнення друкаванай кнігі з развіццём новых тэхналогій, бібліятэкары ўзялі на сябе высакародную місію фарміравання духоўнай, маральнай трываласці не аднаго толькі шараговага чытача, нават не грамады разрозненых паміж сабою чытачоў, а ўсяго грамадства. Барацьба за прыярытэты друкаванага слова, клопат у захаванні друкаванай кнігі, якая развіваецца некалькі стагоддзяў, — гэта не высвятленне адносін паміж старым і новым, зусім не жаданне застацца ў мінулым і пазбавіць нашых наступнікаў будучыні. Не, справа, відавочна, у іншым — і традыцыйная кніга, і традыцыйная бібліятэка з'яўляюцца галоўнымі формамі захавання культурнай прасторы, а значыць — грамадства гуманістычнага, дзеяздольнага, разлічанага на вялікую будучыню. Грамадства, якое можа выстаяць перад самымі складанымі наступамі знешняй агрэсіі, што часам парушае свядомасць чалавека і без фізічнага ўціску. Беларусь з'яўляецца вельмі багатай і прадуктыўнай на праявы культуры краінай, і ўмацоўваць гэту адметнасць нашай суверэннай дзяржавы можна толькі ў высокай павазе да кнігі. І, канечне ж, да кнігі як калектыўнага здабытку светлага розуму ўсяго чалавецтва, славянскага і іншых народаў нашай планеты.

Мы вельмі спадзяёмся, што праект, які пакуль будзе прыходзіць да чытача адзін раз на два тыдні, збярэ вакол сябе бібліятэкараў з розных куткоў нашай краіны, будзе заўважаны літаральна па ўсёй Беларусі. Без зваротнай сувязі, без абмеркавання надзённых клопатаў бібліятэчнай галіны самімі яе працаўнікамі, кіраўнікамі проста немагчыма будзе адлюстроўваць аб'ектыўную карціну, рэальны стан спраў. Верым, што аўтарамі "Бібліятэчнага сшытка" будуць сельскія і гарадскія бібліятэкары.

Чакаем удзелу ў творчым праекце самага шырокага пісьменніцкага кола. Паэты і празаікі, выпускаючы ў свет свае кнігі, перш-наперш разлічваюць на падтрымку бібліятэчнага сектара. І ў арганізацыі прэзентацый новых выданняў, і ў справе іншых зносін з чытачамі. А значыць, і многім абавязаны бібліятэчнаму супольніцтву. Дык вось, давайце разам, шырокім супольніцтвам і пройдзем да пашырэння бібліятэчнай, а значыць — кніжнай прысутнасці ў нашым грамадстве.

# Як пясчынка ў акіяне...

**Бібліятэчная супольнасць — гэта не толькі аб'яднаныя сваімі клопатамі прафесіяналы, але і ўсе мы — хто завітвае ў расчыненыя дзверы залаў сучасных чытальняў з тым, каб пашырыць свой кругагляд, удасканаліцца, каб наталіцца духоўнасцю і ведамі. У супольнасці бібліятэкараў — людзі кнігі: усе, хто яе любіць, шануе, чытае і перачытвае. Пра тое, што значыць для яго бібліятэка, і пра свой першы бібліятэчны досвед распавядае доктар філалагічных навук, прафесар, член-карэспандэнт НАН Беларусі, дырэктар Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, старшыня Міжнароднага і Беларускага камітэта славістаў Аляксандр ЛУКАШАНЕЦ.**

— Бібліятэка для мяне — гэта месца, дзе жывуць перш за ўсё кнігі і веды, дзе захоўваецца самая разнастайная інфармацыя, дзе зберагаецца гістарычная памяць людзей і народаў. Гэта месца, дзе можна набыць веды, дакрануцца да глыбокага мінулага і адначасова зазірнуць у будучае. Гэта месца, дзе чалавек не толькі адчувае сябе маленькай пясчынкай у акіяне сусвету і ведаў, але і адначасова ўсведамляе сябе стваральнікам гэтага сусвету, вяршыняй эвалюцыйнага развіцця. Гэта месца, дзе працуюць незвычайныя людзі, якія бачаць у кнізе жывую асобу аўтара і самі адносяцца да кнігі як да жывой інтэлектуальнай асобы. І я ўпэўнены, што, нягледзячы на інтэнсіўнае развіццё і пашырэнне сучасных носьбітаў і распаўсюджвальнікаў інфармацыі, жывая, сапраўдная традыцыйная кніга ніколі не страціць свайго значэння, таму што ў ёй — душа аўтара і цеплыня творчай думкі.

Нягледзячы на тое, што я нарадзіўся ў вясковай калгаснай сям'і, у нас заўсёды з вялікай пашанай адносіліся да кнігі, а ў доме была невялікая бібліятэчка, якая пастаянна папаўнялася. У 60-я гады мінулага стагоддзя выдавалася вялікая колькасць разнастайнай мастацкай літаратуры, у тым ліку і дзіцячай. Добрыя кнігі, асабліва для дзяцей, можна было набыць нават у невялікіх вясковых крамах. Акрамя таго, мой бацька і мой дзед рэгулярна бралі кнігі ў раённай бібліятэцы. Таму для мяне знаёмства з бібліятэкай як месцам захавання кніг не стала нечым незвычайным. Проста наведванне кожнай новай бібліятэкі захапляла маштабам і аб'ёмам інфармацыі.

Найбольш запамінальным для мяне стаў не першы крок у бібліятэку наогул, а знаёмства з Дзяржаўнай бібліятэкай СССР імя У. І. Леніна (ці "Ленінкай", як тады яе называлі), куды я ўпершыню трапіў у 1978 годзе, калі паступіў у аспірантуру Інстытута рускай мовы АН СССР. Яна ўразіла мяне сваёй незвычайнай аўрай, нейкай асаблівай неперадавальнай атмасферай урачыстасці і веліччасці. Такое адчуванне стваралася з самых першых крокаў па вестыбюлі. Шырокая мармуровая лесвіца з масіўнымі драўлянымі парэнчамі, па якой трэба было падымацца ў чытальную залу, адразу стварала пэўны настрой. А сама чытальная зала! Вялікая, прасторная, з высокай столлю, з радамі шафаў па перыметры, з разнастайнымі энцыклапедыямі і слоўнікамі, з масіўнымі драўлянымі сталамі з настольнымі лямпамі і перагародкамі, каб можна было не бачыць нікога перад сабой. Усё гэта рабіла ўражанне, што ты знаходзішся ў сапраўдным храме навукі, дзе само паветра насычана ведамі і розумам тых, хто тут працаваў. Гэтае адчуванне захавалася ў мяне да сённяшняга дня. Пазней даводзілася бываць у самых розных бібліятэках, у тым ліку і суперсучасных замежных, але ні адна з іх не зрабіла такога моцнага і запамінальнага ўражання.

**Прафесар, дырэктар Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Раман Матульскі даследаванні па гісторыі бібліятэк распачаў, калі задумаў напісаць кнігу пра будучае беларускіх кніжных скарбніц. Неўзабаве акрэсліўся двухтомнік па гісторыі бібліятэчнай справы Беларусі. Першая яго частка ўжо чакае свайго выхаду ў "Беларускай Энцыклапедыі імя Петруся Броўкі", а другая яшчэ пішацца.**

# Раман Матульскі: «Усе разам мы фарміруем сусвет ведаў»

**Ірына ТУЛУПАВА, фота Кастуся Дробава**

— Гісторыя кнігі і бібліятэк у нас найбагацейшая, — распавядае Раман Сцяпанавіч. — Шкада, што нават мы, прафесіяналы, яе амаль не ведаем. Дастаткова сказаць, што першая вядомая нам бібліятэка Полацкага Сафійскага сабора, якая была запачаткавана ў 1066 годзе, узнікла на ўсходнеславянскіх землях амаль аднačасова з бібліятэкай Яраслава Мудрага. Але калі пра бібліятэкі нашых суседзяў ёсць толькі звесткі, то з бібліятэкі Полацкага Сафійскага Сабора да нашага часу дайшлі кнігі. Шкада, што яны не ў Беларусі. Але яны ёсць! Гэта сведчыць пра высокі ўзровень развіцця кніжнай культуры ў Беларусі. Вядомы расійскі даследчык Ю. Лабынцаў піша, спасылаючыся на сусветныя крыніцы, што да канца XVI ст. на тэрыторыі Беларусі і для беларусаў было выдадзена 400 кніг. У Расіі — каля 10, ва Украіне — каля 30. Гэта была краіна асветы, адкуль яна распаўсюджвалася на іншыя тэрыторыі! Гэта той культурны фундамент, на якім мы павінны будаваць сучасную бібліятэчную прастору.

**— Мы можам сёння на прыкладзе тых першых бібліятэк, звесткі пра якія захаваліся, гаварыць пра пашырэнне калі не інфармацыйнага поля, то тагачаснага поля асветы?**

— Бясспрэчна. Бібліятэкі — свайго роду люстэрка грамадства, таго, як яно жыло, чым цікавілася, у што верыла, як сябе бачыла ў сусвеце. У іншыя часы складвалася такое ўражанне, што Беларусь была забытым, неадукаваным краем, дзе жылі непісьменныя людзі. Даследаванне бібліятэк сведчыць пра іншае. Так, да Першай сусветнай вайны на тэрыторыі беларускіх губерняў "Паўночна-Заходняга края", як тады гаварылі, існавала, па прыкладных звестках, каля 7 тысяч бібліятэк. Гэта былі публічныя бібліятэкі, бібліятэкі рэальных вучылішчаў ці гімназій, прыхадскія бібліятэкі пры храмах, бібліятэкі розных таварыстваў кшталту "грамадства цвярозасці", іншыя. Але іх налічвалася 7 тысяч! Для параўнання: цяпер у Беларусі іх — 9,5 тысяч. Зразумела, гэта розныя бібліятэкі: тыя і сучасныя. Але і грамадствы розныя! Бібліятэкі маюць дзіўную асаблівасць. Яны ўзнікаюць і функцыянуюць толькі тады, калі могуць быць выкарыстаны. Калі ёсць людзі, якія ўмеюць пісаць і чытаць. Значыць, была так колькасць людзей, якія ўмелі чытаць! Зразумела, Першая сусветная, грамадзянская, савецка-польская войны, рэвалюцыі пакінулі свой непрыемны адбітак і прывялі да таго, што найбольш актыўная адукаваная частка грамадства альбо загінула, альбо выехала з Беларусі. І, на жаль, пасля такіх катаклізмаў у Беларусі амаль не засталося бібліятэк: паводле крыніц, існавалі 22 бібліятэкі, прычым дробненькія. На жаль, сціплаю засталася і колькасць людзей, якія іх маглі выкарыстаць.

**— Калі мы гаворым пра тое, колькі ж бібліятэк неабходна для насельніцтва, то зазвычай карыстаемся нарматывамі ЮНЕСКА. Але выходзячы з узроўню адукацыі беларусаў і таго, што могуць прапанаваць ім чытальні, ці можна сцвярджаць, што іх у краіне дастаткова?**

— Ведаеце, не так даўно на базе Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі прайшла Генеральная Асамблея Кансорцыума EIFL — міжнароднай арганізацыі, якая аб'ядноўвае бібліятэчныя згуртаванні каля 50 краін свету. І калі я прадстаўляў Беларусь, назваў лічбы: нас каля 9,5 мільёнаў, і мы маем прыкладна 9,5 тысячы бібліятэк! Зусім нечакана для мяне зала заапладзіравала! А людзі прыехалі да нас праз тысячы кіламетраў — з Еўропы, Азіі, Афрыкі, Амерыкі. Гэта прызнанне таго, што ўзровень наш вельмі высокі.



**— Але важны і змест фондаў, таго, што прапануецца для чытання…**

— Я часта прыводжу такія лічбы: для таго, каб мы не толькі адпавядалі еўрапейскім стандартам, але ў нас былі сапраўды функцыянальныя бібліятэкі, нам неабходна павялічыць паступленне новых фондаў прыкладна ў пяць разоў! І зрабіць так, каб бібліятэкі не ператвараліся ў склады. Публічная бібліятэка павінна мець кнігі, якія цікавыя, актуальныя: гэта не павінны быць стосы састарэлых выданняў. І трэба аналізаваць, як фонды абарочваюцца. Добры еўрапейскі паказчык — калі адна кніга ў сярэднім выдаецца пяць разоў за год. Але гэта значыць, што ёсць кніга, якую ніхто не ўзяў, а нейкую — разоў дваццацьтрыццаць. Вось такі паказчык у нас нізкаваты.

**— Павялічыць паступленні друкаванай прадукцыі ў пяць разоў — гэта ў столькі ж разоў больш пісаць творцам, а выдаўцам — выдаваць?**

— Нам трэба памятаць: кніга — духоўная каштоўнасць. Але яна мае матэрыяльную форму, якая патрабуе грашовых сродкаў. І далей задача бібліятэкара — набыць тое, што неабходна грамадству. З біблейскіх часоў бібліятэкі папаўняюцца з дзвюх крыніц. Гэта тое, што выдаецца на гэтай тэрыторыі, і тое, што піша свет. Патокі павінны быць збалансаваныя. Трэба пісаць пра сябе. Але калі нічога не ведаць пра сусвет — не будзе стапрацэнтнай дасведчанасці чалавека. Цяжка ўявіць сабе адукаванага чалавека, патрыёта-беларуса, які не ведае Шэкспіра ці Пушкіна.

Толькі не трэба ўспрымаць усё літаральна. Нам хочацца, каб выдавецтвы Беларусі выпускалі больш добрых, цікавых кніг. Але калі нехта нешта карыснае на планеце напісаў, яно павінна быць у нас — на даступнай мове і ў даступнай форме. Ёсць попыт — павінна быць прапанова. Гэта як у гіпермаркеце. Іншая справа — адказнасць бібліятэкара-прафесіянала за змест. Ці павінен, прыкладам, прадавец рэалізоўваць прадукты, якія шкодныя? Мы ведаем, што чыпсы — не самая лепшая ежа. Але яны ёсць у продажы. Зразумела, куды лепш піць сок з беларускіх яблыкаў, чым кока-колу. Але і яна ёсць у продажы. І я лічу, што трэба стварыць умовы, каб сапраўды неабходная інфармацыя, якая працуе на фарміраванне нацыянальных каштоўнасцей, была прыярытэтнаю. Каб маладому чалавеку ў першую чаргу трапляці не "чыпсы", а карысная прадукцыя.

Мы збіраем фонды і ставім за мэту — амаль на 100 працэнтаў сабраць нацыянальны паток. Гэта выданні Беларусі, пра Беларусь, на беларускай мове. Таксама — тое, што выходзіць па-за межамі і найбольш каштоўнае. Але існуюць і іншыя нацыянальныя бібліятэкі. У Польшчы і Арменіі, ва Украіне — і ўсе разам мы фарміруем сусвет ведаў.

**— Як бібліятэкі ў рэгіёнах могуць выконваць высокія запатрабаванні чытачоў?**

— Функцыянаванне публічных бібліятэк на месцах ва ўсім свеце і ў нас таксама ў многім залежыць ад адказнасці мясцовай улады. Вельмі часта, наведваючы бібліятэкі суседзяў, у той жа Нямеччыне, можна сустрэцца з парадоксам: на адной зямлі шыкоўная бібліятэка, своеасаблівы "касмічны карабель". А варта праехаць некалькі дзясяткаў кіламетраў — сустрэнеш такую бібліятэку, дзе, бывае, страшна адчыніць дзверы. У нас мяжа не такая выразная. Па матэрыяльнай базе чытальняў мы выглядаем годна. А камплектаванне іх фондаў — клопат і мясцовай улады таксама. Бясспрэчна, ёсць бібліятэкі, укамплектаваныя вельмі добра. І ў першую чаргу — дзякуючы Указу Прэзідэнта Беларусі, у якім запісана, што 15 працэнтаў фінансавання бібліятэк неабходна накіроўваць на камплектаванне фондаў. Гэта ў свой час выратавала многія бібліятэкі і цяпер трымае іх. Таму што ніжэй за 15 працэнтаў выдаткоўваць нельга. Але варта не толькі спадзявацца на грошы з цэнтралізаванага бюджэту. Папаўненне фондаў ва ўсім свеце складаецца са шматлікіх крыніц: гэта мясцовыя сродкі, сродкі прадпрымальнікаў, неабыякавых людзей, суайчыннікаў, якія выехалі ў замежжа, але помняць пра радзіму.

Я думаю, што на ўзроўні мясцовых улад і грамадзян павінна быць адказнасць, усведамленне таго, што, калі мы хочам выхаваць сваіх дзяцей годнымі грамадзянамі, адукаванымі і добрымі спецыялістамі, мы павінны думаць пра тое, як іх выхоўваць. Калі мы ўкладаем сродкі ў бібліятэкі, то вектар развіцця маладога чалавека фарміруем інакш. Будучыню бібліятэк малююць рознымі фарбамі. І кнігавыдаўцы апошнім часам б'юць трывогу: быццам людзі не чытаюць, кніга страціла свае пазіцыі. Але кніга не знікае, проста форма перадачы інфармацыі мяняецца.

Кніга пры яе нараджэнні была элітнай. Яе маглі мець дома толькі вельмі і вельмі багатыя людзі. Прыйшоў час, і кніга стала масавай. На маю думку, цяпер яна зноў становіцца элітным таварам. А ёй на змену як масавы тавар прыходзіць электронная кніга. І я асабіста ў гэтым трагедыі не бачу. Зразумела, расклад руху цягнікоў больш зручна глядзець па Інтэрнэце, чым вазіць з сабою тоўсты даведнік. Навуковая, вучэбная інфармацыя таксама ўсё больш прагрэсуе ў электронным выглядзе. За апошнія чатыры гады звяртанне да электронных рэсурсаў нашай бібліятэкі ўзрасло ў 33 разы! Пасля таго як мы набылі электронныя рэсурсы і навучылі чытачоў імі карыстацца. Але сёння пры тым, што створаны ідэальныя ўмовы карыстання Інтэрнэтам, ён складае адзін працэнт задавальнення запытаў чытачоў: доступ у сеціва ёсць шмат у каго. Але там няма той інфармацыі, якая статусна адпавядае ўзроўню Нацыянальнай бібліятэкі. Мы працуем з закрытымі рэсурсамі буйнейшых інфармацыйных цэнтраў свету, у якіх электронны паток у дзясяткі разоў большы за традыцыйны. Напрыклад, мы не выдаём дыплома ні Оксфарда, ні Кембрыджа. Але наведвальнікі нашай бібліятэкі маюць магчымасць карыстацца той жа інфармацыяй, што і студэнты, і прафесары гэтых універсітэтаў. Таму галоўнае — каб людзі чыталі. І ведалі, што чытаць. Галоўнае заўсёды — змест.

---

## Пытайцеся — адказваем

# Што такое кансорцыум?

**Рыта СТАХ**

*"Чуў, што на базе Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі праходзілі мерапрыемствы Генеральнай асамблеі Кансорцыума EIFL. Што гэта такое? Чым яны могуць дапамагчы ў развіцці бібліятэк?"*

**Юрый Шыш, Мінск.**

Пра тое, што значыць само слова *кансорцыум*, даведнікі пішуць наступнае: гэта форма часовага аб'яднання незалежных прадпрыемстваў і арганізацый з мэтай каардынацыі іх прадпрымальніцкай дзейнасці. У міжнароднай практыцы кансорцыумы ствараюцца для сумеснай барацьбы за атрыманне заказаў. Унутры кансорцыума ролі размяркоўваюцца так, каб кожны ўдзельнік дасягнуў найвышэйшага тэхнічнага ўзроўню пры найменшых выдатках.

Пра тое, якія задачы ставяць перад сабой бібліятэчныя кансорцыумы ды пра Генеральную асамблею EIFL, "ЛіМу" распавялі намеснік дырэктара НББ **Таццяна КУЗЬМІНІЧ** і каардынатар EIFL у Беларусі **Вячаслаў БРЫЧКОЎСКІ**.

— Правядзенне такой канферэнцыі ў Мінску азначае прызнанне Беларусі як дзяржавы, якая актыўна працуе ў сусветнай інфармацыйнай прасторы, і таго, што яна інфармацыйна адкрытая.

Міжнародны кансорцыум EIFL аб'ядноўвае кансорцыумы бібліятэк самых розных краін свету і спрыяе пашырэнню ведаў для людзей. Сёння ў нашай краіне ролю кансорцыума выконвае Савет бібліятэк Беларусі па інфармацыйным узаемадзеянні пры НББ. Ён быў арганізаваны ў пачатку 2009 года і прадоўжыў дзейнасць кансорцыума БелЛібНэт, стварэнне якога і далучэнне да міжнароднай дзейнасці адбылося больш за 10 гадоў таму.

Пад эгідай Савета мы адкрылі віртуальную чытальную залу НББ для 50 бібліятэк і інфармацыйных цэнтраў нашай краіны. Супрацоўніцтва з міжнародным кансорцыумам дае магчымасць набываць самыя лепшыя электронныя інфармацыйныя рэсурсы з вялікімі скідкамі, у параўнанні з іх коштам — даволі танна. І прапаноўваць гэта нашым бібліятэкам і карыстальнікам з розных рэгіёнаў Беларусі.

Міжнародны кансорцыум перыядычна праводзіць свае асамблеі, на іх збіраюцца прадстаўнікі 45-50 краін свету, папярэднія пасяджэнні праходзілі ў Швецыі, Балгарыі, Егіпце, сёлета — у нас у Беларусі. Больш як 80 чалавек абмяркоўвалі шляхі набыцця і распаўсюджвання электронных інфармацыйных рэсурсаў, кірункі дзейнасці бібліятэк у межах інтэлектуальнай уласнасці, а таксама падыходы да стварэння рэсурсаў адкрытага доступу вучэбнага і навукова-даследчага характару і іншыя пытанні, якія цікавяць бібліятэчную супольнасць свету.

Правядзенне Генеральнай Асамблеі важна для той краіны, на тэрыторыі якой яна адбываецца. Па-першае, гэта магчымасць удзяліць нічацьа у ёй не толькі аднаму ці двум прадстаўнікам, а значна большай колькасці. У 2011 годзе ад Беларусі іх было 11. Падчас пасяджэнняў працавала выстава інфармацыйных прадуктаў і паслуг такіх вядучых агрэгатараў інфармацыі, як Burgundy Information Services Ltd; Cambridge University Press; EBRARY; Emerald Group Publishing Limited; GALE/Cengage; EBSCO; Institute of Physics Publishing; JSTOR; Nature Publishing Group; OECD; Oxford University Press; Royal Society Publishing; Sage Publications Ltd; Taylor & Francis; Wiley – Blackwell. І для бібліятэчнай супольнасці нашай краіны была вельмі спрыяльная магчымасць звярнуць увагу на спецыфіку сваёй працы з названымі і іншымі базамі даных, правесці перамовы з прадстаўнікамі сусветна вядомых інфармацыйных рэсурсаў. Усё гэта дазволіць бібліятэкам і інфармацыйным цэнтрам нашай краіны забяспечыць беларускіх даследчыкаў, выкладчыкаў, спецыялістаў-практыкаў новай аўтарытэтнай інфармацыяй праз доступ да сусветна вядомых баз дадзеных. А таксама каардынаваць работу з бібліятэкамі іншых краін свету па стварэнні і выкарыстанні якасных навуковых рэсурсаў на бясплатнай аснове, сумесна выпрацоўваць прапановы па ўдасканаленні заканадаўчых нормаў аўтарскага права (дарэчы, наш адпаведны беларускі закон у дачыненні да дзейнасці бібліятэк прызнаны адным з самых прагрэсіўных у свеце).

# Не падзяляць, але аб'ядноўваць

Алесь СУША,
фота аўтара

**Вільня, палітычны, эканамічны, культурны цэнтр некалі найбуйнейшай дзяржавы Еўропы — Вялікага Княства Літоўскага, і сёння захоўвае свой шматкультурны характар. У значнай ступені гэтаму спрыяе яе багатая культурная спадчына, якая з'яўляецца аднолькава блізкай для розных народаў, нашчадкаў колішняга Вялікага Княства: найперш беларусаў і літоўцаў, але таксама і палякаў, расіян, татар, яўрэяў і некаторых іншых народаў.**

Безумоўна, наша агульная спадчына павінна не падзяляць, а аб'ядноўваць усіх нас, бо яна сведчыць пра колішняе адзінства, блізкасць нашых культур, багатую гісторыю сумеснага пражывання і плённага ўзаемадзеяння.

Таму ніколькі не дзіўна, што Вільня і сёння працягвае збіраць прадстаўнікоў суседніх краін, што займаюцца вывучэннем агульнай для ўсіх культурнай спадчыны.

Адна з такіх сустрэч у Вільні прайшла ў першай палове чэрвеня ў межах Міжнароднага навуковага семінара "Даследаванне пісьменства Вялікага Княства Літоўскага" ("Lietuvos Didžiosios kunigaikštystės raštijos tyrimai"). Прадстаўнікі Беларусі, Літвы, Польшчы, Расіі і Украіны сабраліся для супольнага абмеркавання праблем вывучэння кніжнай спадчыны Вялікага Княства.

Тэма была абраная абсалютна не выпадкова. Кніжнасць нашых продкаў сапраўды не можа не ўражваць сваім багаццем і разнастайнасцю. У Княстве друкаваліся і перапісваліся кнігі на самых розных мовах: царкоўнаславянскай і старабеларускай, лацінскай і польскай, літоўскай і латышскай, на ідышы і іўрыце, а таксама на французскай, італьянскай, нямецкай і многіх-многіх іншых. Пры гэтым выкарыстоўваліся розныя сістэмы пісьма (часам нават на адной мове, як прыклад — беларускай): кірыліца, лацінка, арабскае пісьмо, яўрэйскія алфавіты і інш.

Культурны сінтэз у кніжнасці Княства стаў вынікам з'яўлення ўнікальнай спадчыны, якую сёння немагчыма адназначна атаясамліваць з толькі адной пэўнай культурай незалежна ад сучаснага месцазнаходжання таго ці іншага помніка.

Стракаты характар кніжнай спадчыны Вялікага Княства выклікае шэраг пытанняў у сучасных даследчыкаў. І як паказвае практыка, толькі сумеснае іх абмеркаванне прадстаўнікамі розных краін, розных культур, розных кнігазнаўчых школ можа прывесці да больш-менш аб'ектыўнай, шматбаковай і поўнай ацэнкі значэння гэтай спадчыны.

Агульны тон для ўсіх наступных выступленняў семінара быў зададзены загадчыкам аддзела рэдкай кнігі Расійскай нацыянальнай бібліятэкі Міколам Нікалаевым.



Прафесар Нікалаеў распавёў пра асобныя цікавыя моманты ў гісторыі кніжнай культуры Вялікага Княства Літоўскага, з якімі яму давялося сутыкнуцца пры падрыхтоўцы сваёй апошняй манаграфіі "Гісторыя беларускай кнігі".

Іншы дыскурс у разуменні кніжнай спадчыны ВКЛ быў прапанаваны другім выступоўцам — вядомым літоўскім літаратуразнаўцам, энергічным даследчыкам Сігітасам Нарбутасам. Не так даўно доктар Нарбутас заняў пасаду дырэктара Бібліятэкі Урублеўскіх Літоўскай акадэміі навук — адной з найбуйнейшых бібліятэк Літвы, якая зберагае багатую калекцыю рукапісных і друкаваных кніжных помнікаў, створаных нашымі продкамі. Гэта бібліятэка заўжды вызначалася высокім узроўнем навуковых даследаванняў па гісторыі кніжнай культуры Вялікага Княства Літоўскага, а даследаванні яе супрацоўнікаў нярэдка станавіліся прыкладам для беларускіх кнігазнаўцаў. На матэрыялах вялікай колькасці помнікаў С.Нарбутас шматбакова прадставіў эвалюцыю літаратурнага працэсу ў Вялікім Княстве.

Багацце кніжнай спадчыны да сённяшняга дня застаецца недастаткова вядомым шырокаму колу грамадства. Таму многія бібліятэкі свету праводзяць шматлікія мерапрыемствы па папулярызацыі нацыянальных кніжных калекцый: ладзяць выстаўкі і прэзентацыі, рэалізуюць навуковыя даследаванні, ажыццяўляюць актыўную алічбоўку ўласных збораў, абменьваюцца лічбавымі копіямі сваіх помнікаў з іншымі бібліятэкамі, у тым ліку і замежнымі, ствараюць буйныя лічбавыя бібліятэкі, публікуюць асобныя помнікі ў выглядзе факсіміле і рэпрынтаў і г.д.

Як аказалася, і беларускі досвед аказаўся вельмі цікавым і нават вельмі багатым у параўнанні з набыткамі суседніх краін. Таму досвед найперш Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі ажывіў зацікаўленасць у двухбаковым і шматбаковым супрацоўніцтве з галоўнай бібліятэкай нашай краіны.

Агучаныя прадстаўнікамі бібліятэк Расіі, Літвы і Беларусі праблемы былі развітыя і яшчэ больш глыбока разгледжаныя даследчыкамі з Украіны і Польшчы.

Так, навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Украіны Валерый Зема засяродзіў увагу слухачоў на пытаннях еўхарыстычнай традыцыі ў іканалогіі і прапаведніцкай дзейнасці колішняй Кіеўскай мітраполіі. Польскі ж даследчык — супрацоўнік Беластоцкага ўніверсітэта Пётр Хомік — распавёў пра шанаванне праваслаўных абразоў у Вялікім Княстве Літоўскім, апісанне іх цудадзейных сілаў у выданнях XVII—XVIII стагоддзяў.

Толькі супольна мы зможам зняць усе перашкоды і спрыяць шматбаковаму (з улікам поліэтнічнага і шматканфесійнага характару Княства), аб'ектыўнаму (з улікам інтарэсаў кожнай краіны) і поўнаму (паасобку такі багаты пласт кніжнай спадчыны ахапіць проста немагчыма) даследаванню кніжнасці Вялікага Княства Літоўскага.

Падчас працы семінара з'явіліся канкрэтныя прапановы аб супрацоўніцтве паміж бібліятэкамі Беларусі і Літвы ў межах каардынацыі навуковай дзейнасці, ажыццяўлення сумесных навуковых даследаванняў, нават узаемавыгаднага абмену лічбавымі копіямі кніжных помнікаў і сумеснага факсімільнага перавыдання найбольш каштоўных з іх.

***На здымку: бібліятэка Урублеўскіх Літоўскай акадэміі навук.***

# У госці да пані Элізы

Марына ІГНАТОВІЧ

**Да сённяшняга дня ў Гродне непадалёк ад сучаснага парку Жылібера, у засені шумналістых дрэў захаваўся домік вялікай пісьменніцы Элізы Ажэшкі. Цяпер у ім, як і пры жыцці творцы, валадарыць інтэлектуальнае, насычанае духоўнасцю, крыштальна-чыстае асяроддзе, дзе перавага аддаецца адвечнай празе чалавека да асветы — тут базуецца інфармацыйна-адукацыйны цэнтр Гродзенскай абласной навуковай бібліятэкі імя Я. Ф. Карскага. Заўсёднікі скарбніцы не прамінаюць парога гэтай хаты.**

У 2011 годзе споўнілася 170 гадоў з дня нараджэння сусветна вядомай пісьменніцы. Усё жыццё "каралевы польскай прозы і пакутлівай праўды", як называў яе Францішак Багушэвіч, было звязана са старажытным горадам Гродна, яго маляўніча-прыцягальнымі ваколіцамі. І горад прызнае ўнікальнасць яе таленту, шчыра дзякуць за творчасць і шануе за высокае майстэрства быць Жанчынаю.

Дзесяць гадоў таму, у 2001 годзе, у "шэрым доміку" Элізы Ажэшкі быў створаны мемарыяльны пакой, прысвечаны жыццю і творчасці пісьменніцы. Такі сціплы вонкавы колер (які ў спалучэнні з белымі аканіцамі ўспрымаецца стрымана-ўрачыста) ніяк не змяншае гістарычнай каштоўнасці скарбу, у ім схавана: штогод для гарадзенцаў і гасцей Гродна праводзіцца звыш 4 тысяч экскурсій на беларускай, рускай, польскай, англійскай і нямецкай мовах. Чытацкія сімпатыі прадвызначаюць кірунак турысцкіх маршрутаў па літаратурных сцежках.

Ёсць адданыя заўсёднікі і ў літаратурна-музычнага салона "У пані Элізы", пасяджэнні якога прысвячаюць жыццю і творчасці пісьменніцы, а таксама знакамітым ураджэнцам Гродзеншчыны. Домік працягвае называць імёны слаўных жыхароў гэтага заходняга краю з 2002 года, калі салон упершыню пачаў збіраць знаўцаў музыкі, прозы ды паэзіі.

Яшчэ адна рысачка-характарыстыка Э. Ажэшкі: яна заўсёды праводзіла для дзяцей-сірот прыгожае, таямнічае, атуленае мяккім, рыпучым снегам сямейнае свята — у гэтым доме праходзілі дабрачынныя ёлкі. Супрацоўнікі абласной бібліятэкі з 2005 года аднавілі традыцыю пісьменніцы.

Сёлета Гродзенская абласная навуковая бібліятэка імя Я. Ф. Карскага правяла шэраг мерапрыемстваў, прысвечаных 170-годдзю з дня нараджэння Э. Ажэшкі. Супрацоўнікі падрыхтавалі буклет "Домік Элізы Ажэшкі" (на беларускай, польскай, рускай і англійскай мовах), які выйшаў у Гродзенскай друкарні накладам 1000 экз. Прайшоў конкурс творчых прац "Эліза Ажэшка вачыма маладых", удзел у якім прынялі вучні агульнаадукацыйных школ Гродзеншчыны. На конкурсе было прадстаўлена звыш 30 творчых прац, сярод якіх — мастацкія карціны, фотаздымкі, вершы, сачыненні.

У межах святочных мерапрыемстваў дзейнічала экспазіцыя дакументаў "Пісьменніца. Грамадскі дзеяч. Жанчына" з фондаў абласной бібліятэкі, аддзела рэдкай кнігі і старадрукаваных выданняў Гродзенскага дзяржаўнага гісторыка-археалагічнага музея, Падляскай ваяводскай бібліятэкі імя Л. Гурніцкага, а таксама з прыватных калекцый гарадзенцаў.

Прайшла Міжнародная навукова-практычная канферэнцыя "Пісьменніца. Грамадскі дзеяч. Жанчына", удзел у якой прымалі прадстаўнікі абласнога і гарадскога выканаўчых камітэтаў, Генеральны консул Рэспублікі Польшча ў Гродне Анджэй Хадкевіч, навукоўцы, краязнаўцы, супрацоўнікі бібліятэк і музеяў, пісьменнікі і паэты з Беларусі і Польшчы, творчая інтэлігенцыя.



У тыя святочныя дні ў "Доміку Ажэшкі" прайшло літаратурнае свята "Пані Эліза запрашае", падчас урачыстага адкрыцця якога адбылося ўзнагароджанне пераможцаў конкурсу творчых прац "Эліза Ажэшка вачыма маладых".

Усе жадаючыя змаглі наведаць мемарыяльны пакой, прысвечаны жыццю і творчасці пісьменніцы, сустрэцца з літаратарамі Гродзеншчыны, прыняць удзел у літаратурнай вечарыне паэта з г. Беластока Яна Леанчука. Для выхаванцаў сацыяльных прытулкаў прайшоў ранішнік у межах дабрачыннай акцыі "Наша добрае сэрца — дзецям".

***На здымку: у мемарыяльным пакоі Элізы Ажэшкі.***

# Сацыяльнае партнёрства ў прасторы і часе

Галіна БУРЫНА,
намеснік дырэктара Брэсцкай абласной бібліятэкі імя Максіма Горкага

**У наш час паспяховае развіццё любой кніжніцы залежыць ад таго, наколькі яна інтэгравана ў сацыяльнае жыццё мясцовай супольнасці. З'яўляючыся адкрытай і агульнадаступнай, бібліятэка аказвае паслугі максімальна шырокай аўдыторыі — у гэтым яе асаблівасць.**

Брэсцкая абласная бібліятэка імя Максіма Горкага мае шмат сацыяльных партнёраў. Да прыкладу, штомесяц мы сістэматызуем інфармацыю пра новыя паступленні ў фонд бібліятэкі па тэмах: "Ідэалогія", "Эканоміка", "Права", што досыць запатрабавана ў аддзеле інфармацыйных тэхналогій аблвыканкама. Гэтая ж інфармацыя размяшчаецца на сайце бібліятэкі. Раз у паўгода якраз для супрацоўнікаў абласнога і гарадскога выканаўчых камітэтаў арганізуюцца выстаўкі-прагляды новых паступленняў.

Так, да пасяджэння калегіі Галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай работы Брэсцкага аблвыканкама бібліятэка арганізавала выязную выстаўку "Беларусь і беларусы ў прасторы і часе", якая экспанавалася таксама на цырымоніі ўручэння дыпломаў аблвыканкама і грашовых прэмій па выніках штогадовага спаборніцтва сярод рэдакцый газет, тэлебачання і радыё, прафесійных журналістаў.

Так павялося ўжо, што ў сценах бібліятэкі праходзяць выязныя пасяджэнні пастаяннай камісіі па пытаннях сацыяльна-культурнай сферы і сацыяльнай абароны насельніцтва абласнога Савета дэпутатаў.

Шмат вядома пра нашу абласную літаратурную прэмію імя У. Калесніка, якая была заснавана ў 2007 годзе. Цяпер яна прысуджаецца ў намінацыях "проза", "паэзія", "дзіцячая літаратура".

Мы практыкуем такую форму працы, як выязныя выстаўкі-прагляды па просьбе розных арганізацый, якія ўсё часцей да нас звяртаюцца. Тэматычныя выстаўкі літаратуры з прэзентацыямі арганізуюцца ў рамках "Педагагічных чытанняў" і "Фестываляў практычнай псіхалогіі", "Дзён спецыяліста".

Бібліятэка супрацоўнічае з Рэгіянальным цэнтрам прававой інфармацыі. Ужо дзесяць гадоў у нас працуе Публічны цэнтр прававой інфармацыі, у якім жыхары могуць карыстацца базамі даных "Эталон" і "Эксперт". З мінулага года ў цэнтры пачала працаваць вучэбная лабараторыя — так званая "Юрыдычная клініка", створаная пры юрыдычным факультэце Брэсцкага дзяржуніверсітэта імя А. С. Пушкіна. У "клініцы" бясплатна дзяжураць студэнты, будучыя юрысты, якія кансультуюць чытачоў — і гэта запатрабавана! Дарэчы, сябруем з універсітэтам мы даўно.

Існуе адметная сістэма прэзентацый выязных выставак для студэнтаў і выкладчыкаў БрДУ імя А. С. Пушкіна. Гэта ўдзел у навукова-практычных канферэнцыях, універсітэцкіх фестывалях і літаратурных чытаннях, тэматычных тыднях і днях. Так, у снежні мінулага года супрацоўнікі бібліятэкі адкрывалі "Тыдзень польскай мовы і культуры" сумесна з кафедрай польскай філалогіі (выстаўка "Грунвальд: погляд праз вякі. Да 600-годдзя Грунвальдскай бітвы" выклікала асаблівую цікавасць), прымалі ўдзел у "Караткевічавых днях", прымеркаваных да 80-годдзя пісьменніка.

Сярод пастаянных вядучых прэзентацый кніг, творчых вечароў і літаратурных сустрэч, арганізуемых бібліятэкай, — кандыдат гістарычных навук, дацэнт, загадчык кафедры гісторыі славянскіх народаў БрДУ імя А. С. Пушкіна А. Вабішэвіч; кандыдат філалагічных навук, дацэнт кафедры беларускага літаратуразнаўства гэтага ж універсітэта Г. Праневіч; выкладчык кафедры беларускага літаратуразнаўства С. Варонік. Дзякуючы ім творчыя сустрэчы са знанымі людзьмі Беларусі набываюць асаблівую непаўторнасць.

Можна згадаць прэзентацыі кніг "Род Дзяконскіх і іх маёнткі на Брэстчыне ў XIX-XX стст.", якую правяла аўтар В. Папко — кандыдат гістарычных навук, дацэнт кафедры філасофіі і культуралогіі БрДТУ; "Брэст у 1919—1939 гг.: дакументы і матэрыялы", якою Дзяржаўны архіў Брэсцкай вобласці распачаў публікацыю найбольш цікавых і значных дакументаў са сваіх фондаў. Альбо акцэнтаваць: выкладчыкі двух універсітэтаў з'яўляюцца аўтарамі артыкулаў, надрукаваных у выданнях бібліятэкі. Але неаспрэчна галоўнае: бібліятэка мае аўтарытэт і ў выкладчыкаў, і ў студэнтаў ВНУ горада. Дарэчы, навучэнцы, у тым ліку студэнты ВНУ, складаюць больш за 40 працэнтаў чытачоў нашай кніжніцы. Да таго ж, многія выкладчыкі ўніверсітэтаў з'яўляюцца нашымі ганаровымі чытачамі і карыстаюцца правамі, якія прадастаўляе ім гэты статус.

Бібліятэка супрацоўнічае таксама з грамадскімі арганізацыямі і ўстановамі, з замежнымі партнёрамі, сярод якіх — Бяла-Падляская гарадская публічная бібліятэка (Польшча), Ровенская абласная дзяржаўная бібліятэка (Украіна), Інстытут імя Гётэ ў Мінску, Інфармацыйны цэнтр Пасольства ЗША ў Рэспубліцы Беларусь, Пасольства Францыі ў Беларусі і "Франка-беларуская зала інфармацыі пра сучасную Францыю" Мінскай абласной бібліятэкі імя А. С. Пушкіна.

Мы шукаем сваё месца ў новай сацыяльна-эканамічнай сітуацыі, наладжваем працу такім чынам, каб зноў быць запатрабаванымі — у самым шырокім грамадскім асяроддзі. Між іншым, у 2011 годзе бібліятэка распачала стварэнне карпаратыўнага электроннага прадукту "Краязнаўства Берасцейшчыны" і плануе працу па фарміраванні баз даных у рамках праекта "Звод кніжных помнікаў публічных бібліятэк Брэсцкай вобласці".

Працягваецца праца і па развіцці міжнароднага праекта "Віртуальная рэканструкцыя бібліятэк роду Сапегаў".

## Штрых-код

Ярына РЫТАМІНСКАЯ

### Што было

**У Віцебскай гарадской** бібліятэцы імя Янкі Купалы адбылося падарожжа па творах класіка "Пра папараць-кветку і людское шчасце".

**У Лідскай** цэнтральнай раённай бібліятэцы прайшла літаратурная гадзіна "У Панямонскім небе Цётчынай зорцы не згаснуць", прысвечаная 135-годдзю з дня нараджэння беларускай паэткі, дзеяча беларускага адраджэння пачатку XX ст. Алаізы Пашкевіч — Цёткі. Прысутныя пазнаёміліся з кніжнай выставай "Палкая і вечна маладая маці беларускіх паэтэс", на якой прадстаўляліся творы пісьменніцы, літаратура пра яе жыццё і дзейнасць.

**Гарадоцкая раённая** дзіцячая бібліятэка Віцебскай вобласці правяла кінавідэачасіну "В. Быкаў. Франтавыя старонкі".

### Што ёсць

**Магілёўская абласная** бібліятэка імя У. Леніна прадстаўляе адкрыты прагляд "Кніжныя помнікі сусветнай культуры: рукапісы і старадрукі". На выстаўцы прадстаўлены матэрыялы, якія распавядаюць пра гісторыю пісьменства і кнігі, пра першадрукароў. Чытачы могуць азнаёміцца з факсімільнымі выданнямі: "Библия Василия Кореня 1692—1696", "Изборник Святослава 1073 года", "Біблія Ф. Скарыны 1517—1519". Прадстаўлена серыя кніг "Бібліятэка літаратуры Старажытнай Русі".

**У чытальнай зале** перыядычных выданняў Брэсцкай абласной бібліятэкі імя М. Горкага экспануецца выстаўка "Краіна вялікага спорту", прымеркаваная да Дня Незалежнасці Рэспублікі Беларусь. Прадстаўлены артыкулы з часопісаў "Беларусь", "Беларуская думка", "Юридический мир" і інш.

### Што будзе

**9 ліпеня** ў Васілішкаўскай сельскай бібліятэцы Шчучынскага раёна для вучняў сярэдніх школ пройдзе літаратурная гадзіна "Вялікая дачка Бацькаўшчыны". Падчас мерапрыемства прагучаць вершы Цёткі.

**12 ліпеня** ў Смаргонскай раённай дзіцячай бібліятэцы ў рамках краязнаўчай гасцёўні адбудзецца літаратурная гадзіна "Пісьменнікі-земляні". Да мерапрыемства будзе падрыхтавана аднайменная электронная прэзентацыя.

**14 ліпеня** Алекшыцкая сельская бібліятэка Бераставіцкай цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы плануе правесці сустрэчу з Я. Сянкевічам, аўтарам кнігі "Роздумы каля свайго генеалагічнага дрэва".

**14 ліпеня** ў Шчорсаўскай сельскай бібліятэцы Навагрудскага раёна пройдзе гутарка "Мая мова — маё люстэрка". Дзеці сярэдняга школьнага ўзросту спрычыняцца да свету беларускай мастацкай і навукова-папулярнай літаратуры.

**17 ліпеня** Поразаўская бібліятэка — цэнтр краязнаўства Свіслацкай ЦБС запросіць аматараў паэзіі на літаратурную вечарыну "Незабыўны Максім Багдановіч", прысвечаную 120-годдзю з дня нараджэння паэта. Удзельнікі пазнаёмяцца з жыццёвым і творчым шляхам М. Багдановіча, наведаюць выставу "Нязгасная зорка паэта". Працягам стане дэманстрацыя электроннага выдання "Літаратурная спадчына Беларусі".

**17 ліпеня** Завідзіненцкая сельская бібліятэка Астравецкай ЦБС плануе правесці вусны часопіс "Мова наша родная" ў рамках акцыі "Чытаем беларускую кнігу" для дзяцей рознага школьнага ўзросту. Будзе афармлена выстава беларускіх дзіцячых часопісаў.

**19 ліпеня** Полацкая гарадская бібліятэка імя Л. Талстога праводзіць гульню-падарожжа "Мы в город Изумрудный идем дорогой трудной".

**22 ліпеня** ў Навагрудскай гарадской дзіцячай бібліятэцы № 2 адбудзецца завочнае гістарычнае падарожжа "Сцяжынкамі спадарыні Гісторыі". Прысутныя даведаюцца пра гісторыю стварэння, асаблівасці архітэктуры Міхайлаўскага і Фарнага касцёлаў, Мікалаеўскай і Барысаглебскай царкваў. Да мерапрыемства будзе падрыхтавана фотавыстава культавых устаноў горада.

**24 ліпеня** Мёрская цэнтральная бібліятэка Віцебскай вобласці запрашае на літаратурную вечарыну "Пясняр партызанскай славы" — да 100-годдзя з дня нараджэння А. Астрэйкі.

**24 ліпеня** ў Мокра-Дубраўскай сельскай бібліятэцы Пінскага раёна адбудзецца конкурс чытальнікаў "Мой любы кут, як ты мне мілы".

## Зачытаныя кнігі

**Гомель сёлета аб'яўлены культурнай сталіцай Беларусі і СНД. А што чытаюць яго жыхары? Рэйтынг найбольш папулярных твораў у чытачоў горада над Сожам прапануе Цэнтральная гарадская бібліятэка імя А. Герцэна**

### Дзіцячая зала

#### Кнігі беларускіх выдавецтваў

1. Лінскі, У. Прыгоды Нуліка. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2010.
2. Олуіч, Г. Нябесная рэчка. — Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2010.
3. Савіцкі, А. Прыгоды Муркі. — Мінск: Юнацтва, 1997.
4. Баравікова, Р. Казачныя аповесці пра міжпланетнага пажарніка і іншых мамурыкаў. — Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2010.
5. Бядуля, З. Сярэбраная табакерка. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2010.

#### Кнігі расійскіх выдавецтваў

1. Матюшкина, Е. Пираты кошмарного моря. — Москва: Астрель; Санкт-Петербург: Сова, 2010.
2. Майер, С. Новолуние. — Москва: АСТ, 2009.
3. Олкотт, Л. Маленькие женщины. — Москва: АСТ, 2007.
4. Томпсон, Э. Моя ужасная няня. — Москва: АСТ, Астрель, 2010.
5. Сестры Воробей. Пыльца на пальцах. — Москва: Росмэн, 2005.

### Аддзел краязнаўства

1. Скринников, И. Добровольцы на защите городов и сёл. — Гомель, 2005.
2. Гомельшчына ў Вялікай Айчыннай вайне. — Гомель, 2005.
3. Рогалев, А. От Гомиюка до Гомеля. — Гомель, 2006.
4. Святло шчымлівай памяці: зборнік вершаў паэтаў Гомельшчыны. — Гомель, 2006.
5. Памяць: гісторыка-дакументальная хроніка Гомеля: у 2-х т. — Мінск, 1998.

### Чытальная зала

#### Кнігі беларускіх выдавецтваў

1. Национальная экономика Беларуси: учебник / Под ред. д-ра экон. наук, проф. В. Н. Шимова. — Минск: БГЭУ, 2006.
2. Современная Беларусь: энциклопедический справочник: в 3-х т. — Минск: Беларуская навука, 2006.
3. Гісторыя Беларусі: у 6 т. / Рэдкал.: Касцюк М. і інш. — Мінск: Экаперспектыва, 2000.
4. Василевич, Г. Конституционное право Республики Беларусь: учебник. — Минск: Книжный дом, 2010.
5. Новик, Е. История Беларуси. С древнейших времён до 2010 г.: учеб. пособие. — Минск: Вышэйшая школа, 2011.

### Абанемент

#### Кнігі беларускіх выдавецтваў

1. Батракова, Н. Территория души. — Минск: Кавалер Паблишерс, 2005.
2. Батракова, Н. Площадь согласия. — Минск: Кавалер Паблишерс, 2008.
3. Солженицын, А. Архипелаг ГУЛАГ. — Мінск: Мастацкая літаратура, 1991.

#### Кнігі расійскіх выдавецтваў (замежныя аўтары)

1. Вербер, Б. Дыхание богов. — Москва: Гелеос, 2007.
2. Вишневский, Я. Одиночество в сети — Санкт-Петербург: Азбука-классика, 2008.
3. Вишневский, Я. Повторение судьбы. — Санкт-Петербург: Азбука-классика, 2007.
4. Гавальда, А. Просто вместе. — Москва: Флюид, 2007.
5. Коэльо, П. Одиннадцать минут. — Киев: София, 2003.

#### Расійскія аўтары

1. Акунин, Б. Алмазная колесница. — Москва: Захаров, 2004.
2. Акунин, Б. Смерть на брудершафт. — Москва: АСТ, 2008.
3. Веллер, М. Легенды Невского проспекта. — Харьков: Фолио, 2000.
4. Вильмонт, Е. Артистка, блин. — Москва: АСТ; Владимир: ВКТ, 2010.
5. Донцова, Д. Кулинарная книга лентяйки. — Москва: Эксмо, 2008.



**Успамінаю, як у Дзень беларускага пісьменства ў родным горадзе Барысаве дэманстравала выстаўку скульптур з мастацкага шкла жыхарка вёскі Лошніца Барысаўскага раёна Валянціна Шутко. Сярод твораў было шмат кветак.**

# І ажывае шкло ва ўмелых руках

**Анатоль БАРЫС,**
**фота аўтара**

Залюбуешся гэтай ювелірнай і ўседлівай работай майстра. Вось Валянціна Аляксандраўна ўключае газавую гарэлку, якая дае на выхадзе вялікую тэмпературу, кампрэсар, які падае паветра, і з дапамогай іх спецыяльны шкладрот, набыты ў Расіі, у горадзе Гусь-Хрустальны Уладзімірскай вобласці, становіцца мяккім. Яна пачынае фантазіраваць — злучаць падыходзячыя па эстэтыцы патрэбныя колеры — і "лепіць", калі можна так выказацца, задуманую скульптуру кветкі, птушкі, жывёлы або нават чалавека.

Так ствараецца прыгажосць з каляровага шкла. Гэтаму Валянціна Аляксандраўна навучылася ад мужа Леаніда Рыгоравіча. Нездарма ў народзе кажуць, што "честна жена мужем". Менавіта ён 24 гады таму ўгаварыў настаўніцу пачатковых класаў пераехаць у вёску Лошніцы, каб была гаспадыняй у доме і памочніцай у няпростым майстэрстве апрацоўкі мастацкага шкла, якому ён сам навучыўся на Барысаўскай фабрыцы мастацкіх вырабаў.

За яе ж плячамі было 25 гадоў педагагічнага стажу: працавала выхавальніцай у дзіцячых садках, настаўніцай пачатковых класаў. У апошнія гады працоўнай дзейнасці перад выхадам на заслужаны адпачынак перакваліфікавалася ў шкладува на Барысаўскай фабрыцы мастацкіх вырабаў.

Разам з мужам радаваліся, калі даводзілася добра падрыхтавацца да выстаўкі на чарговым мерапрыемстве. Назаву некаторыя з іх: удзел у юбілейных урачыстасцях з нагоды 900-годдзя Барысава, на радзіме Янкі Купалы ў Вязынцы на Маладзечаншчыне, Якуба Коласа на Стаўбцоўшчыне. Рыхтавалі ў якасці прыза ластаўку на скрыпічным ключы для фестывалю "Убельскія ластаўкі", які праводзіўся ў вёсцы Убель Чэрвенскага раёна і прысвячаўся памяці кампазітара Станіслава Манюшкі.

Любуюся скульптурай "Цвецік-сяміцвецік". Гэта сімвал фестывалю нацыянальных культур. Узяўшы старт на Барысаўшчыне, ён працягваецца на рэспубліканскім узроўні ў Гродне. "Кожны пялёстак, — тлумачыць Валянціна Аляксандраўна, — сімвалізуе нацыянальнасць. Не хапае аднаго, а гэта значыць, што адкрыта месца для далучэння новых нацый".

На працягу шэрагу гадоў Шутко прымалі ўдзел не толькі ў раённых, але і рэспубліканскіх "Дажынках". Бывалі ў Нясвіжы, Полацку. Іх выстаўкі дэманстраваліся ў Слуцку. Свае вырабы яны прадстаўлялі на "Славянскім базары ў Віцебску". На такіх мерапрыемствах звычайна ёсць магчымасць не толькі паказаць зробленае, але і пазнаёміцца з творамі іншых майстроў: разьбяроў па дрэве, саломапляцельшчыкаў, ганчароў. Асноўныя сімвалы на "Дажынках", лічыць Валянціна Аляксандраўна, — жыта, васількі, вядома, каласкі. Менавіта іх, увасобленых у шкле, пашанцавала Валянціна Шутко падараваць Прэзідэнту краіны на адной з урачыстасцей ля Кургана Славы пад Мінскам.



Валянціна Аляксандраўна мае шмат дыпломаў і грамат рознага ўзроўню за ўдзел у выстаўках. У прыватнасці, за ўдзел у кірмашах у Барысаве, Жодзіна, Салігорску і іншых гарадах. Аддзел культуры Барысаўскага райвыканкама неаднаразова набываў яе цікавыя вырабы для сваіх прызёраў. Валянціна Шутко працягвае прымаць удзел у дабрачынных кірмашах, сродкі ад правядзення якіх ідуць на аднаўленне храмаў.

У гэтай ініцыятыўнай і старанна жанчыны ёсць задумкі і творчае натхненне. Хочацца ёй і надалей працягваць любімую справу мужа, якога не стала шэсць гадоў таму.

Ствараючы прыгажосць, якая аздабляе наша жыццё, Валянціна атрымлівае маральнае задавальненне і дорыць добры настрой іншым.

***На здымках:** Валянціна Шутко ў сваёй мастацкай майстэрні падбірае розныя варыянты будучай скульптуры; прызы для розных фестываляў: "Убельская ластаўка на скрыпічным ключы", "Цвецік-сяміцвецік", а таксама "Каласкі" для штогадовых "Дажынак".*

**Вядучы праекта — рэдактар аддзела мастацтва Віктар Кавалёў**

**Водгукі і матэрыялы дасылайце на e-mail: lim_new@mail.ru з пазнакай "Дзівасвет".**

## З глыбінкі

# «Кола дзён» па-камароўску

Многія беларускія майстры ўжо прызвычаіліся, што летам на некалькі дзён дарогі іх абавязкова прыводзяць на Мядзельшчыну — у вёску Камарова. Вось і сёлета з розных куткоў нашай краіны сюды прыехалі каля двухсот умельцаў, каб прыняць удзел у шостай па ліку рэспубліканскай выставе-кірмашы народных рамёстваў і промыслаў "Камарова — кола дзён".

Многія з гасцей былі не супраць хоць крыху пераняць сакрэты майстроў: вучыліся ткацтву ў Вітольда Малюткі з Валожыншчыны, ганчарству — у Сяргея Шчэрбы з Пастаўшчыны. І выцінанку маглі зрабіць, і з лазы нешта сплесці.

На выставе можна было знайсці сувенір на любы густ і кашалёк: ад гліняных свістулек і саламяных кветак да выразаных з дрэва скульптур ці незвычайных карцін, у якіх спалучаецца дрэва і ручная чаканка па метале. Думаю, мала хто з гасцей мог устрымацца, каб не набыць які падарунак. Так што куплялі людзі і дробныя рэчы, і грунтоўныя работы коштам у некалькі мільёнаў рублёў.

Зразумела, ці ж параўнаеш пастаўлены на паток тавар з вырабам, у які ўкладзены душа і цяпло? Гэта цяпло саграе сэрцы гасцей і кожны год зноў і зноў запрашае іх на свята ў Камарова.

**Алесь ВЫСОЦКІ,**
**г. Мядзел**

# Лётчык з Чавус

Добравядомы на Магілёўшчыне паэт, член Саюза пісьменнікаў Беларусі Іван Пехцераў напісаў аповесць "Нябесныя браты". Кніга выйшла ў свет тыражом 300 экзэмпляраў у Магілёўскай абласной друкарні імя Спірыдона Собаля.

Цікава, захапляльна, праўдзіва падае аўтар чытачу падзеі ваеннага ліхалецця. Сярод герояў аповесці — чырвонаармеец стралок Аркадзь Хруцкі, які разам са сваім сябрам лётчыкам Георгіем Кавалеўскім знішчаў фашысцкія самалёты, бамбіў гарнізоны і ўмацаванні захопнікаў. У адным з паветраных баёў у жніўні 1943 года на Украіне пры вызваленні Данецкай вобласці самалёт мужных байцоў быў падбіты і загарэўся. Машыну можна было пакінуць, уратавацца, аднак сябры-лётчыкі вырашылі інакш. Яны скіравалі свой ІЛ-2 на вышыню, адкуль фашысты вялі шквальны агонь па нашых войсках, што ішлі ў наступ…

Аркадзь Хруцкі нездарма стаў героем кнігі, выдадзенай у Магілёве. Нарадзіўся ён у вёсцы Гарбавічы Чавускага раёна Магілёўскай вобласці. Тут свята захоўваюць памяць пра мужнага земляка. У музеі Гарбавіцкай школы яму прысвечана экспазіцыя, у якую сабраны рэдкія фотаздымкі і ўспаміны пра героя. Цяпер гэту экспазіцыю папоўніла кніга І. Пехцерава "Нябесныя браты".

**Уладзімір ДУКТАЎ,**
**г. Чавусы**

## Афарызм

*Наконт таго, ці шмат здолее адзін. Нават адзін здолее, калі да канца.*

**Уладзімір КАРАТКЕВІЧ**

ЛіМ

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**
**Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі", РВУ "Літаратура і Мастацтва"**
**Галоўны рэдактар Алесь Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ**



**Юрыдычны адрас:**
220034, Мінск,
пр. Незалежнасці, 39, п.4а
**Адрас для карэспандэнцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-84-61
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
**Аддзелы:**
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04, 284-66-71
аддзел "Кніжны свет" — 284-66-71

бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце:
www.lim.by

Пры передруку просьба спасылацца на "ЛіМ". Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Аўтары дапісаў у рэдакцыю паведамляюць свае прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас.
Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.

Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва".
**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
"Выдавецтва "Беларускі Дом друку"
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 1800 рублёў

Наклад — 2801
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк
07.07.2011 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Рэгістрацыйнае пасведчанне
№ 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 3217
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12